**18** — У Сямяціцкім асяродку культуры адбыліся раённыя элімінацыі конкурсу „Беларуская песня '89".

**18** — Раённыя элімінацыі школьнага дэкламатарскага конкурсу адбыліся ў Кляшчэлях.

**19** — У Бельскім доме культуры прайшлі раённыя элімінацыі конкурсу „Беларуская песня '89".

**19** — Бельскі харавы калектыў „Васілёчкі" выступіў з канцэртамі ў Нарве і Трасцянцы.

**20—26** — У Беластоцкім ваяводстве ўпершыню прайшлі Дні культуры Гродзеншчыны. На Беласточчыну прыехалі шматлікія прадстаўнікі беларускага мастацтва, артысты, пісьменнікі і музычныя калектывы. Жыхары Беласточчыны мелі магчымасць шырэй пазнаёміцца з беларускай культурай.

**20** — У зале Беластоцкай філармоніі выступіў з канцэртам калектыў „Белыя росы" з Гродна.

**21** — У клубе ГП БГКТ адбылася сустрэча з гродзенскімі літаратарамі: Данутай Бічэль-Загнетавай, Юркам Голубам і Аляксеем Карпюком. Са слоўна-музычным мантажом выступіў настаўніцкі калектыў з вёскі Струбніца Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці.

**23** — У Бельску адбылося першае, арганізацыйнае пасяджэнне камісіі асветы ГП БГКТ. Старшынёю камісіі выбрана Галена Тапалянская, настаўніца беларускай мовы з Трасцянкі.

**24** — Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Галоўным чынам разглядалася справа пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Актуальныя праблемы, звязаныя з гэтым, прадставіў прысутным старшыня камітэта пабудовы Кастусь Майсеня.

**24** — З візітам у нашай краіне пабывалі: віцэ-міністр культуры БССР Уладзімір Гілеп і старшыня Беларускага фонду культуры, пісьменнік Іван Чыгрынаў. Будучы ў Беластоку сустрэліся яны з кіраўнічым актывам БГКТ. У сустрэчы прынялі ўдзел таксама дырэктар Аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку Марыя Маранда і намеснік загадчыка Аддзела культуры Аблвыканкома ў Гродне Віктар Губіч.

**24** — У клубе ГП БГКТ у Беластоку адбыліся раённыя элімінацыі школьнага дэкламатарскага конкурсу.

**25** — Раённыя элімінацыі конкурсу „Беларуская песня '89" адбыліся ў Беластоку ў памяшканні ГП БГКТ.

**26** — У зале кіно ў Дуброве Беластоцкай адбыўся раённы агляд „Беларуская песня '89".



## САКАВІК

**3** — У памяшканні ГП БГКТ у Беластоку выступіў з канцэртам ашмянскі народны калектыў песні і танца „Крыніцы".

**4** — У Беластоцкай філармоніі адбыўся цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня '89". На працягу амаль 9 гадзін перад слухачамі прайшла цэлая гама артыстаў-аматараў — салістаў, дуэтаў і калектываў з усіх куткоў Беласточчыны. Назаўтра, у нядзелю 5 сакавіка адбыліся два гала-канцэрты лаўрэатаў. Госцем сёлетняга канцэрту лаўрэатаў быў калектыў песні і танца „Крыніцы" з Ашмян. Калектыў гэты на працягу тыдня часу ездзіў па Беласточчыне, даючы канцэрты ў Бельску-Падляшскім, Орлі і Гарадку.

11 — У клубе БГКТ у Бельску Падляшскім адбыліся раённыя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў.

**12** — У Райску (гм. Бельск) адбылася ўрачыстасць з нагоды юбілею 10-годдзя харавога калектыву „Згодныя макі".

**13** — Міхась Шаховіч — член літаб'яднання „Белавежа", сустрэўся са сваімі чытачамі ў Ваяводскай публічнай бібліятэцы ў Беластоку.

**14** — Рэдакцыю „Нівы" наведалі мінскія журналісты: адказны сакратар „Звязды" Уладзімір Андрыевіч і супрацоўнік „Сельскай газеты", Міхал Шымански. Мінскія госці цікавіліся працай нашай рэдакцыі і дзейнасцю Беларускага таварыства ў Польшчы.

**17** — Раённы агляд школьных тэатраў адбыўся ў Кляшчэлях.

**18** — У памяшканні ГП БГКТ у Беластоку пад лозунгам „Беларуская прырода ў паэзіі і прозе" прайшоў цэнтральны дэкламатарскі конкурс для вучняў пачатковых школ. Выступіла 38 вучняў з 18 пачатковых школ.

## КРАСАВІК

**3—7** — Па запрашэнні Беларускага таварыства „Радзіма" ў Мінску пабывала дэлегацыя Галоўнага праўлення БГКТ у складзе: старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі, намеснікі старшыні Аляксандр Іваноўскі і Мікалай Нікалаюк, галоўны рэдактар „Нівы" Віталій Луба. Падчас прабывання ў Мінску былі абмеркаваны формы супрацоўніцтва паміж Беларускім таварыствам „Радзіма" і БГКТ.

**4** — Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны наладзіла ў канферэнцыйнай зале Музея Калініна ў Маскве аўтарскую сустрэчу з Янам Чыквінам. Паэт гаварыў спачатку пра жыццё беларусаў у Польшчы, а затым

пазнаёміў шматлікіх слухачоў са сваімі вершамі з кніг „Сонечная вязь“ і „Светлы міг“, а таксама з перакладамі з польскай паэзіі, апублікаванымі ў літаратурным альманаху „Белавежа '88“.

**7** — У Гайнаўскім доме культуры прайшоў дэкламатарскі конкурс для вучняў сярэдніх школ. Удзельнічала ў конкурсе каля 30 вучняў сярэдніх школ.

**15** — Драматычны гурток з Паўлаў выступіў у Гмінным асяродку культуры ў Дубінах. Акцёры-самадзейнікі паказалі два спектаклі. Першы — „Было гэта ў 1941 г.“ — гэта драматычны абразок паводле аповесці В. Быкава „Кар'ер“. Другі спектакль — гэта камедыя Сакрата Яновіча „Сто хвароб на аднаго чалавека“.

**24—25** — Мужчынскі харавы калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы“ з Рыбалаў і тэатральны калектыў з Паўлаў выступалі гасцінна з канцэртамі ў Іўі, Лежневічах і Ліпнішках (БССР).

**19—23** — Бельскі хор „Васілёчкі“ пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука выязджаў на Беларусь. Выступаў з канцэртамі ў Смаргоні, Крэве, Крушлянах, Залессі і Сіньках. „Васілёчкі“ пабывалі таксама ў Мінску і выступалі перад камерамі ў студыі беларускага тэлебачання.

**28** — У галерэі „Нова“ ў Лодзі была адкрыта выстаўка прац вядомага мастака Міколы Давідзюка.

## МАЙ

**3—4** — Пабывалі на Беласточчыне супрацоўнікі Мінскага тэлебачання. Журналіст Анатоль Майсеня збіраў матэрыялы аб жыцці беларусаў у ПНР для перадачы „Мерыдыян“. Госці наведалі Беласток, Бельск, Орлю, Пашкоўшчыну і Гайнаўку.

**6** — У Бельскім доме культуры адбыўся фінальны агляд школьных тэатраў. Сустрэліся вучні-акцёры з сямі пачатковых школ: бельскай „тройкі“, Орлі, Ласінкі, Дашоў, Кленікаў, Маліннік і Гайнаўкі.

**12** — Агульнапольскі семінар студэнтаў беларускай нацыянальнасці адбыўся ў асяродку адпачынку „Маладосць“ над возерам Мельна (Ольштынскае ваяводства). З дакладам на тэму „Аб справах свядомасці беларусаў у Польшчы“ выступіў д-р Юры Туронак. З цікавымі тэмамі выступілі таксама Яўген Мірановіч і Сакрат Яновіч.

**13** — Рэгіянальны хор з Гарадка пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы ўрачыста адзначаў юбілей 35-годдзя сваёй дзейнасці.

**14** — У Беластоку ў памяшканні ГП БГКТ прайшоў раённы агляд конкурсу „Беларуская песня '89“ для школьнікаў. Удзельнічалі вучні са школ Беластока, Ляўкова, Нарвы, Ласінкі і Рыбалаў.

**20** — У Бельскім доме культуры адбыўся цэнтральны агляд мастацкага конкурсу „Беларуская песня '89“ для школьнікаў. Конкурс быў вельмі багаты, масавы і добра падрыхтаваны.

**27** — У Беластоку адбыўся фінал конкурсу беларусаведы для студэнтаў, які быў аб'яўлены ў пачатку года БГКТ, БАСам і Канадскім таварыствам „Беларусь“ з Таронта. Пераможніцай конкурсу „Што я ведаю пра Беларусь“ з'яўляецца Бася Кучынская, студэнтка Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

## ЧЭРВЕНЬ

**4** — У нашай краіне прайшлі выбары ў Сейм і Сенат ПНР. Упершыню прымалі ўдзел два кандыдаты, выстаўленыя Беларускім грамадска-культурным таварыствам — Сакрат Яновіч — кандыдат у Сенат з Беластоцкага ваяводства, і Яўген Міранович — кандыдат у Сейм з Выбарчай акругі № 10 у Бельску Падляшскім, мандат № 38.

**18** — У Ячне і Хільмонах (гм. Дуброва Беластоцкая) выступаў тэатральны гурток Беластоцкага аддзела БГКТ пад мастацкім кіраўніцтвам Янкі Крупы.

**18** — Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў у мясцовым амфітэатры беларускі фэстын. Прайшоў ён пад лозунгам 70 гадавіны ўтварэння БССР. Фэстын адкрыў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, які шырока расказаў аб гэтай гадавіне. У багатай мастацкай частцы выступілі беларускія калектывы з Гайнаўшчыны, ды не толькі. Важным пунктам праграмы было выступленне танцавальнага калектыву „Васілёк“ са Злучаных Штатаў Амерыкі.

**21—26** — Па запрашэнні рэдакцыі „Нівы“ пабывала на Беласточчыне журналістка „Голасу Радзімы“ з Мінска Тацццяна Аляксандраўна Антонава. Цікавілася яна працай нашай рэдакцыі, дзейнасцю Беларускага таварыства і жыццём беларусаў у Польшчы. Пабывала таксама на ўсіх культурных мерапрыемствах арганізаваных БГКТ у гэтым часе.

**22** — У Бельскім доме культуры адбылася вялікая ўрачыстасць з нагоды юбілею 25-годдзя хору „Васілёчкі“. У Бельск прыехалі слаўныя „Лявоны“ з Воранава Гродзенскай вобласці і маладзёжны танцавальны калектыў „Васілёк“ з Нью-Йорка. На юбілеі прысутнічала таксама журналістка „Голасу Радзімы“ Тацццяна Антонава.

**У ноч з 23 на 24** чэрвеня ў Белавежы праходзіла святкаванне Купалля, на якое з'ехалася мноства людзей. Перад сабранымі выступілі калектывы з Чыжоў, Рыбалаў, Гарадка, Гайнаўкі, а

таксама „Васілёчкі“, „Дубіны“, амерыканскі „Васілёк“ і Воранаўскія „Лявоны“.

**25** — У амфітэатры ў Беластоку адбылося Свята беларускай культуры. З уступным словам выступіў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. У багатай мастацкай частцы выступілі калектывы з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Рыбалаў, Дубіноў. Вялікай і як жа прыемнай неспадзеўкай для беластаччан было выступленне танцавальнага калектыву „Васілёк“ з Нью-Йорка і „Лявонаў“ з Воранава (БССР). У часе канцэрта ў амфітэатры было сабрана 200 тысяч злотых на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы.

**У ноч з 25 на 26** чэрвеня ў Супраслі адбылося Свята Купалля, арганізатарам якога былі нашыя студэнты з БАСа.

**26** — У Беластоцкай філармоніі выступіў з двума канцэртамі амерыканскі танцавальны калектыў „Васілёк“ супольна з „Дубінамі“. **(ял)**

МІКОЛА ГАЙДУК

# АДГЭТУЛЬ МЫ РОДАМ

## СТАГОДДЗЕ ДВАНАЦЦАТАЕ

Каб лепш зразумець сённяшняе, трэба ўважліва зазіраць ва ўчарашняе — такая ўжо адвечная праўда. Таму і прапаную Чытачам „Беларускага календара“ значна аддаліцца ад сучаснасці і ў часе і на адлегласць ды заглянуць, што дзеялася на тэрыторыі цяперашняй Беласточчыны і суседніх з ёю зямель (восемсот год таму назад) — у стагоддзі дванаццатым. Пра тыя часы невядомы аўтар славутага „Слова пра паход Ігаравы“ кажа: „Тады на Рускай зямлі рэдка ратаі пакрыквалі, затое часта крумкачы перакліквaліся, трупы паміж сабой дзелячы, і галкі па-свойму гутарку вялі, збіраючыся ляцець на спажыву“.

## ЦАНА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Гэта быў час, калі рыцарства з Заходняй Еўропы ў першым крыжовым паходзе адціскала з міжземнаморскіх узбярэжжаў Малой Азіі турэцкія арміі і ў кровапралітных бітвах набліжалася да Іерусаліма, натхнёнае жаданнем любой цаной вызваліць з-пад улады магаметан святыя мясціны хрысціянства. Тады, у 1097 г. Святаполк Ізяславіч як вялікі князь кіеўскі аддаў ва ўладанне свайго старэйшага сына Мсціслава вялікае Валынскае княства, сталіцай якога быў горад Уладзімір. За гэтае ж заможнае княства змагаўся Давід Ігаравіч — яго папярэдні ўладальнік, выпіхнуты ў маленькае і малаважнае Дарагабужскае княства. І ў 1099 г., як чытаем у найбольш грунтоўнай крыніцы па гісторыі ўсходніх славян — „Аповесці мінулых часоў“, Давід Ігаравіч „прыйшоў нечакана і захапіў уладзімірцаў, а Мсціслаў зачыніўся ў горадзе (Уладзіміры — М.Г.) з засадаю з берасцян, пінчан, выгашаўцаў. І стаў Давід, аблажыў горад і рабіў частыя штурмы. Аднойчы (вої Давіда — М.Г.) падышлі да горада, пад вежы тыя ж (воі Мсціслава — М.Г.) абараняліся з гарадскіх сцен, і была стралянiна паміж імі, і ляцелі

стрэлы, як дождж. Мсціслаў жа, калі прыцэльваўся, стоячы на забаролах (абмураваным або ахіленым дошкамі памосце на версе абароннай сцяны — М.Г.), быў паранены пад пазуху стралой, праз шчыліну паміж дошкамі. І звялі яго ўніз. І тае ж ночы ён памёр".

Прыгадваем гэты абразок адной з братабойчых войнаў, якія тады залівалі крывёю і абарачалі ў папялішчы ўсю Усходнюю Славяншчыну. Ён таксама — доказ таго, што асноўнай вайсковай сілай, на якую абапіраліся вялікі квязь і яго сын Мсціслаў, былі воі з Тураўскага княства — спрадвечнай зямлі беларускага племя дрыгавічоў — і перш за ўсё берасцяне, гэта значыць, жыхары Берасцейскай зямлі, а так у тыя часы называлі наша Пабужжа і Панароўе. Уплывы ва Уладзімірскім княстве княжацкай знаці, дружыннікаў, купцоў з Тураўскага княства ўзмоцніліся пасля смерці Мсціслава. Бо тыя ж берасцяне, пінчане (жыхары Пінска — М.Г.) і вышгаўцы (мабыць жыхары Вышгарада, што каля Кіева — М.Г.) пры падтрымцы ўладзімірцаў удала адбілі Давідаву аблогу, а Святаполк далучыў Уладзімірскае княства да княства Тураўскага, якім уладаў яго сярэдні сын Яраслаў.

Пры панаванні князя Яраслава Святаполчына (1099—1122) з аднаго боку ўзмацнілася ва Усходняй Славяншчыне палітычная і гаспадарчая роля Тураўскага княства, а з другога — адкрыліся яго межы для наплыву насельніцтва з Валыні ў Тураўскую зямлю, асабліва наша Пабужжа. Прываблівала сюды валынцаў перш за ўсё загаспадаранасць і заможнасць, ажыўленыя сувязі гэтага рэгіёна з заходнімі і паўночнымі краінамі, спакойнае жыццё, бо на Валынь усё часцей пачалі налятаць з поўдня рабаўнічыя орды полаўцаў (самыя знішчальныя іх напэсці былі ў 1092, 1097, 1106 гадах). У такім узаемным перамяшанні насельніцтва быў зацікаўлены, несумненна, таксама князь Яраслаў Святаполчын, які намагаўся з'яднаць абодва Тураўскае і Валынскае княствы ў адзіную моцную ўласную дзяржаву. Але гэта трывала нядоўга, бо марам амбітнага князя тураўска-валынскага не было суджана збыцца. У 1113 г. памірае яго бацька Святаполк Ізяслававіч, і пад націскам жыхароў Кіева баяры на пасад вялікага князя кіеўскага ўзводзяць Уладзіміра Манамаха. Гэты надта ж актыўны палітык, дзяржаўны дзеяч і палкаводзец дбайна клапаціўся пра інтарэсы асабістыя і сваіх дзяцей. Акружаны баярамі з паўднёвых княстваў (Чарнігаўскага, Пераяслаўскага, Кіеўскага) ды полаўцамі, заўзята ваяваў паўночныя і заходнія ўдзельныя княствы Усходняй Славяншчыны, з асаблівай зацятасцю знішташажаў крывіцкія княствы, якія паўставалі ў выніку раздраблення Полацкага



княства. Таксама ў асобе ўладара аграмаднага і заможнага Тураўска-Валынскага аб'яднанага княства ён западозрыў небяспечнага свайго канкурэнта і, як толькі ўмацаваўся на кіеўскім пасадзе — зараз жа ўзяў у сваё ўладанне Тураўскае княства, пакінуўшы Яраславу Святаполчыну толькі Валынскае. Затым, ужо ў 1123 г., выгнаў яго і з гэтага княства, пасадзіўшы валынскім князем свайго сына Рамана. Яраслаў кінуўся за дапамогаю ў Венгрыю, прыйшоў адтуль з аграмадным войскам, аблажыў сталіцу Уладзімірскага княства — горад Уладзімір. Але падасланыя Раманам забойцы пазбавілі яго жыцця. Нядоўга пацешыўся гэтым яго смяротны вораг Уладзімір Манамах, бо і ён памёр у 1125 г.

Крыху прыдушаная Уладзімірам Манамахам барацьба перасваранай між сабой плоймы князёў за лепшыя княствы, землі, гарады пасля яго смерці выбухла яшчэ з большай, чым папярэдне сілай, абярнуўшы ўсю Усходнюю Славяншчыну ў няспынную крывапралітную, спапяляючую ўсё бойню. І хто толькі здужаў, той наравіў стаць вялікім князем кіеўскім, каб уладжваць асабістыя амбіцыі коштам іншых. Гэтае няшчасце захліснула таксама Тураўскае княства, а разам з ім і наша Пабужжа і Панароўе. Адзін за другім змяняюцца князі ў Тураве і кожны з іх прыходзіць гол, як сакол, адыходзіць жа не з пустымі рукамі: вывозіць здзёртую з насельніцтва багатую даніну, забірае з сабою цэлыя акругі сялян ды паселішчы рамеснікаў. Прынялося і такое, што за дапамогу ў гэтых братабойчых бітвах ды рабаўнічых нападах пераможцы са сваімі саюзнікамі і памочнікамі расплачваліся наданнем ім у часовае карыстанне земель, гарадоў ды сёлаў. Можна сабе ўявіць, што аставалася пасля адыходу такога абдараванага, бо хапаў не толькі адзін князь, але і ўсе яго прыбліжаныя, дружыннікі. Такі ж лёс спаткаў Дарагічынскую і Берасцейскую землі, калі імі заплаціў (у 1142 г.) часовы ўладальнік Тураўскага княства, князь чарнігаўскі Усевалад Вольгавіч, свайму, таксама часоваму саюзніку, князю Уладзіміру Давідавічу. Мабыць, гэты князёк меў невялічкі ўдзел на Пагарынні, у Паўднёвай Валыні, горад Дарагабуж — гэта сталіца яго бацькі, Давіда Ігаравіча, воі якога забілі князя Мсціслава Святаполчына падчас аблогі горада Уладзіміра-Валынскага. Але гэтым багатым набыткам князь Уладзімір пакарыстаўся зусім нядоўга, бо ў 1146 г. чарговы ўладальнік Тураўскага княства, князь Вячаслаў, сын Уладзіміра Манамаха, „отья городы опять", што параздорваў яго папярэднік. Якія багацці вывез і колькі насельніцтва вывеў князь Уладзімір і яго прыбліжаныя з Дарагічынскай і Берасцейскай

зямель у Дарагабужскае княства — невядома. Але было ж з-над Буга і Нарвы што вывозіць і каго выводзіць!

Аднак гэтае злачыннае рабаванне Тураўскага княства чужынцамі раптам спыняе Юры, сын былога князя тураўскага і ўладзіміра-валынскага Яраслава (унука князя тураўскага і кіеўскага Святаполка Ізяславіча, праправунук князя кіеўскага Яраслава Мудрага). Пазбаўлены Уладзімірам Манамахам бацькаўшчыны, Юры Яраслававіч доўга бадзяўся ізгоем (выгнанцам) па дварах іншых князёў.

Пасля раптоўнай смерці (1157 г.) вялікага князя кіеўскага Юрыя Даўгарукага, яго сын Барыс — тадышні князь тураўскі — падаўся на пахаванне бацькі і ўладкаванне сямейных клопатаў (жыхары Кіева не любілі князя Юрыя Даўгарукага і на вестку пра яго смерць кінуліся на вялікакняскія двары і „на паток узялі“ іх, інакш — разрабавалі, расцягнулі), а іншыя князі былі занятыя ўладжаннем сваіх уласных спраў у сувязі з чарговым захопам кіеўскага вялікакняскага пасада Ізяславам Давідавічам — князем чарнігаўскім. Тады бяздомны Юры Яраслававіч трапна вырашыў, што прабіла яго гадзіна. А можа не толькі ён? Насельніцтву Тураўскага княства ўжо даўным-даўно апрыкрыла падлягаць Кіеву ды пакарацца князям-чужынцам, якія з прагавітай зграяй сваіх родзічаў ды дружыннікаў клапаціліся толькі пра свае асабістыя справы — умацаванне ўласнага панавання і ўзбагачэння коштам мясцовых людзей. Мабыць, таксама асоба і радавод князя Юрыя здаўна імпанавалі тураўцам. Тым болей, што быў ён чалавекам мудрым, вопытным дыпламатам і здольным военачальнікам. Гэтак спалучыліся ў адзінства імкненні насельніцтва і бяздомнага князя. І ў 1158 г. наступіла выдатная падзея — Юры Яраслававіч самавольна заняў пасад тураўскага князя і абвясціў незалежнасць Тураўскага княства ад Кіева.

Гэта выклікала шаленства гневу ў свежаспечанага вялікага князя кіеўскага Ізяслава Давідавіча: з-пад яго ўлады вылamвалася вялікая тэрыторыя з важнымі гандлёвымі шляхамі — невычэрпная крыніца вояў у княскую дружыну, аграмадных данін для двара ды сапраўднае „акно ў Еўропу“. Вялікі князь падняў усіх, каго толькі змог, у аграмадны паход супраць свабодалюбівага Тураўскага княства і яго геройскага князя. Сталічны Тураў, багаты Пінск і, відаць, іншыя важнейшыя гарады акружыла аграмадная армія з сямі княстваў і вялікія натоўпы прыведзеных імі стэпоўцаў-бярэндзічаў.

Ні насельніцтва, ні князь не спалохаліся гэтай навалы — абараняліся з лютай зацятасцю, нягледзячы на цяжкія страты ў людзях і невыносныя цяжкасці аблогі. Горад Тураў бараніўся аж 10 тыдняў! І ўстаялі, і абаранілі сваю самастойнасць! Велізарная армія сярэднявечных карнікаў вымушана была з ганьбай сысці з Тураўскага княства, як сцвярджае летапісец: „не успешна ничтоже“ ды „возвратишася во свояси“.

Хоць радасць у Тураўскім княстве была вялікая, то і страты аказаліся немалыя: сёлы і рамесніцкія пасады разрабаваны і спалены, знішчаны малыя ды слабыя крэпасці, выведзена многа насельніцтва. Цана свабоды была высокая. І плаціць яе давялося не адзін раз: аб'яднаная армія на чале з вялікім князем Ізяславам Давідавічам саступіла з Тураўскай зямлі „не сотвориша мира“, значыць — не заключыўшы з ёю мірнага пагаднення. І ёй неабходна было ўзмацняць сваю абарону.

І сапраўды: узімку 1160 г. вялікае злучэнне дружын трох валынскіх князёў зноў ударыла на Тураўскае княства. Захопнікі лічылі, што яно яшчэ не паднялося на ногі ад папярэдняга нашэсця ды па ўмерзлых багнах і рэках лягчэй будзе здабыць яго. Аблога Турава працягвалася тры тыдні, але тураўцы зноў абараніліся і навала, як і папярэдне, адкацілася.

Толькі ў 1162 г. Юрыю Яраслававічу ўдалося дабіцца прызнання незалежнасці Тураўскага княства і свайго княжэння ў ім. Такім чынам тое, чаго не змог зрабіць бацька, Яраслаў Святаполчыч, ажыццявіў яго сын — Юры Яраслававіч: адваяваў сваю бацькаўшчыну!

Аднак з гэтай шчаслiва закончанай барацьбы за самастойнасць, Тураўскае княства выйшла не адно абрабаваным ды з моцна парадзеўшым насельніцтвам, але валынскім князям удалося захапіць Сярэдняе Пабужжа і Панароўе з Бярэсцем (сённяшнім Брэстам — М.Г.) і Дарагічынам. Гэты не тое, што лакомы кавалак дрыгавіцкай зямлі, але пышны, начынены багаццямі аграмадны каравай, трапіў у рукі прагных суседзяў. І яны ўхапіліся за яго сутаргавай хваткай ды рабілі ўсё, каб утрымаць каштоўную здабычу. Ці гэта лёгка ўдавалася ім? О, не!

## НЁМАНСКІЯ ПАХОДЫ“

Хочучы дакладней пазнаць мінулае беларусаў Беласточчыны, нельга толькі таптацца на Сярэднім Пабужжы ды Верхнім і Сярэднім Панароўі. Неабходна таксама зазірнуць у старажытнасць Сярэдняга Панямоння, дакладней: у даўніну тае тэрыторыі, дзе Нёман размашыстай дугою паварочвае сваю плынь з заходняга кірунку на паўночны. Тут у раннім сярэднявеччы паўстаў значны вайсковы, гаспадарчы і культурны цэнтр на сумежжы зямель беларускіх плямёнаў дрыгавічоў і крывічоў — Горадня (у летапісах: Городень, Городна, Городня). Пад яго

ўздзеяннем пазней развіліся такія асяродкі як Ваўкавыск (Волковыеск) на рэчцы Ваўкавыі, Мсцібогаў на рэчцы Альшанцы, Гарадок на Супраслі, Свіслач на Свіслачы і іншыя.

Калі і як была заснавана Гародня — на гэта пакуль што навука не патрапіць дакладна адказаць, бо дагэтуляшнія даследванні не далі неабходных на тое доказаў. Даваенны польскі краязнавец М. Арловіч у 1937 г. пісаў:

„Grodno należy do najstarszych miast w całej Polsce, stojąc w jednym rzędzie z Krakowem i Kaliszem a dzieje tutejszego grodu i osady handlowej sięgają czasów przedhistorycznych jak to stwierdzają ostatnie wykopaliska na górze zamkowej. W IX i X w. w. w okresie ekspansji Normanów, którzy od Bałtyku posuwali się dolinami rzek w głąb krajów zamieszkałych przez plemiona celtyckie lub słowiańskie, Grodno było przez nich zajęte i odgrywało pewną rolę przy zaopatrywaniu krajów skandynawskich w zboże".

Гэтае на першы погляд непраўдападобнае меркаванне пра сярэднявечную Гарадзенскую зямлю як важны рэгіён з развітай сельскай гаспадаркай, які пастаўляў збожжа Скандынавіі, пацвярджаецца археалагічнымі знаходкамі. Нядаўна ў Гродне была знойдзена верхняя частка мяча з X стагоддзя; такімі мячамі былі ўзброены нарманскія воі. Заходнееўрапейская зброя з IX—X ст.ст. — вастрыі коп'яў і стрэлаў, шпоры, фрагменты шчытоў і інш. — была знойдзена таксама падчас раскопак у Ваўкавыску. Невядома, што тоіцца ў недаследаваным гарадзішчы ў Свіслачы і што знойдуць археолагі ў нашым Гарадку, раскопванне Замчышча ў ім пачалі яны некалькі год таму назад. А што ўжо казаць пра тыя безыменныя гарадзішчы, якія густа рассеяны па Беласточчыне ад ракі Нарвы пачынаючы і на Аўгустоўскім паазер'і канчаючы? Гэта ж паўднёва-заходняя частка сярэднявечнага Гарадзенскага княства, якое ўтварылася тут у канцы IX — пачатку X стагоддзяў. У ім бурліла жыццё: гусцела насельніцтва, дужэлі крэпасці, пры іх разрасталіся рамесніцкія пасады, развівалася сельская гаспадарка, квітнеў мясцовы і асабліва дальнасяжны гандаль. Словам, Гарадзенскае княства і яго сталіца Гародня ў раннім сярэднявеччы было важкім вайсковым, гаспадарчым і культурным асяродкам, падлеглым Полацку. Магутны водны шлях па Нёману і яго прытоках з глыбінь дрыгавіцкіх і крывіцкіх зямель вёў у Балтыйскае мора — на поўнач, а на поўдзень па нёманскіх прытоках, валокамі ў прытокі Дняпра ішоў ён у Чорнае мора. У Гародні гэты шлях крыжаваўся з рухлівым старадаўнім трактам з Заходняй ва Усходнюю і Паўночна-Усходнюю Еўропу і ў Сярэднюю Азію.

Асноўным насельніцтвам у Гарадзенскім княстве былі дрыгавічы і крывічы, з поўначы прыбывалі ў яго яцвягі і літоўцы,



уздоўж ракі Бобры (Бебжы) з заходу сяліліся мазаўшане. Тут неблагія глебы, шмат рознай сыравіны — балотнай руды, крэйды, гліны, драўніны, каменю, спрыяльныя варункі для жывёлагадоўлі, рыбнай лоўлі, паляўніцтва, бортніцтва. Людзей прыцягвала таксама спакойнае жыццё, якое абяспечвала магутная крэпасць у Гародні і даволі густая сетка іншых умацаванняў, асабліва на рубяжах княства.

Гарадзенскае княства не толькі дзякуючы свайму палажэнню на адлеглай паўночна-заходняй ускраіне Усходняй Славяншчыны, але таксама і ўласнай вайсковай сіле ды прыязным сувязям з паўночнымі суседзямі — яцвягамі і літоўцамі — доўга захоўвала сваю незалежнасць пасля здабыцця князем Уладзімірам у 976 г. Полацка, а ў 978 г. — Кіева. Сюды, на Гарадзеншчыну, адыходзілі з Полацкай зямлі тыя, хто не пажадаў скарыцца вялікаму князю кіеўскаму, і Гародня стала прыстанішчам тых патрыятычных сіл, якія намагаліся адбудаваць самастойную дзяржаву крывічоў — Полацкае княства. І, мабыць, не сядзелі яны склаўшы рукі, але гуртавалі і прыхілялі да сябе розных саюзнікаў, незадаволеных палітыкай князя Уладзіміра, у тым ліку берасцян і дарагічынцаў.

Пра гарадзенскую апазіцыю добра ведаў Уладзімір, і як толькі ў 981 годзе падпарадкаваў сваёй уладзе паўднёва-заходнія ўскраіны Усходняй Славяншчыны, у тым ліку і гэтак званыя Чэрвеньскія гарады, у 983 годзе рушыў на паўночны захад. Прывярнуў уладу падлеглага яму Тураўскага княства над Бярэсцем і Дарагічынам і падаўся на поўнач. Гарадзенцы забяспечыліся падтрымкай яцвяжскіх кунігасаў-князькоў і таму, мабыць, Уладзімір, перш за ўсё ўдарыў па яцвягах, як саюзніках Гарадзенскага княства і гэты факт трапіў у „Аповесць мінулых часоў" запісам пад 983 годам: „Иде Володимер на ятвяги, и победи ятвяги, и взя землю их". Затым дружыны вялікага князя кіеўскага заатакавалі Гародню. Гарадзенцы, пазбаўленыя дапамогі, бараніліся, колькі змаглі. Але сілы былі няроўныя, і з гарадзенскай драўлянай крэпасці асталіся адны дымячыя папялішчы, якраз тыя паклады попелу і вугалля, на якія цяпер са здзіўленнем натыкаюцца археолагі ды акрэсліваюць іх на X стагоддзе. Такім чынам Гарадзенскае княства было скорана і далучана да Тураўскага княства. Падпарадкаваўшы сваёй уладзе яцвягаў, гарадзенцаў і, мабыць, часткі літоўцаў, Уладзімір дабіваўся свабоднага выхаду па Нёману ў Балтыйскае мора. Гэта было выдатнай падзеяй і мела аграмаднае значэнне, асабліва для Тураўскага княства.

Аднак плён Уладзіміравых заваяванняў не быў трывалы. Ужо пры першым жа ўнутраным крызісе ў тагачаснай Кіеўскай дзяржаве, які наступіў пасля смерці гэтага князя (1015 г.),

яцвягі выйшлі з-пад залежнасці ад яе і перакрылі нёманскі водны шлях у Балтыку, а Гарадзенскае княства, мабыць, прывярнуў у залежнасць ад Полацка яго князь Брачыслаў Ізяславіч. Гэта разам з іншымі намаганнямі полацкага князя пашырыць свае ўладанні, падліло алею ў агонь вайны, якая ўспыхнула ў 1021 г. паміж кіеўскім Яраславам Мудрым і полацкім Брачыславам Ізяславічам. Вайна закончылася ў карысць Полацка, а ўдзел Брачыслававых дружын у няўдалых паходах Яраслава Мудрага супраць яцвягаў у 1038 г. і Мазоўша ў 1041 г. умацавала ўладу Полацка на Гарадзеншчыне. Але на пачатку XII стагоддзя пасля смерці Брачыслававага сына князя Усяслава Чарадзея (1101 г.), наступіў хуткі распад магутнай дагэтуль Полацкай дзяржавы на дробныя княствы і тады, мабыць, Гарадзеншчына зноў абасабляецца ў самастойнае княства. На жаль, імя тадышняга гарадзенскага князя да нас не дайшло.

Калі на вялікакняскі пасад узышоў Уладзімір Манамах (1113 г.) і ўзяў ад Яраслава Святаполчыча ў сваё асабістае ўладанне Тураўскае княства, то адразу паклапаціўся згуртаваць усе сілы супраць раздробленай на слабыя ўдзельныя княствы Полацкай зямлі, між іншым, як сам ён піша ў сваім „Павучэнні“: „У тую восень (1084 г. — М.Г.) хадзілі з чарнігаўцамі і з полаўцамі-чытаевічамі на Менск, захапілі горад і не пакінулі ў ім ні чалавека, ні жывёліны“. Таксама ён адразу замацаваў за сваім родам багатую Гарадзенскую зямлю. Выдаў сваю дачку, мабыць, Агафію за збяднелага князя Усевалада, сына Давіда Ігаравіча (вядомага ўжо нам князя дарагабужскага і зацятага ворага тураўскіх Ізяславічаў) і аддаў маладой пары Гарадзенскае княства. Падарунак быў сапраўды па-бацькоўску шчодры.

Нават дагэтуляшнія, надта ж невялікія, археалагічныя раскопкі паказваюць, што тадышняя Гародня — гэта магутны вайсковы, рамесніцкі, гандлёвы і культурны цэнтр. Насельніцтва займалася рознымі рамёствамі: плаўкай жалеза і вырабам з яго зброі і розных прыладаў працы і рэчаў штодзённага ўжытку, тут працавалі ювеліры, ганчары, кастарэзы і іншыя майстры. У Гародню прывозіліся разнастайныя вырабы не толькі з Полацка, Кіева і іншых гарадоў Усходняй Славяншчыны, але таксама з прычарнаморскіх гарадоў, Візантыі, краін Сярэдняй Азіі, а таксама з Заходняй Еўропы. У Гародні знаходзіўся міжнародны рачны порт, пра яго сведчаць знойдзеныя тут пломбы, якімі значыліся тавары.

А нам нельга забываць, што ва ўсіх падзеях, якія адбываліся ў Гародні і Гарадзенскай зямлі прымалі самы актыўны ўдзел нашыя продкі. Гэта ж яны, вої з сялібаў, рассыпаных над Свіслаччу, Супраслю. Сакалдой, Бобрай баранілі гарадзенскіх цвердзяў ад нашэсцяў. Таксама з гэтых жа сялібаў ішлі людзі ўзводзіць новыя крэпасці і ў самой Гародні, і таксама ў Ваўкавыску, Індуры, Мсцібогаве і інш. Працаю іхніх рук паўстала густая сетка крэпасцяў на тэрыторыі, якую займае цяперашняя паўночна-ўсходняя Беласточчына, — у Гарадку, Аляксоўшчыне, Гарадзішчанах, Трасцянцы (каля Саколкі) і інш. Сляды па іхніх працавітых пальцах відаць і цяпер на змуршэлых цаглінах першых мураваных збудаванняў Гародні і Ваўкавыска, на чарэп'і тадышняга посуду, што густа ўсцілае гарадзішчы нашай Беласточчыны. А іхняя ўлюбёнасць у родную зямлю закаранілася настала ў нашых сэрцах.

**АНТОСЬ МІРАНОВІЧ**

# СВЯТЫ ГАЎРЫЛА ЗАБЛУДАЎСКІ

Жыццё святога Гаўрылы Заблудаўскага мала вядомае, хаця святы гэты агульна прызнаны ў праваслаўнай Царкве. Усходняе духавенства і верныя адносяцца з асаблівай любоўю да трагічна памершых дзяцей. Тут жа сустрэлася суровая (жорсткая) смерць з чыстай нявіннасцю. Св. Гаўрыла параўноўваецца часта да сямігадовага Іаана Углічэўскага, забітага з невядомых прычын адным з працаўнікоў яго бацькі ў 1633 годзе.

Св. Гаўрыла нарадзіўся 22 сакавіка 1684 года ў Зверках каля Заблудава. Паходзіў ён з праваслаўнай сялянскай сям'і. Яго бацькі — Пятро і Анастасія Гаўдэлавы захавалі веру сваіх продкаў у цяжкім для праваслаўя перыядзе, калі каталіцызм і уніяцкая вера сталі на гэтых землях дамінуючымі. 11 красавіка 1690 года шасцігадовае дзіця стала ахвярай мордy. І смерць, і цэлае здарэнне авеяны змрочнай таямніцай. Бытуе на гэтую тэму многа легенд, пераказваных з пакалення ў пакаленне. З традыцыйных перакладаў і фрагментарычных запісаў у судовых кнігах заблудаўскай магдэбургіі відаць, што астаўлены без нагляду дома хлопчык быў выкрадзены і вывезены ў навакольны лес, дзе яго тартуравалі. Узнікла некалькі версій смерці Гаўрылы. Адна са строф верша апісвае смерць мучаніка, якую сам замардаваны пераказвае пасмертна людзям:

„Когда из других мест
враги прибежали,
То бесчеловечно меня там
мучить начали,
Внесли меня в темны
подвал на страдание.
И распяв на кресте, кров
из боков выпускали
Потом кололи всё моё
тело,
Пока хоть каплю крови
оно мело".

Цела св. Гаўрылы было знойдзена пасля трох дзён, сабакі пільнавалі яго перад птушкамі. Гэтыя здарэнні запісаны ў царкоўных кнігах пад датай 20 красавіка 1690 года. З судовых кніг заблудаўскай магдэбургіі відаць, што ў забойстве шасцігадовага хлопчыка быў абвінавачаны арандатар вёскі Зверкі.

Цела мучаніка пахавалі непадалёк царквы ў вёсцы Зверкі (яна размяшчалася ў лесе па левай старане ў адлегласці кіламетра ад дарогі ў Беласток). Трыццаць гадоў пасля, у 1720 годзе падчас эпідэміі, вакол гробу Гаўрылы часта хавалі памерiшых людзей. У час аднаго з пахаванняў, людзі парушылі гроб замучанага і адкапалі цела, якое не падвяргалася распаду. Традыцыя спалучае з гэтым здарэннем шматлікія выздараўленні і паменшанне эпідэміі, якая ў 1720 годзе збірала страшлівае жніво сярод людзей заблудаўскай зямлі. Эпідэміі ў пачатку XVII ст. былі пачаткам паломніцкіх праваслаўных цэнтраў у Пяценцы і на Грабарцы. Адкапанае цела св. Гаўрылы пахавана ў царкоўнай крыпце. У часе пажару ў 1746 годзе царква ў Звярках поўнасцю згарэла, а рэліквіі мучаніка асталіся някранутымі. Пасля пажару царквы рэліквіі св. Гаўрылы былі ўрачыста перанесены да трапезнай царквы заблудаўскага манастыра і памешчаны ў прэзбітэрыі.

Становішча заблудаўскага манастыра было вельмі цяжкім, царква і манастырскія будынкі патрабавалі рамонту, манахі вялі судовыя працэсы за правы да манастырскай зямлі, змагаліся за роўныя правы з каталікамі ў горадзе. Пры такім цяжкім становішчы манастыра, па дазволу канстантынопальскага патрыярхі і з благаславенства кіеўскага мітрапаліты, архімандрыт Качынскі загадаў 9 мая 1755 года перанесці св. рэліквіі ў манастыр св. Троіцы ў Слуцку, знатнага ў тыя часы праваслаўнага цэнтра.

Невядома, калі дакладна канстантынопальскі патрыярха кананізаваў (увёў у спісак святых) Гаўрылу Заблудаўскага. Найхутчэй, што адбылося гэта падчас прабывання св. рэліквій у заблудаўскім манастыры.

Практыка кананізацыі ў праваслаўнай царкве паказвае, што да імя святога дадавалася ў часе кананізацыі назву мясцовасці, у якой перахоўваліся рэліквіі. Тады трэба лічыць, што кананізацыя адбылася недзе ў гадах 1746-1754, ужо ў наступным годзе рэліквіі былі перанесены ў манастыр у Слуцку.

Пазбаўлена рэліквій святога, заблудаўская зямля больш чым стагоддзе не сабралася паставіць храма, прысвечанага мясцоваму патрону. Толькі ў 90-х гадах XIX ст. па ініцыятыве прыхадскога святара ў Заблудаве — Пятра Чатырніна, які сам зазнаў святасць мучаніка і з благаславенства брэсцкага

епіскапа Іосіфа, людзі пачалі збіраць грошы на пабудову драўлянай капліцы на месцы, дзе стаяў дом бацькоў св. Гаўрылы ў Зверках.

У заблудаўскай парафіяльнай хроніцы, складзенай у 30-ыя гады нашага стагоддзя, спісаны здарэнні, якія папярэдзілі будову капліцы ў Зверках. У адной са сваіх пропаведзей, святар Пётр Чатырнін падважыў верагоднасць святасці св. Гаўрылы. Пасля набажэнства святар адправіўся ў Беласток. У Зверках даведаўся, што гарыць прыхадскі дом. Дасведчаны гэтым здарэннем, стаў ініцыятарам пабудовы капліцы св. Гаўрылы ў Зверках. Яе пабудова была закончана ў 1894 г. Урачыстае высвянчэнне капліцы адбылося 19 красавіка 1894 г. на Вялікдзень. 3 мая (пв. новага стылю) адбылася ўрачыстая працэсія з заблудаўскай царквы да капліцы св. Гаўрылы ў Зверках.

Капліца была драўляная, пабудавана на каменным фундаменце ў форме квадрата, завершанага аздобным купалам з крыжам. Перад уваходам у капліцу — невялікі ганак. Капліца была абгароджаная драўляным плотам. У нутры знаходзіліся дзве іконы св. Гаўрылы.

Капліца згарэла ў часе пажару вёскі 6 кастрычніка 1902 года. Захаваліся з яе толькі ікона святога і крыж.

Пасля пажару жыхары Зверак рашылі пабудаваць новую мураваную царкву, прысвечаную св. Гаўрылу. Паправілася таксама матэрыяльнае становішча заблудаўскага прыходу, аб чым сведчыць пабудова новага парафіяльнага дома і шпітальнага будынка, таксама пакліканне 30 красавіка 1905 г. месца вікарыя.

Пашырэнне культу св. Гаўрылы на радзімай заблудаўскай зямлі, сустрэлася з прыхільнасцю праваслаўнай ерархіі. У 1908 годзе владыка Гродзенска-Брэсцкі Міхаіл і Беластоцкі Уладзімір пастанавілі вярнуць са Слуцка частку рэліквій святога. Урачыстае перанясенне рэліквій спалучылася з многімі працэсіямі ў цэрквах Гродзенскай дыецэзіі. Адбыліся таксама шматлікія паломніцтвы на гроб мучаніка ў Зверках і да царквы ў Заблудаве.

Духоўны кансыстар у Гродне 4 лютага 1913 года выдзяліў з Беластоцкага дэканату новы — Гаўрыіла-Заблудаўскі ў Заблудаве. На месца дэкана быў пакліканы святар заблудаўскага прыходу Васіль Чулкаў. Дэканат налічваў два прыходы з Ваўкавыскага дэканату і сем з Беластоцкага. Невядома аднак, чаму дэканат быў хутка развязаны пастановай таго ж кансыстара — 9 жніўня 1913 г.

У 1915 годзе большая частка прыхаджан і духавенства была пераселена ў глыб Расіі. Спыніліся канчаткова падрыхтаваныя працы да пабудовы царквы. Пасля 1918 года толькі святочныя набажэнствы перад іконай св. Гаўрылы нагадваюць аб святым заблудаўскай зямлі.

У нашыя дні набажэнствы 3 мая, прысвечаны памяці св. Гаўрылы, маюць характар прыхадскога свята. Памяць аб ім у Успенскай царкве ў Заблудаве нагадваюць іконы св. Гаўрылы. У Зверках на месцы дома бацькоў мучаніка стаіць крыж. Часта чуецца словы малітвы падчас богаслужэння ў заблудаўскай царкве да св. Гаўрылы. У адным з гімнаў гаворыцца:

„Мученик Твой, Господи, Гавриил во страдании своем венець приять нетленный от Тебе, Бога нашего, терпением, мучителей низложи и смирением немощны сотвори их дерзости — того молитвами спаси души ваша“.

Рэліквіі святога Гаўрылы ў 30-ых гадах былі перанесены са Слуцка ў музей у Мінску, потым у мінскую царкву Уваскрашэння Гасподняга. Цяпер яны ў манастырскай царкве ў Гродне. Св. Гаўрыла з'яўляецца патронам мясцовых дзяцей. Гэта адзіны беларускі святы ў праваслаўнай Царкве з земляў сучаснай Польшчы.

ЮРЫ ТУРОНАК

# НЕПАКОРНАЯ ВЕРА

Набліжаецца дзесятая гадавіна смерці Веры Карчэўскай (дзявочае прозвішча Матэйчук, з першага сужонства — Маслоўская) — адной з пачынальнікаў беларускага школьніцтва на Беласточчыне, незалежнай і рэвалюцыйнай дзеячкі, гераіні палітычнага працэсу 45-ці беларусаў у Беластоку (1923 г.), паэтэсы, якая выступала пад псеўданімамі „Мурашка“, „Вера Мурашка“, „Беларуская Мурашка“. З гэтай нагоды, і для ўшанавання памяці нашай выдатнай зямлячкі, прапануецца ўвазе чытачоў яе карoткі біяграфічны нарыс.

Бацька Веры, Ігнат Матэйчук, паходзіў з вёскі Агароднічкі Дайлідскай гміны, а маці, Ганна Вішнеўская — з Супраслі. Гісторыя матчынага прозвішча незвычайная: дзед Веры, усім вядомы, як Мікола Вішнеўскі, у сапраўднасці называўся Міхал Дамaноўскі, аб чым толькі пры смерці сказаў сваёй сям'і. У маладосці ўцёк ён ад прыгоннага пана, пасяліўся ў Супраслі і доўга жыў тут пад фальшывым прозвішчам. Памёр на пачатку нашага стагоддзя ў 96-гадовым узросце, пакідаючы ў спадчыне ўнучцы Веры свае непакорныя гены.

Вера Матэйчук нарадзілася 24 сакавіка 1896 г. у Супраслі і толькі на другім-трэцім годзе жыцця пераехала ў Агароднічкі, аднак паводле метрыкі, месцам яе нараджэння лічыцца не Супрасль, а вёска Агароднічкі, відаць па той прычыне, што была яна месцам пастаяннага пражывання бацькоў. Тут мелі яны свае чатыры дзесяціны і дзесятак дзяцей. У такіх умовах Ігнат Матэйчук быў вымушаны шукаць дадатковых заработкаў, м. інш. выконваў розныя будаўнічыя заказы Супрасльскага манастыра.

Пачатковую адукацыю атрымала Вера ў Агародніччах і Супрасльскай школе для дзяўчат. Паводле вобразнага апісання Міколы Гайдука, Вера „вучылася дасканала. Настаўнікі раілі ёй паступаць вучыцца далей. Але яна даведалася, што на гэта бацька павінен прадаць карову... І замест сесці за школьную лаўку, давялося ёй пайсці „лапаць ніці“ ў фабрыцы Цытрона. Хутка прывучылася фаху і пачала працаваць. Аднойчы жанчыны-работніцы забаставалі, патрабавалі лепшых умоў працы і вышэйшых заробкаў. Вера не толькі прыняла ўдзел у забастоўцы, але нават стала на яе чале. Аднак знайшліся штрэйкбрэхеры, забастоўка праваліласся, і Цытрон выгнаў Веру з работы... Пасля ёй удалося паступіць пакаёўкай да сям'і Ёгана Марушэўскага — немца, упраўляючага маёмасцямі супрасльскага фабрыканта Бухгольца. Хоць працы было многа і плацілі марна, але Вера была шчаслівая: яна паступіла экстэрнам у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю.

Днямі працавала, начамі вучылася, а калі наступаў час экзаменацыйнай сесіі, Ігнат Матэйчук запрагаў коніка і вёз дачушку на Каралёў Мост, Гарадок, Ялоўку ў Свіслач. Два дні трэсліся па калдобінах, патаналі ў багне ці пяску, начавалі па чужых кутках, перакусвалі абы-чым. І было дзеля чаго: Вера заўсёды паспяхова здавала экзамены. Але калі ў 1914 г. выпеставаны ў марах дыплом настаўніцы быў ужо на руках, выбухла сусветная вайна; дастаць працу ў школе не ўдалося, прыйшлося сядзець без работы“[1].

Пасля адступлення рускіх войск, у канцы 1915 г. нямецкія акупацыйныя ўлады абвясцілі новыя правілы дзейнасці школ на захопленых абшарах Расійскай імперыі. У прыватнасці пастанаўлялася, што школьныя заняткі павінны адбывацца на роднай мове насельніцтва. Так паўстала магчымасць арганізавання беларускіх школ. Прыкладна праз год — 16 кастрычніка 1916 г. была адкрыта ў Свіслачы першая беларуская настаўніцкая семінарыя. Кіраваў ёю дырэктар Бендзеха з Сілезіі, а беларускую мову выкладаў Баляслаў Пачобка — аўтар выдадзенай на пачатку 1918 г. першай „Граматыкі беларускай мовы“.

Нягледзячы на розныя недахопы педагагічнага характару і цяжкасці ваеннага часу, Свіслацкая семінарыя адыграла істотную ролю ў развіцці беларускага школьніцтва на Беласточчыне і Гродзеншчыне. На працягу сваёй двухгадовай дзейнасці (да 15 лістапада 1918 г.) прайшло тут некалькімесячную падрыхтоўку 144 настаўнікаў, сярод якіх, акрамя Веры Матэйчук, было шмат моладзі з Беласточчыны, м.інш. Вера Рожка — настаўніца з вёскі Студзянкі, Вольга Скаўронская з Беластока, Вольга Гофман з Бельска, Аляксандр і Канстанцін Валкавыцкія з-пад Нараўкі.

Восенню 1917 г. усе яны атрымалі накіраванні да працы ў беларускія народныя школы, якіх тады на Беласточчыне адкрылася некалькі дзесяткаў. Паколькі раён Беластока быў лепш забяспечаны настаўнікамі, Веру Матэйчук накіравалі ў вёску Грабавец Арлянскай гміны, дзе яна арганізавала беларускую школу. Працавала там два гады, пакідаючы ў памяці вучняў

# БЕЛАРУСКІ ПАРТЫЗАН

Месячн. беспартыйная часопісь Змагароў за Бацькаўшчыну

| | |
|---|---|
| Цана паасобнага нумэру 20 польскіх марак. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Галоўны Штаб Беларускіх Партызанаў — Белавежская Пушча. |

№ 1 | ЖНІВЕНЬ (АУГУСТ) | 1922

## Да Чытачоў.

Выпускаючы „Беларускі Партызан", які з'явіцца адгалоскам думкі ўсіх змагароў акупаванага палякамі Краю, мы зьвяртаемася да нашых паважаных Чытачоў з некалькімі словамі.

Польскія наездцы, абманам захапіўшыя наш Край, напружваюць усе сілы, каб як наймацней прыдушыць нас, абрабаваць набытае крывавым потам нашае дабро, зьнішчыць прыродныя багацьці-лясы ды іншую нашу маемасьць.

Народ наш стогне пад чужацкім ярмам, ня бачучы ад польскіх захватчыкаў нічога, апрыч голаду, холаду ды зьдзекаў!

На нас, Партызанаў, лягла цяжкая, але пачэсная задача ратаваць Бацькаўшчыну ад гэтых няпрошаных польскіх крумкачоў.

Яны не маюць ніякай літасьці над нашым Народам, гэтым жа, толькі ятчэ ў большым стопні, павінны плаціць і мы ім.

Няхай пашчады грабіцелям! Хай не задрыжыць наша рука ў *патрэбны момант!*

Але, змагаючыся з чужацкімі польскімі гвалтоўнікамі, мы павінны добра ведаць, *што* і *як* робіцца ў варожым стане, каб своечасна маглі рэагаваць на польска-шляхэцкія самадурства.

Вось „Беларускі Партызан" і пастараецца дапамагчы ва ўсім гэтым разабрацца і асьветліць справу так, як яна ёсьць, праўдзіва.

Дарагія Чытачы заклікаюцца на дапамогу прысылкаю матэр'ялаў.

*Рэдакцыя.*

*„Беларускі Партызан", якога рэдактарам значыўся „Скамарох".*







найлепшыя ўспаміны. Адзін з іх, Хілімон Барташук, не забываў сваю настаўніцу да яе позняй старасці, наведваў яе, пісаў лісты.

Падзеяй, якая ў значнай меры абумовіла далейшыя лёсы Веры, быў яе ўдзел у Настаўніцкім курсе, які адбываўся ў жніўні 1919 г. у Вільні. Курсам кіраваў лідэр тагачаснай Народнай партыі Янка Станкевіч, які выкладаў беларускую мову і ўжо тады „славіўся" сваім наватарствам у галіне мовазнаўства. Першыя крокі ў галіне гісторыі беларускай літаратуры ставіў тут Максім Гарэцкі, гісторыю выкладаў Вацлаў Ластоўскі — вядомы дзеяч Партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, пазнейшы старшыня эміграцкага ўрада БНР у Коўні і сакратар Беларускай Акадэміі Навук у Мінску.

На памяткавай фатаграме, якая беражліва захоўвалася Верай да яе апошніх дзён, прадстаўлены здымкі з прозвішчамі 109 курсантаў — настаўнікаў з розных мясцовасцей Беларусі, сярод іх Веры Матэйчук, яе сястры Жэні і спомненай беластачанкі Вольгі Скаўронскай. Паводле сведчання Веры, курс быў не толькі месцам павышэння педагагічных кваліфікацый, але таксама своеасаблівай школай грамадскіх дзеячаў. Значную прапагандысцкую дзейнасць праяўлялі тут эсэры (Ластоўскі, Душ-Дужэўскі і іншыя), народнікі, хадэкі. Усе гэтыя партыі імкнуліся пашырыць свае ўплывы сярод настаўнікаў, з чым спалучалі спадзяванні на пашырэнне сваіх уплываў сярод насельніцтва.

Веру пацягнуў радыкалізм эсэраўскай ідэалогіі. Пасля заканчэння віленскага курсу, на працягу 1919/20 школьнага года настаўнічала на Міншчыне, была школьным інструктарам на Барысаўскі і Дзісненскі паветы. У Мінску пазнаёмілася з многімі тагачаснымі дзеячамі, м. інш. Вацлавам Іваноўскім, Палутай Бадуновай і Леапольдам Родзевічам. Сваім ідэйным настаўнікам Вера лічыла Палуту Бадунову, пад якой уплывам напісала свой першы верш „Ідзі!", надрукаваны 27 чэрвеня 1920 г. у мінскай газеце „Беларусь". У гэты час (12 лютага 1920 г.) Вера выйшла замуж за Уладзіслава Маслоўскага — беларуса з Віленшчыны, капітана польскай арміі, які неўзабаве загінуў на фронце.

У канцы 1920 г. Вера Маслоўская вяртаецца ў родныя Агароднічкі з заданнем стварыць на тэрыторыі Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага паветаў падпольную паўстанчую арганізацыю. Кіраваў ёю ўрад Ластоўскага, які ў той час знаходзіўся ў Коўні. Адтуль паступалі на Беласточчыну інструкцыі, грошы, літаратура. Месцам канспіратыўных кантактаў быў літоўскі пагранічны гарадок Мерач, дзе знаходзіўся беларускі партызанскі штаб. Туды час ад часу выязджала Вера і кур'ер аргані-



*Група ўдзельнікаў Усебеларускай нацыянальна-палітычнай нарады ў Празе, верасень 1921 год. Сядзяць злева направа: Сяргей Баран, Мікола Шыла, Тамаш Грыб, Язэп Мамонька, невядомы, Вера Маслоўская.*

зацыі — Жэня Матэйчук. Пад канец 1921 г. паўстанчая арганізацыя мела ўжо свае ячэйкі ва ўсіх паветах Беласточчыны і Гродзеншчыны, а ў раёне Белавежскай пушчы — партызанскае злучэнне пад камандаваннем ураджэнца вёскі Грабавец Германа Шыманюка („Скамароха").

Узнікненне, характар і дзейнасць гэтага партызанскага атрада ўсё яшчэ недастаткова вывучаны гісторыкамі. Так напр. у справаздачы з беластоцкага „Працэсу 45-ці" (май 1923 г.) згадваецца, што „Скамароха" завербавала ў арганізацыю Маслоўская. Аднак жа яна сама ў размове з аўтарам гэтых радкоў (22 красавіка 1978 г.) заўважыла, што ў сапраўднасці гэтая справа не была так адназначнай. Летам ці восенню 1921 г. „Скамарох" прыехаў да Маслоўскай у Агароднічкі, дзе адбылася першая іх размова. Праўда, згадзіўся ён тады падпарадкавацца прадстаўляемай Маслоўскай паўстанчай арганізацыі, аднак не прыйшоў з пустымі рукамі: ужо тады ён выступаў як камандзір партызанскага атрада, які размяшчаўся ў Белавежскай пушчы. Такім чынам не Маслоўская была ініцыятарам стварэння атрада „Скамароха", у сувязі з чым цяжка пагадзіцца з выказваннямі сучасных беларускіх гісторыкаў, што яго атрад быў створаны на падставе дырэктыў Мерачанскага штабу.

Не ўстаноўлена пакуль што і партыйная прыналежнасць „Скамароха", на што звярнуў увагу У. Ладысёў (гл. яго Старонкі мужнай барацьбы, „Голас Радзімы", 8.XII.1977 г.). Маслоўская лічыла яго беспартыйным, а некаторыя мінскія гісторыкі — эсэрам. Апублікаваныя ў гэтым выпуску „Беларускага календара" доследы Васіля Петручука паказваюць, што сваякі і супрацоўнікі „Скамароха" лічылі яго камуністам і прапагандыстам савецкай улады.

У верасні 1921 г. з ініцыятывы Ластоўскага адбылася ў Празе Усебеларуская нацыянальна-палітычная нарада для абмеркавання беларускага пытання, якое стварылася пасля заключэння Рыжскага міру і падзелу Беларусі на дзве часткі. У нарадзе ўдзельнічала і Вера Маслоўская як дэлегат ад Беласточчыны і Гродзеншчыны (ехала ў Прагу з пашпартам БНР праз Літву, Балтыйскае мора і Нямеччыну). У Празе праславілася як аўтар рэзалюцыі аб змаганні за ўз'яднанне ўсіх беларускіх абшараў, якая была прынята супроць праекту згодніцкай рэзалюцыі Паўла Алексюка. Варта заўважыць, што пражская нарада не адобрыла пастулатаў аб запачаткаванні ўзброенай барацьбы, аднак рэкамендавала працягваць адпаведную падрыхтоўку да такога змагання.

Пражская нарада выклікала значны рэзананс у Польшчы. Заварушыліся журналісты і паліцыя. У выніку, пасля вяртання Маслоўскай на радзіму, яе поле дзейнасці хутка пачало звужацца. У снежні 1921 г. у падпольную арганізацыю быў засланы правакатар, жыхар Саколкі Эдуард Лянкевіч, які здабыў давер Маслоўскай, дзякуючы чаму змог глыбока пранікнуць у рады канспіратараў. У сакавіку 1922 г. 43 падпольшчыкаў з Маслоўскай на чале апынуліся за кратамі беластоцкай турмы. Да адказнасці прыцягваліся таксама С. Баран і С. Якавюк, якія як паслы ў польскі сойм пакуль што карысталіся недатыкальнасцю.[2])

Восем дзён, ад 14 да 22 мая 1923 г., адбывалася расправа ў Беластоцкім Акруговым судзе, вядомая ў гісторыя як „Працэс 45-ці". Цэнтральнай яго фігурай была 27-гадовая Вера Маслоўская, якую абвінавачвалася ў тым, што: арганізавала і кіравала падпольнай арганізацыяй, удзельнічала ў Пражскай канферэнцыі, супрацоўнічала з беларускім штабам у Мерачы адкуль атрымоўвала сродкі на канспіратыўную дзейнасць і ўрэшце агітавала і вербавала членаў арганізацыі.

Вось некалькі вытрымкаў з карэспандэнцкай справаздачы з судовай расправы: ...Маслоўская гаворыць па-беларуску. Прызнаецца, што прыймала самы актыўны ўдзел у арганізацыі, каб злучыць у адно цэлае ўсе часткі падзеленай Беларусі, аднак у гэтым віноўнай сябе не лічыць. Гэта не праступленне, а абавязак кожнага патрыёта перад ягонай бацькаўшчынай, ці гэта будзе беларус, паляк, ці хто-небудзь іншы... Маслоўская падробна і горача, з пераконваючай праўдзівасцю, гаворыць аб тым працэсе, які прывёў яе — скромную работніцу на ніве асветы роднага народу — на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. На



*Вера Маслоўская падчас судовай расправы ў Беластоку, май 1923 г.*



маладую Польскую Рэспубліку беларускі народ ускладаў такія надзеі, так ахвотна і радасна верыла беларуская інтэлігенцыя абяцанкам першых правадыроў Польшчы пасля яе ўваскрашэння! Але ўсе гэтыя чаканні былі ашуканы, ад гэтай веры не засталося бадай нічога... У часе нямецкай акупацыі беларуская нацыянальная школа расла і развівалася. З прыходам палякаў адразу стала адчувацца, у гэтай дарагой і важнай для беларускага народа галіне, неаб'яснімая варожасць Польшчы. Палітыка Польшчы імкнулася забіць тут самую душу беларускага народа — яго жывую мову...

Аб сваёй дзейнасці Маслоўская гаворыць: ...Сапраўды была галоўным і адзіным арганізатарам руху. Праца наша чыстая, ідэйная, ніякага шпіёнства на карысць Літвы арганізацыя не вяла, ніякіх складаў аружжа ў нас не было... Не адмаўляюся, што ў далейшым аружжа магло быць патрэбным, але мы ўсё яшчэ верылі, што Польшча нас зразумее, што не стане нас ніштожыць як нацыянальнасць, што не трэба будзе брацца за аружжа...[3]).

Лагічныя аргументы падсуднай Маслоўскай перакрыжаваліся з логікай абаронцаў польскай дзяржавы. Таму пракурор, які магчыма ў глыбіні душы адабраў яе маральную пазіцыю, не мог з пункту гледжання інтарэсу сваёй дзяржавы ацаніць дзейнасць гэтай маладой дзяўчыны інакш, як найбольшае злачынства і, паслядоўна, патрабаваў пажыццёвай катаргі. Усё ж у карысць пракурора трэба сказаць наступнае: Вера не прыцягалася да непасрэднай адказнасці за дзеянні атрада „Скамароха", якія адбыліся пасля яе арышту. Як бачым, уся яе „віна" не была большай чым тых польскіх патрыётаў, якія звыш сотні гадоў змагаліся за ўз'яднаную і незалежную айчыну. На гэтую акалічнасць спасылаўся абаронца Маслоўскай, генерал Бабянскі, як наступае:

„Калі мы так цэнім наш уласны гонар і бацькаўшчыну, дык і ў іх таксама ёсць свой гонар і бацькаўшчына... Калісь Польшча ўмела рабіць усіх сваіх грамадзян польскімі патрыётамі, нягледзячы на іхнюю нацыянальнасць, а радзіму — блізкай і дарагой... Але тады Польшча ўмела рабіць гэта толькі для шляхты... Цяпер жа Польшча павінна ўмець рабіць тое самае для ўсяго народа. І вось ад таго, ці зможа калі-колечы зрабіць гэта новая Польшча, залежыць безумоўна існаванне яе самой. Гэты прыгавор, паны суддзі, ваш прыгавор у першым палітычным нацыянальным працэсе пакажа першы раз як і колькі ўдаецца Польшчы гэтае ўменне. Ваш прыгавор безварункова будзе мець гістарычнае значэнне. Можна сказаць, што тымі карамі смерці, тымі вечнымі катаргамі, якіх дамагаецца ад вас пракурор, можна дабіцца толькі паглыблення нянавісці.[4])

Гэты прагноз генерала Бабянскага аказаўся трапным: якраз у той час рыхтаваўся ўладамі II Рэчыпаспалітай новы масавы палітычны працэс у Горадні і беластоцкі суд відавочна не лічыў магчымым выступаць супроць агульнай плыні дзяржаўнай палітыкі. У выніку, за пакушэнне на тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы, Вера Маслоўская была прыгаворана да шасцігадовага турэмнага зняволення.

Пакаранне адбывала ў беластоцкай турме, варшаўскай „Сербіі" і ўрэшце зноў у Беластоку. Вялікую маральную падтрымку зняволенай Веры і яе таварышам аказвала беларуская грамадскасць, у прыватнасці актыў створанай летам 1922 г. Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА). Першы адгукнуўся Леапольд Родзевіч, які прысвяціў Маслоўскай свой верш „Начны светагляд"[5]). Неўзабаве, 19 ліпеня 1923 г. пісаў ён маці Веры, Ганне Матэйчук у Агароднічкі:

„Паважаная пані! Выдавецтва беларускай газеты „Наш Сьцяг" просіць Вас не адмовіцца прыслаць па ніжэй пададзенаму адрасу фатаграфію Вашай гераічнай дачкі Веры. Калі маеце яе рукапісы, як вершы, апавяданні ці іншае, дык таксама просім прыслаць заказной аплатай на наш рахунак. Вельмі пажадана было б мець хоць бы кароткае жыццёапісанне п. Веры. Нецярпліва чакаем адказу. Пішыце па адрасу: Wilno, Wileńska 12 m 6. Redakcja „Nasz Ściah". Сакратар выдавецтва Л. Родзевіч."[6])

Няведамымі шляхамі, праз турэмныя краты дасылала Маслоўская на волю свае лісты і вершы. Сярод іх знойдзены верш, прысвечаны органу БРА „Вольны Сьцяг", які быў надрукаваны ў гэтай жа газеце 16 верасня 1923 г. Вершы Маслоўскай у той час друкаваліся таксама ў рускай газеце „Рассвет", якая выдавалася ў Амерыцы. Праўдападобна вынікам стараннаў БРА і рэдакцыі „Рассвет" была матэрыяльная дапамога, якую зняволеным арганізавалі беларускія эмігранты ў Амерыцы. У гэтай сувязі чарговы орган БРГ „Змаганьне" (19.XII.1923) апублікаваў наступную карэспандэнцыю: „Мы, усе вязні па Беластоцкаму працэсу, шлём шчырую падзяку за памяць аб нас нашым братам — беларусам у Амерыцы. Шлём з-за турэмных кратаў свае шчырае прывітанне ўсім працаўнікам-беларусам. Ад імя ўсіх вязняў Вера Маслоўская."

За турэмнымі кратамі, цераз грыпсы і прыбіральшчыцу завязалася ў Веры знаёмства з Уладзімірам Карчэўскім з вёскі Пухлы, таксама настаўнікам і палітычным вязнем, якое ператварылася ў вялікае каханне. 6 чэрвеня 1927 г. абое выйшлі на волю, а 21 лістапада таго ж года пажаніліся. Аднак, як былыя палітвязні, ні Вера ні Уладзімір працы ў школе не атрымалі. Спярша жылі ў Гайнаўцы, дзе Карчэўскі працаваў на шкіпідарным заводзе, а потым у Альпені на Палессі і ў Кодэні над Бугам, дзе Уладзімір быў царкоўным псаломшчыкам, а Вера — арганізатарам мастацкай самадзейнасці (у Альпені ставілі м. інш. купалаву „Паўлінку", якой ролю выконвала Вера). У гэты час мяняецца характар яе паэтычнай творчасці: замест рэвалюцыйнага пафасу з'яўляецца лірыка і прыродаапісанне.



Да настаўніцкай працы Вера з мужам вяртаюцца толькі пры савецкай уладзе. З восені 1939 г. працавалі ў Калантаях Ваўкавыскага павету, а летам 1940 г. вяртаюцца ў Агароднічкі. Тут арганізуюць беларускую няпоўную сярэднюю школу. У гэтай школе працавалі таксама ў час нямецкай акупацыі (да Каляд 1941 г.), а пазней, калі яўнае навучанне было забаронена, вучылі дзяцей тайна. Восенню 1943 г. зноў адкрываецца беларуская школа ў Агародніччах, у якой надалей працуюць Карчэўскія.

У Агародніччах працавала Вера і пасля вайны, выкладаючы родную мову ў паралельных класах з беларускай мовай навучання. Аднак гэтая яе дзейнасць была соллю ў вачах падполля. У выніку яго тэрарыстычных дзеянняў Вера была вымушана спыніць настаўніцкую працу ў Агародніччах і ў чэрвені 1946 г. выехала ў Жагань на Сілезіі. Тут арганізавала дзіцячы сад, якім кіравала пяць гадоў. У палове 1951 г. вярнулася ў Супрасль, дзе загадвала гарадской бібліятэкай, працавала ў Лізе жанчын, была выбрана раднай у беластоцкую Павятовую раду нарадовую. З верасня 1958 г. — на пенсіі. Памерла 23 студзеня 1981 г. у Супраслі, пахаваная на мясцовых могілках.

Да апошніх дзён Вера жыва цікавілася дзейнасцю Беларускага грамадска-культурнага таварыства, была пастаянным чытачом „Нівы" і „Беларускіх календароў", удзельнікам Супрасльскага царкоўнага хору. Яе невялікае памяшканне было своеасаблівым цэнтрам, у якім панавала родная атмасфера, дзе можна было знайсці беларускае друкаванае слова і атрымаць шмат звестак аб мінулым. Толькі ў апошнія гады жыцця „адважылася" прадставіць нізку сваіх вершаў, якія апублікавала „Ніва" (5.III.1978 г.). З гэтага часу і пачалося „адкрыванне" Веры і яе цікавага жыццяпісу, які смела можна назваць калейдаскопам лёсаў нашай інтэлігенцыі ўжо амаль адыйшоўшага пакалення, з яго імкненнямі, дасягненнямі і памылкамі, але заўсёды з непахіснай верай у лепшую будучыню.

---

[1]) М. Гайдук, З горда ўзнятым чалом, „Ніва", 30 VII 1978.

[2]) Пасля арышту Маслоўскай актывізавалася дзейнасць атрада „Скамароха", м. інш. у ноч з 28 на 29 красавіка 1922 г. адбылася акцыя на пастарунак паліцыі ў Кляшчэлях. У палове мая была разбіта база атрада ў Белавежскай пушчы. Ад жніўня да снежня 1922 г. выдаваўся часопіс

„Беларускі Партызан“, якога рэдактарам значыўся „Скамарох“. Пазней (1923 г.?) ён уцёк у СССР. Да 1929 г. быў дырэктарам абутковай фабрыкі ў Гомелі. Далейшы лёс невядомы.

[3]) Працэс 45-ці беларусаў у Беластоку, Вільня 1923, с. 28-30.

[4]) Там жа, с. 290.

[5]) Гэты верш быў надрукаваны ўжо 30 мая 1923 г. у віленскай газеце „Наша Жыцьцё“, за што газету канфіскавалі. Пазней рукапіс верша Родзевіч выслаў у Прагу, дзе Уладзімір Жылка яго надрукаваў у часопісе „Перавясла“ (№ 1, лістапад-снежань 1923). У 1980 г. верш быў перадрукаваны ў беластоцкім альманаху „Белавежа III“ на жаль, без ініцыялаў Веры Маслоўскай („В.М.“), якой Родзевіч прысвяціў свой верш.

[6]) Ю. Туронак, Забытая ліра Веры Мурашкі, „Ніва“, 5 III 1978. Там жа некалькі вершаў Веры.

**МІКОЛА ДАВІДЗЮК**

# СПРАВА БЕЛАРУСІЗАЦЫІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў СВЯТЛЕ ПАЛІТЫКІ ПОЛЬСКІХ ДЗЯРЖАЎНЫХ УЛАД 1919—1939

## (СКАРОЧАНАЯ ВЕРСІЯ)

Вясной і летам 1919 г. у выніку падпісанага 5-га лютага ў Беластоку дагавору з немцамі, заходняя частка Беларусі разам з Мінскам апынулася ў сферы польскіх уплываў. На гэтых абшарах створана часовую адміністрацыю г.зн. Цывільную ўправу ўсходніх земляў.

Паступова вярталася з глыбі Расіі праваслаўнае беларускае насельніцтва, у тым ліку і святары. Аднак жа ў такой сітуацыі становішча было далёкім ад нармальнага. Калі для прыкладу ў былой Гродзенскай губерні (без трох паветаў: Беластоцкага, Бельскага і Сакольскага, далучаных раней да Польшчы) у 1911 г. праваслаўных было амаль 791 тысяч, дык у студзені 1920 г. толькі 323 тыс. На гэтым жа абшары ў 1914 г. існавала 286 цэркваў, а ў маі 1920 г. адчыненых было ўсяго 160.[1])

Разам са зменай палітычнага становішча на землях заходняй часткі Беларусі, радыкальна змянілася сітуацыя царквы. Праваслаўе, якое традыцыйна ўжо атаесамлівалася з расейшчынай раптам з прывілегіяванага раней веравызнання стала быць праследаваным.

У зусім новых і складаных абставінах беларускія дзеячы паставілі справу неабходнасці — на пачатак частковай беларусізацыі царквы. Перш за ўсё дамагаліся яны ўвядзення мясцовай беларускай мовы ў пропаведзі ды навучанне рэлігіі. У чэрвені 1919 г. з'езд прадстаўнікоў беларускага насельніцтва Віленшчыны і Гродзеншчыны дамагаўся, апрача беларускіх пропаведзяў, назначэння епіскапам аднаго з беларускіх святароў ды арганізавання навукі ў Віленскай праваслаўнай семінарыі ў нацыянальным духу.

 

Пры вядомым і наогул непрыхільным становішчы да беларусізацыі з боку паасобных праваслаўных епіскапаў, як і рашучай большасці святароў справа не была простай. І так для прыкладу, епархіяльны з'езд духавенства, які адбыўся ў Мінску ў пачатку красавіка 1920 г. аднёсся варожа да справы аўтакефаліі беларускай царквы і яе беларусізацыі а нават існаванне беларускай мовы.[2])

У студзені 1922 г. урад Беларускай Народнай Рэспублікі пераслаў маскоўскаму патрыярху Ціхану мемарандум, у якім прадставіў складанае становішча царквы пад польскай акупацыяй ды запатрабаваў правядзення беларусізацыі дзеля ўзмацнення яе. Патрыярх Ціхан перадаў мемарандум Сіноду Епіскапаў а затым Вышэйшай царкоўнай радзе (пакліканай усерасійскім саборам у 1918 г.) дзеля разгляду. Прынята тады пастановы, якія дазвалялі ўводзіць беларускую мову ў дадатковыя багаслужбы, пропаведзі ды навучанне рэлігіі. Вырашана таксама звярнуцца да епіскапаў, што знаходзіліся на Беларусі, у справе выдання збораў пропаведзяў, малітоўнікаў ды Новага Запавету ў мове прыхаджан. Адносна патрабавання назначэння епіскапамі святароў ведаючых беларускую мову, патрыярх, лічачы пастулат справядлівым, паясніў, што ў даны час здзяйсненне яго звязана было б з беспадстаўным адсоўваннем епіскапаў назначаных раней. Паабяцаў аднак лічыцца з патрабаваннямі беларусаў у будучыні. Пра прынятыя пастановы павядомлена зацікаўленых епіскапаў.[3])

Сярод іншых была таксама спроба давесці да незалежнасці беларускай царквы з дапамогаю польскага ўрада. З гэткаю прапановаю выступіў беларускі бок падчас беларуска-польскіх перагавораў, якія адбыліся 20-24 сакавіка 1920 г. у Мінску. Польская дэлегацыя палічыла справу, якой нельга адкладаць і забавязалася давесці да захадаў у тым напрамку адпаведных улад.[4]) Мінскія перагаворы не далі, як вядома, да ніякіх канкрэтных рэзультатаў. А пасля падпісання рыскага трактату (у сакавіку 1921 г.) ды аканчальнага вырашэння справы ўсходняй мяжы, у палітыцы польскай дзяржавы, адносна праваслаўя, адбыўся рашучы паварот у напрамку поўнага падпарадкавання царквы дзяржаве.

Выпадае адзначыць, што канцэпцыя цеснага падпарадкавання царквы дзяржаве, не была пачаткова адзінай. У першай палове дваццатых гадоў разглядалася ўладамі таксама і канцэпцыя ліквідацыі праваслаўя як такога, галоўным чынам з дапамогаю каталіцкага касцёла. Аднак была яна пакінута з увагі на тое, што не ўдалося б яе правесці без рызыкі шматгадовых рэлігійных войнаў на т.зв. крэсах. Вырашальнае аднак значэнне мела праўдападобна іншая пагроза, менавіта ўлады баяліся таго, што месца ліквідаванага праваслаўя заняў бы не касцёл рыма-каталіцкага абраду а грэка-каталіцкі, уніяцкі. Трэба аднак дабавіць, што з ліквідацыяй канцэпцыі ніколі зусім не зрэзыгнавала, абмяжоўваючы толькі тэрытарыяльны яе абсяг да найбліжэйшых, як на пачатак, крэсаў, менавіта: Люблінскага і заходняй часткі Беластоцкага ваяводства.[5]

Абвешчаныя з датаю 30-га студзеня 1922 г. „Часовыя правілы датычныя адносінаў ураду да праваслаўнае царквы ў Польшчы" (Tymczasowe przepisy o stosunku rządu do Kościoła prawosławnego w Polsce) хоць выдадзена іх насуперак канстытуцыі,[6] уладамі аднак трактаваліся як поўнасцю абавязваючыя. Акт гэты рэгуляваў шэраг спраў звязаных з жыццём царквы, м. інш. санкцыянаваў сінадальна-кансістарскі ўнутраны лад, не зважаючы на ягоную непапулярнасць. Быў ён у супярэчнасці з пастановамі Маскоўскага Сабору ад 1918 г.

„Часовыя правілы" давалі ўладам шматлікія магчымасці інгерэнцыі ва ўнутраныя справы царквы, асабліва персанальныя (трэці артыкул), які быў вельмі часта выкарыстоўваны як выгодны сродак націску. Рэгулявалі яны таксама шэраг спраў, звязаных з мовай. Паасобныя артыкулы зводзіліся да таго, што асноўнай мэтай іх была паланізацыя ўнутранага жыцця царквы. З адным, хоць важным, выключэннем, менавіта артыкул 18, паводле якога навучанне рэлігіі ў публічных школах мелася весці ў роднай мове вучняў.

Дзеля апанавання ды падпарадкавання праваслаўя дзяржаве, неабходнай і быццам уступнай умоваю было ўстанаўленне т.зв. аўтакефаліі. Не зважаючы на рашучае супраціўленне большасці епіскапаў, духавенства, верных — аўтакефалія была накінута сілай, з парушэннем не толькі кананічнага права, але і закону, які абавязваў у тагачаснай Польшчы. Бясправе гэтае было пазней прыкрыта дзяржаўнымі ўладамі купленым ад канстантынопальскага патрыярха т.зв. томасам. Аўтакефалія давала нічым не абмежаваныя магчымасці царквы ў якасці прылады дзяржаўнай палітыкі адносна нацыянальных меншасцей.

У адрозненне ад справы беларусізацыі царкоўнага жыцця, якая ўсё заставалася ў сферы патрабаванняў, украінізацыя на Валыні, хаця і абмежаваная да нешматлікіх парафіяў, сталася аднак фактам. Асабліва з'езд духавенства ды свецкіх прадстаўнікоў валынскай епархіі, які адбыўся ў Пачаёве ў днях 3-10 кастрычніка 1921 г., быў удачаю староннікаў арганізацыі.[7] Ад самага пачатку сцерліся на ім два лагеры: староннікаў і праціўнікаў украінізацыі хоць заключная пастанова была вынікам пэўнага кампрамісу, легалізавала аднак раней створаныя факты ды давала фармальныя асновы дзеля пазнейшых намаганняў. Трэба падкрэсліць, што вырашальнае значэнне меў удзел

 

 

свецкіх прадстаўнікоў, якія былі дапушчаныя да з'езда на аснове пастаноў Маскоўскага Сабору. Неўзабаве арганізаванне падобных з'ездаў было на нейкі час спыненае польскімі ўладамі.

Намаганні ўкраінцаў давялі да таго, што Сінод Епіскапаў быў вымушаны пайсці на ўступкі і на пасяджэнні 16-га чэрвеня 1922 г. прыняў пастанову дазваляючую валынскаму епіскапу на ўвядзенне народнай украінскай вымовы царкоўна-славянскай мовы ды чытання Святога Пісання ў такіх выпадках, якія будуць прызнаныя ім за неабходныя.[8]

Пастанова Сіноду выклікала выразны непакой у Міністэрстве веравызнанняў і публічнай асветы (далей МВіПА), якое звярнулася да мітрапаліта Юрага з просьбай аб дадатковыя паясненні.[9] Мітрапаліт у сваім адказе стараўся перш за ўсё ўспакоіць улады пішучы, што справа ў дапушчэнні народнага вымаўлення царкоўна-славянскіх тэкстаў а не у ўкраінскай мове.[10]

У міністэрстве ўзнік план выкарыстання пастановы Сіноду дзеля ўвядзення польскай мовы і ў пісьме мітрапаліту ад 19-га кастрычніка 1922 г. звярнулася яно з просьбаю ўзяць пад увагу аналагічны дазвол адносна беларускай мовы і польскай.[11]

Адказ мітрапаліта быў пазітыўны, аднак з засцярогаю, што можа гэта мець месца толькі тады, калі запатрабуюць гэтага парафіяне і пасля атрымання благаславенства адпаведнага епіскапа.[12]

Наступным ходам міністэрства быў рэскрыпт з 6 снежня 1922 г. накіраваны ваяводам у Беластоку, Бярэсці, Любліне, Луцку, Навагрудку ды дэлегату Ураду ў Вільні, у якім прадстаўлена становішча мітрапаліта, выказваючы пры тым надзею што будзе яно адпаведна выкарыстанае.[13]

Беластоцкі ваявода Папялёўскі, адказваючы на рэскрыпт сцвердзіў, што пасля сакрэтных кансультацый з павятовымі старастамі, выкарыстоўванне заявы мітрапаліта ў дадзены момант лічыць шкодным. Затым абшырна абгрунтаваў сваё становішча. Перш за ўсё, не пярэчачы, што праваслаўныя, якія жывуць на абшары Беластоцкага ваяводства, з'яўляюцца беларусамі і ўвядзенне беларускай мовы ў царкоўным жыцці мела б безумоўна ўплыў на odrusyfikowanie kresów, аднак жа адмоўнай паслядоўнасцю таго было б моцнае заакцэнтаванне беларускай нацыянальнай справы, што з прычын палітычнага характару ваявода палічыў шкодным. Па-другое, усведамленне беларусаў, паводле слоў ваяводы, вельмі малое, а паколькі не хапае ім культуры, каб хутка пашырыць нацыянальную свядомасць, беларусы з бегам часу і пры адпаведнай палітыцы, а таксама пад уплывам kultury polskiej przekształcą się prawdopodobnie w Polaków wyznania prawosławnego.[14]



У міністэрстве раздзялялі становішча беластоцкага ваяводы, разыходзілася аднак пра тое, каб у хуткім часе ўвесці ў царкоўнае жыццё польскую мову ўсюды там, дзе гэта толькі магчыма. Неспакой у міністэрстве выклікаў той факт, што нягледзячы на выразны з яго боку заклік, нідзе не аднатавана ўвядзення польскай мовы ў літургію, пропаведзі ці ў школьнае навучанне рэлігіі. Дазвол Сіноду быў выкарыстаны толькі ў валынскай епархіі на карысць украінскай мовы. Палічана, што прадстаўляе гэта для польскай культуры, а асабліва дзяржаўнасці, яшчэ большую пагрозу чымсьці русіфікацыя.[15] Вырашана затым, што пара з тым скончыць і дзеля таго па загадзе міністра Станіслава Гланбінскага наладжана міжміністэрыяльную канферэнцыю. Адбылася яна 26 верасня 1923 г. Парадак дня абыймаў: увядзенне польскай мовы ў багаслужбу для польскага насельніцтва, ды ў вайсковае душпастырства, выданне і распаўсюджанне малітаўнікаў і падручнікаў да навукі рэлігіі на польскай мове, а таксама ўвядзенне грэгарыянскага календара.[16] Разглядаліся шматлікія прапановы супольных дзеянняў, не прынята аднак ніякіх канкрэтных рашэнняў. Канферэнцыя мела больш інфармацыйны характар. Аб'яўлена склікане наступных.

У канцы 1924 г. міністэрыяльны дарадчык Мар'ян Бароўскі арганізаваў дзве канферэнцыі прысвечаныя культурнай і рэлігійнай палітыцы дзяржавы адносна нацыянальных меншасцей, а канкрэтна беларусаў і ўкраінцаў на т.зв. бліжэйшых крэсах. І так, першая адбылася 6 і 7 лістапада ў Любліне, на якой Бароўскі прадставіў альтэрнатывы той жа палітыкі. Справу стаўляў надзвычай катэгарычна, сцвярджаючы м. інш.: albo prawosławie na terenie województwa lubelskiego spolonizuje się, a przynajmniej stanie się polonofilskiem, albo musi zginąć.[17] Сам Бароўскі быў староннікам паланізацыі праваслаўя, аднак прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі ў сваёй большасці схіляліся да іншай альтэрнатывы, іменна — ліквідацыйнай. Лічылі яны, што ліквідацыя праваслаўя з дапамогаю каталіцкага касцёла будзе больш надзейным спосабам затаймавання росту нацыянальнай свядомасці мясцовых украінцаў і тым самым будзе спрыяць будучай іх паланізацыі. Бароўскі, дзеля падтрымання на духу даволі песімістычна настроеных урадн\ікаў, падкрэсліў важнасць урадавага фактару, заяўляючы м. інш наступнае: po tej stronie Bugu musimy prowadzić politykę agresywną. My jesteśmy kolumną szturmową polskości, musimy być stroną atakującą i zrzec się federacyjnych nastrojów.[18]

3-га снежня падобная канферэнцыя адбылася ў Беластоку. У абшырным уступным слове Бароўскі паўтарыў асноўныя тэ-

 

зісы свайго люблінскага выступлення. Пры чым шмат часу занялі яму нараканні на неўстаноўчасць мясцовай адміністрацыі, яе пасіўнасць, шкодныя традыцыі талерантнасці, прыродную ляноту палякаў і г.д.

Мясцовыя ўраднікі ў сваіх выступленнях дакаралі прадстаўніка цэнтральных улад з прычыны адсутнасці акрэсленай праграмы адносна рэлігійных ды нацыянальных меншасцей.

Адным з пунктаў парадку нарады быў рэферат Бароўскага на тэму становішча праваслаўнай царквы ў Польшчы, у якім м. інш. сцвярджаў ён: Sprawa języka w cerkwi prawosławnej jest dla Państwa bardzo ważna. (...) Jest to sprawa polityczna, jakim językiem będzie przemawiał ksiądz i MWRiOP musi ująć to w swoje ręce.[19]

Куратар Пытлякоўскі, узяўшы голас у дыскусіі заявіў, што навучанне праваслаўнай рэлігіі на польскай мове лічыць ён не толькі як патрэбнае, але і выканальнае. Справа гэтая ў Беластоцкім ваяводстве, паводле ягоных слоў, намнога лягчэйшая да ўвядзення чымсьці ў Люблінскім ваяводстве. Трэба каб: aby mniej uwagi zwracać na tzw. język ojczysty i życzenia rodziców, a więcej na to, którym językiem dziatwa faktycznie włada w słowie i piśmie.

Нараду закончыла выступленне рэферэнта па справах веравызнання, які падсумоўваючы выказаў перакананне, што трэба паступова ўводзіць польскую мову.

На наступны дзень Бароўскі прымаў дэлегацыі ад прыхаджан, закрытымі ўладамі парафій, з Маляшоў, Дубін і Супраслі. У сваёй справаздачы[20] з задавальненнем ён сцвярджаў, што дэлегаты, просячы дазволу на адкрыццё іхніх парафій, згаджаліся на ўсякія ўмовы, нават на ўвядзенне польскай мовы ў пропаведзі і навучанне рэлігіі.

Справаздачу з побыту ў Беластоку і Гродне Бароўскі канчаў высновамі, якія сам акрэсліў як — аптымістычныя. Polskość może i powinna stanąć śmiało i silną stopą na linii Curzona i uczynić z tej linii bazę operacyjną wobec Kresów Wschodnich.

Восенню 1922 г. былі адсунуты ўсе тры епіскапы беларускіх епархіяў: віленскі — Еліферый, пінскі — Панталейман, гродзенскі — Уладзімір. Прычынай іх арыштавання а пасля выгнання Еліферыя і Уладзіміра з Польшчы было непрызнаванне імі аўтакефаліі ды „Часовых правілаў". Пры тым улады падазравалі епіскапа Уладзіміра, што супрацоўнічае ён з эміграцыйным урадам Ластоўскага.[21]

Пазбыўшыся нявыгадных епіскапаў, улады неадкладна ўзяліся за т.зв. рэарганізацыю епіскапскіх кансісторый. Справа была ў тым, каб абсадзіць іх падпарадкаванымі людзьмі. Пры падборцы кандыдатаў абавязваў прынцып „чым горшы, тым лепшы". Выразна прэферавана людзей бязвольных і прадажных.[22] Дбалася пры тым, каб сярод штатных працаўнікоў кансісторый не было свядомых беларусаў. Прэферавана расейцаў, якія паводле ўлад лепш маглі рэалізаваць дзяржаўную палітыку адносна праваслаўя.[23]

З гродзенскай кансісторыі былі адсунуты перш за ўсіх прыхільнікі епіскапа Уладзіміра. Некаторыя з іх хутка здолелі прыстасавацца да новай сітуацыі. Да іх м. інш. належыў пратаярэй Аляксандр Лечыцкі, пра якога гродзенскі староста ў пісьме беластоцкаму ваяводу, пісаў: usunął się od udziału w wspieraniu przez tę klikę na czele z biskupem tzw. ruchu białoruskiego i od owego czasu stara się w sposób otwarty wykazywać i zaznaczać swą przychylność i lojalność względem Państwa Polskiego.[24]

Найдаўжэй „незрэарганізаванай" і тым самым непрызнаванай уладамі кансісторыяй была віленская кансісторыя. Пэўнай перашкодай была тут справа т. зв. Сярэдняй Літвы. Віленшчына, прынамсі фармальна, да 6 красавіка 1922 г., не ўваходзіла ў склад польскай дзяржавы, пасля гэтага тэрміну правы, якія абавязвалі ў Польшчы не расцягнуліся аўтаматычна на гэтым абшары. Іншай прычынай спазнення былі непаразуменні з дэлегатам Ураду ў Вільні, які, паводле міністэрства, не разумеў сутнасці палітыкі дзяржаўных улад. Яшчэ ў кастрычніку 1923 г., адносячыся да пераліку членаў кансісторыі перасланага дэлегатам, міністр Гланбінскі павучаў яго: mam także wrażenie, że polityczny punkt widzenia Pana Delegata niezupełnie odpowiada poglądom rządowym. W istocie, separatystyczny ruch białoruski jest dla Polski niebezpieczniejszy niż rosyjsko-monarchiczny.[25]

11 жніўня 1923 г. МВіПА разаслала да ваяводаў сакрэтны рэскрыпт, які забавязваў іх да падрыхтавання спіскаў праваслаўных святароў разам з характарыстыкай іхніх адносін да дзяржавы. Спіскі былі падрыхтоўваны ў сувязі са справаю грамадзянства святароў. Служылі яны падставаю да рэкамендацый перасланых па жаданню Міністэрства ўнутраных спраў.

Прызнанне святарам польскага грамадзянства, трактавалася дзяржаўнымі ўладамі, як своеасаблівае рэшата, з дапамогаю якога імкнуліся яны пазбыцца найбольш нявыгадных. Вырашальнае значэнне мела апінія МВіПА. Праўнае званне на грамадзяніна не было трактавана аблігатарыйна.[26] Улады прыхільныя былі на прыніжанасць і дэманстратыўнае падкрэсліванне лаяльнасці. Аднак жа найменшае падазрэнне ў т. зв. нацыянальным сепаратызме было, як правіла, паважнай перашкодай у атрыманні грамадзянства. Разгляд прашэнняў часта зацягваў-

 

 

ся, не было нармальнай практыкай і яшчэ адным сродкам націску. З такімі практыкамі скончана каля 1930 г.

Адным з болей эфектыўных спосабаў націску была праведзеная ў гадах 1924-25 масавая акцыя г. зв. лаялізацыі духавенства. 1 лютага 1924 г. МВіПА выдала цыркуляр № 9627[27], які забавязваў ваяводаў дасылаць спіскі святароў, што супрацьпастаўляюцца аўтакефаліі. У практыцы, як гэта хутка аказалася, справа была тут і ў вылучэнні т.зв. сепаратыстаў. Трэба дадаць, што крытэрыі адносна гэтага былі даволі няясныя, і каб заслужыць кваліфікацыю ў тыя сепаратысты хапіла найменшага падазрэння. Ахвотна тут браліся ў лік чуткі, паклёпы ды ананімы. Дарэчы, ніхто нават і не прабаваў устанавіць факты, бо не ў тым была справа. Уся акцыя была прыдумана з мэтай застрашэння.

Святары, якія знайшліся ў тых спісках, падвяргаліся рэпрэсіям. Найчасцей выключалася іх з прыходаў або пераносілася ў іншы і горшы па-за межы ваяводства. У паасобных выпадках былі яны вымушаны выехаць за граніцу. Нярэдка аднак здараліся выпадкі, калі раней назначаную кару касавалі або лагодзілі, звычайна пасля таго, калі святар уніжыўся і праявіў „лаяльнасць". Такім чынам улады часта рэкрутавалі канфідэнтаў.[28]

У Беластоцкім ваяводстве, для прыкладу, знойдзена шаснаццаць „нелаяльных" святароў. 4 снежня 1924 г. сустрэўся з імі ў Беластоку міністэрыяльны дарадчык Бароўскі. Свае ўражанні з тае размовы заключыў у наступных словах: ludzie, którzy dotychczas lekceważyli państwowość polską, agitowali przy wyborach za listą antypaństwową, (...) obecnie znalazłszy się przed perspektywą utraty chleba wpadli w stan bliski rozpaczy i gotowi są do wszelkich upokorzeń.[29]

Акцыя лаялізацыі дала спадзяваныя вынікі. Яна не толькі астаткова зламала, прынамсі яўную, апазіцыю да аўтакефаліі, але перад усім пранізала святароў страхам. З часам прынясла багаты плён у выглядзе шырока распаўсюджанага сярод духавенства сервілізму і лісліваcці.

У канцы 1924 г. наступіў як быццам пералом у адносінах мітрапаліта Дыянізага да нацыянальных патрабаванняў беларусаў, а асабліва ўкраінцаў. Асноваю набліжэння а потым і пэўнага пагаднення з пасольскімі клубамі быў, як здаецца, той факт, што размовы ў справе рэгуляцыі прававых адносін паміж дзяржаўнымі ўладамі і царквою знайшліся ў тупіку, затым мітрапаліта непакоіла прыхільнасць улад да нэавуніі.

На хвалі гэтага, як паказаў час пераходнага паразумення, выйшаў з благаславення мітрапаліта першы беларускі праваслаўны часопіс. Быў гэта двухтыднёвік „Праваслаўны Беларус", якога першы нумар з'явіўся з датаю 1 лютага 1925 г.[30] Як бясплатны штомесячны дадатак, выходзілі таксама зборы прапаведзяў. Аднак жыццё часопіса не было доўгім. Апошні яго нумар выйшаў з датаю 25 снежня 1925 г. Перастаў ён выходзіць праўдападобна ў выніку націску дзяржаўных улад.

У чэрвені 1925 г. мітрапаліт паведаміў МВіПА пра свой намер пакліканне Мітрапалітальнае Рады, у склад якой уваходзілі б так духоўныя, як і свецкія асобы, і існавала б пры мітрапаліце на аснове асобнага статута зацверджанага Сінодам. У склад праектаванай рады з беларускага боку мелі ўвайсці Антон Рудлеўскі, член варшаўскай кансісторыі, ды сенатар Назарэўскі.[31]

Ініцыятыва мітрапаліта выклікала трывогу ўлад. МВіПА ўспрыняло праект як страшэнна небяспечны і да пакліканння рады не дапусціла. Мітрапаліт вярнуўся да справы яшчэ раз пасля майскага перавароту, але і тым разам без удачы. Палітыка дзяржаўных улад стала тады, праўда, больш памяркоўнай, але ў асноўным аднак не змянілася, а нешматлікія тадышнія паступкі мелі характар больш сімвалічны. З той магчыма толькі розніцай, што пілсудчыкі з большай нецярплівасцю адносіліся да расейскага характару царквы і на той аснове некаторыя з іх былі б схільныя талераваць абмежаваную беларусізацыю.

У палове 1928 г. група беларускіх дзеячоў звярнулася да мітрапаліта Дыянізага з просьбаю наконт утварэння асобнага беларускага прыходу ў Вільні.[33] Галоўнымі ініцыятарамі справы былі: Радаслаў Астроўскі і а. Аляксандр Коўш, настаяцель прыходу на Сніпішках (прадмесце Вільні) ды прэфект Беларускай гімназіі. Ад 1926 г. за згодай віленскай кансісторыі а. Коўш час ад часу служыў багаслужбы для гімназістаў і гаварыў пропаведзі па-беларуску ў невялічкай Пятніцкай царкве.

Мітрапаліт варшаўскі, рэзалюцыяй з 20 жніўня 1928 г., дазволіў епархіяльным уладам на стварэнне асобнай беларускай парафіі.[34] Справа аднак нечакана стала складанай, віленскі архіепіскап Фядос аднёсся да яе непрыхільна. У размове з ваяводаю не скрываў, што паддаецца толькі націску мітрапаліта.[35]

Архіеп. Фядос, хочучы ўхіліцца ад вызначанага аднаго з пяці віленскіх прыходаў як беларускага, што было б найпрасцейшай развязкай, запрапанаваў заснаванне беларускага прыходу пры Пятніцкай царкве, якая якраз не была штатнаю царквою, а толькі фільяльнаю Мікалаеўскага прыходу. Справа была ў тым, што трэба было дабіцца згоды з боку МВіПА. І хоць архіепіскап віленскі, паклікаючыся на рэзалюцыю мітрапаліта, накіраваў адпаведнае прашэнне ў міністэрства, то справа ў тым жа міністэрстве застрагла. Праўда, міністэрства звярнулася да ваяводы, каб той выказаў свой погляд, але пасля

атрымання яго адказу: stworzenie jeszcze jednej w danym wypadku szóstej parafii prawosławnej — uważam bezwzględnie za niewskazane,[36] не спяшала з прыняццем канкрэтных рашэнняў, пра што сведчыць хаця б падганяючы ліст ваяводы з 7-га сакавіка 1930 г.[37] Такім чынам справа беларускай парафіі прысохла.

Трэба тут яшчэ адзначыць, што ваявода аднёсся да самога праекту стварэння беларускай парафіі — прыхільна, хоць далёка неадназначна. Уражывае інструментальны падыход да ўсёй справы. На яго думку спрыянне беларускаму руху ў царкве, можа заслугоўваць на падтрымку з боку ўлад толькі тады, калі будзе ён палічаны як карысны для дзяржаўных інтарэсаў.

Падсумоўваючы, ваявода зазначыў, што бачыць тры магчымасці ўладжання справы: стварэнне штатнай філіі пры Пятніцкай царкве, з правам весці метрыкальныя кнігі, ператварэнне Мікалаеўскага прыходу ў беларускі, трэцяя, на яго погляд найзручнейшая — стварэнне прыходу пры царкве на Сніпішках.

У снежні 1929 г. беларускія дзеячы нанава звярнуліся з абшырным мемарыялам, тым разам адрасаваным міністру веравызнанняў. Цяпер патрабавалі яны больш, не толькі перадачы Мікалаеўскага прыходу, але і рэарганізацыі віленскай духоўнай кансісторыі так, каб знайшлося ў ёй месца для беларусаў.[38]

Перасылаючы гэты мемарыял у МВіПА, у студзені наступнага года, віленскі ваявода ў суправаджальным пісьме[39] палічыў, што Пятніцкая царква поўнасцю зможа заспакоіць рэлігійныя патрэбы беларусаў. Аднак патрабаванне беларусізацыі віленскай кансісторыі прызнаў заўчасным. На яго думку, справа хутчэй ужо зводзілася б да ўвядзення ў кансісторыю адзінак большай маральнай вартасці. Паабяцаў пры тым скласці адпаведную прапанову. Ваявода выступіў таксама з унушэннем адказу, менавіта: паведаміць просьбітаў, што вырашэнне іхняй справы залежыць ад царкоўнай улады і няхай да яе звяртаецца.

Дырэктар Дэпартаменту Веравызнанняў МВіПА, вяртаючы мемарыял беларусаў, паінфармаваў, што міністр поўнасцю раздзяляе погляды ваяводы.[40]

18 студзеня 1930 г. архіепіскап Фядос прыняў дэлегацыю беларусаў на чале з Астроўскім. Разглядалася справа беларусізацыі віленскай кансісторыі.[41] Невядома, які быў вынік размовы, можна толькі здагадацца, што адмоўны.

У міжчасе мелі месца і іншыя ініцыятывы беларускіх дзеячоў, м.інш. аб'яднанне „Прасвета“ звярнулася пісьмова да мітрапаліта, хоць добра было вядома, што справа беларусізацыі разбіваецца перад усім аб віленскую кансісторыю, якая ставілася да яе рашуча непрыхільна.

Ва ўзнікшай складанай сітуацыі, дзеля кансалідацыі далейшых намаганняў, вырашана прыдаць руху арганізаваныя формы. Прынята, што неабходна дзеля гэтага наладзіць з'езд праваслаўных беларусаў. 22 лютага 1930 г. узнікла ініцыятыўная група. Неўзабаве адбыўся і сам з'езд.

За згодай адміністрацыйных улад — 14 сакавіка 1930 г. — сабралася ў Вільні ўсяго раптам 19 дэлегатаў. У тым ліку 6 з самой Вільні, рэшта з т.зв. правінцыі.[42]

З'езд адкрыў Хвёдар Вернікоўскі, старшыня „Прасветы“. На яго прапанову адспявана беларускую рэлігійную песню. Затым выбрана прэзідыум і старшыню пасяджэння. Стаў ім Вернікоўскі. Выслана прывітальныя тэлеграмы: прэзідэнту, мітрапаліту, ды міністрам веравызнанняў і ўнутраных спраў. На тэлеграму адказаў толькі мітрапаліт — падзякай ды благаслаўленнем. А віленскі архіепіскап, да якога арганізатары звярнуліся яшчэ перад з'ездам, адмовіў свайго благаслаўлення дый забараніў святарам удзельнічаць у ім — даказваючы, што святыя каноны царквы не прадбачваюць такіх з'ездаў.[43]

З праграмным рэфератам выступіў Усевалад Більдзюкевіч. Тэзісы яго рэферату сталі асноваю праграмы. Пазнейшая дыскусія, не надта ажыўленая, не ўнясла шмат новага. Побач з беларусізацыяй царкоўнага жыцця (апрача літургіі), з'езд дамагаўся персанальных змен у духоўных кансісторыях, якія „з'яўляюцца асяродкам русафільства і русыфікатарства“.[44] Апрача таго, выказваліся патрабаванні беларусізацыі віленскай праваслаўнай семінарыі (насільна спаланізаванай польскімі ўладамі ў гадах 1923-25), увядзення беларускай мовы таксама і ў вайсковым душпастырстве ды метрыкальных запісах — паралельна з польскай мовай.

З'езд заняў таксама становішча ў дзвюх моцна тады актуальных і надзвычай важных для праваслаўя ў Польшчы справах, а менавіта: выступіў рашуча супраць т.зв. рэвіндыкацый цэркваў і за скліканнем Усепольскага Сабору.

Сфармаваны ў выніку з'езда камітэт (Беларускі цэнтральны праваслаўны камітэт па беларусізацыі царквы) складала дванаццаць асоб. Старшынёю выбрана Вернікоўскага, першым яго намеснікам а. Коўша (завочна), другім Більдзюкевіча. Сакратаром стаў студэнт — Міхась Маскалік.

Як Астроўскі, так і а. Коўш не прымалі ўдзелу ў з'ездзе (другі з прычыны забароны архіепіскапа). Яго ліст быў зачытаны на з'ездзе. За сваю пазнейшую, зрэшты неафіцыйную, дзейнасць у камітэце, быў ён часова адсунуты духоўнымі ўладамі ад спаўняння абавязкаў настаяцеля парафіі.[45]

Камітэт ад самага пачатку сваёй дзейнасці стаяў перад нялёгкай задачай. Не з'яўляецца сакрэтам той факт, што не меў ён і ў тадышніх абставінах не мог мець шырэйшых уплываў у грамадстве. Мог іх дабіцца толькі з часам пры напружанай і паслядоўнай працы, якой па праўдзе кажучы, не меў хто рабіць. Царкоўная ерархія да справы беларусізацыі адносілася паслядоўна варожа, хоць трэба адзначыць, што сам мітрапаліт схільны быў да пэўных уступак. Калі ходзіць аб святароў, то яны, хоць у сваёй большасці былі мясцовага, значыць беларускага паходжання, то ў найлепшым разе адносіліся да справы абыякава. Аднак дзяржаўныя ўлады пачаткова талеравалі дзейнасць камітэта (да паловы трыццатых гадоў), не з увагі на тое, што якраз спрыялі беларусізацыі, а толькі таму, што быў ён ім патрэбны як своеасаблівая прылада дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да праваслаўя як такога.[46]

Камітэт выдаваў свой прэсавы орган — „Светач Беларусі". Выходзіў ён рэдка, хоць пачаткова быў задуманы як двухтыднёвік.

Асноўная дзейнасць камітэта зводзілася перад усім да заклікаў. У адрас гэтых духоўных як і дзяржаўных улад пасыпаліся шматлікія мемарыялы, у якіх аўтары, паклікаючыся на маральныя прынцыпы, імкнуліся даказаць справядлівасць сваіх намаганняў. Мемарыялы гэтыя аставаліся наогул без адказу. З часам дзеячы камітэта пачалі аднак дабівацца пэўных поспехаў, асабліва аўдыенцыі ў мітрапаліта і віленскага архіепіскапа, канчаліся некалі канкрэтнымі здабыткамі. Да іх ліку трэба залічыць м. інш. паклікання ў 1934 г. адмысловай камісіі для разгляду і выпраўлення падручнікаў да навукі рэлігіі на беларускай мове для вучняў пачатковых і сярэдніх школ. Неўзабаве пад рэдакцыяй Сяргея Паўловіча, выйшаў з друку першы падручнік.

Апрача асноўнага напрамку дзейнасці камітэта, быў і пабочны, праўда менш хвалебны, затое галосны сваімі скандаламі. Зводзіўся ён да беспардонных атакаў на паасобных членаў віленскай кансісторыі з мэтай скампраметаваць іх. Асаблівай актыўнасцю адзначаўся Сарока, аўтар і выдаўца, скандальных сваім зместам аднаднёвак „Проч з ліхазеллем" і „У імя праўды". Як прызнаў сам Сарока была гэта свайго роду правакацыя. Дайшло нават да судовага працэсу. 22 верасня 1931 г. акружны суд у Вільні прысудзіў Сароку на адзін месяц арышту з завешаннем кары на працяг двух гадоў.[47]

Пачуццё бяссілля ды звязання з тым фрустрацыі схілялі паасобных дзеячоў карыстацца ў сваёй барацьбе метадамі, якія напэўна не маглі добра служыць справе, хоць бы даносы і паклёпы. Хтосьці нават дапусціўся хуліганскай выхадкі, выбіваючы вокны ў сялібе віленскага архіепіскапа.

Згоднае пачаткова супрацоўніцтва галоўных аніматараў руху, Астроўскага і а. Каўша, неўзабаве скончылася. Астроўскі пачаў выдаваць „Голас Праваслаўнага Беларуса", у якім шмат месца адводзілася нападкам на камітэт. Падвяргалася высакароднасць мэтаў дзейнасці камітэта, схільнасць да уніі і г.д. Аб'ектам асабліва заўзятых нападак ды паклёпаў быў а. Коўш. Калі восенню 1931 г. разышліся ў Вільні чуткі, што а. Коўш назначаны настаяцелям Мікалаеўскага прыходу, адразу пачалася вострая кампанія супраць таго назначэння. Праўдападобна сам Астроўскі кіраваў кампаніяй і выкарыстоўваючы свае ўплывы ў кансісторыі дабіўся таго, што год пазней святар Коўш быў вымушаны пакінуць Вільню атрымаўшы назначэнне ў Нарыцкі прыход.[48]

Несумненна безупынныя скандалы не маглі памагчы справе беларусізацыі царкоўнага жыцця, наадварот, кампраметавалі яе. Бесстаронныя наглядальнікі не маглі зразумець у чым справа, паколькі наогул цяжка зразумець, чаму дзве групы, якія ставяць сабе аднолькавыя мэты, не могуць паразумецца між сабою.[49]

Генезіс канфлікту сягаў, праўдападобна, часоў легальнай дзейнасці „Грамады". Святар Коўш працаваў тады як бухгалтар у Беларускім банку і не мог не ведаць сакрэтаў таго ж банку, якога старшынёй быў Астроўскі. Відаць Астроўскі баяўся, што Коўш у пэўны момант перастане маўчаць і таму ўсялякімі спосабамі імкнуўся публічна яго дыскрэдытаваць і такім чынам абняшкодзіць.

У палове трыццатых гадоў выразна інтэнсіфікавалася, дагэтуль даволі пасіўная, нацыянальная і рэлігійная палітыка найвышэйшых дзяржаўных улад. Найбольш бачнай праявай новага падыходу было заснаванне Радаю Міністраў Камітэта па нацыянальных справах. Да заданняў камітэта належыла апрацоўка дырэктываў нацыянальнай і рэлігійнай палітыкі, каардынацыя дзеяння паасобных дзяржаўных органаў, а таксама разбуджванне грамадскай ініцыятывы ўспамагаючай урад. Выканаўчым органам камітэта было Бюро нацыянальнай палітыкі пры Прэзідыуме Рады Міністраў.[51]

У рамках камітэта створана 7 сакавіка 1935 г. Камісію па справах праваслаўнага веравызнання. Апрацавала яна —Тэзісы"[52], якія сталіся асноваю палітыкі ўлад у дачыненні да праваслаўя. Згодна з імі, падставаю ўнутранага ладу царквы павінна быць належнае ўлічванне дзяржаўнага інтарэсу. У „Тэзісах" сфармулявана праграму паланізацыі царквы. Справу выхавання святароў, напрыклад, сфармулявана наступна: wykształce-





© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

nie przyszłych kapłanów prawosławnych powinno być zeŚrodkowane w Warszawie, a w instytucjach powołanych do tego zadania, specjalną dbałością należy otoczyć te zagadnienia, przez które osiągnęłoby się najowocniejsze nasilenie elementów polskich w psychice wychowanków.

Улады дзейнічалі рашуча і хутка. Перад усім Дэпартамент веравызнанняў МВіПА пастараўся ўзяць справу выхавання будучых святароў цалкам у свае рукі. Яшчэ перад „Тэзісамі", бо ў сакавіку 1935 г. вымушана згоду мітрапаліта на ліквідацыю семінарыяў у Вільні і Крамянцы.[53] У іхняе месца створана ў Варшаве спярша інтэрнат, пазней трохгадовы Дзяржаўны праваслаўны тэалагічны ліцэй. Інтэрнат, які афіцыйна называўся мітрапалітальным, быў фактычна міністэрыяльным. Адчынена яго ў навучальным годзе 1935/36. Паралельна ўстрымана рэкрутацыю ў Вільні і Крамянцы. Астатковую ліквідацыю тых семінарыяў прадбачана на ліпень 1940 г.

Ні мітрапаліт, ні духоўныя ўлады не мелі ніякага ўплыву нават на падбор кандыдатаў. Рэкрутацыю ў інтэрнат праводжана такім спосабам, што ахвотныя з атэстатам заканчэння пачатковай школы здавалі ўступны экзамен у вызначаных міністэрствам польскіх гімназіях. Здадзены экзамен не абазначаў аўтаматычна прыняцця ў інтэрнат. Наступны этап селекцыі заключаўся ў тым, што МВіПА рассылала спіскі патэнцыяльных кандыдатаў у адпаведныя ваяводскія ўправы, заданнем якіх было не толькі маральная што і палітычная рэкамендацыя. Справа была ў сабранні ў асяроддзі кандыдата дадзеных адносна яго бацькоў, стану іх нацыянальнай свядомасці, хатняй мовы ды адносін да польскай дзяржавы. Пасля гэтага МВіПА вызначала канчатковы спісак прынятых у інтэрнат. Каб запэўніць najowocniejsze nasilenie elementów polskich w psychice wychowanków рассылалася іх па васьмі розных сталічных польскіх гімназіях. Пасля заканчэння іх, як выхаванцы „мітрапалітальнага" інтэрнату, мелі яны права ўступіць у Дзяржаўны праваслаўны тэалагічны ліцэй, адчынены ў навучальным годзе 1938/39.[54]

У інтэрнаце выхаванцы падвяргаліся т. зв. дзяржаўна-творчай індакрынацыі.[55]

Больш менш ад паловы 1935 г. узрастаў націск дзяржаўных улад на духавенства. Перш за ўсё адміністрацыя дамагалася ўвядзення польскай мовы ў навучанне рэлігіі ў школах ды прапаведзях.

Справу мовы навучання праваслаўнай рэлігіі ў школах на абшары віленскага ваяводства рэгулявала адпаведнае права выдана праз куратары з 24 чэрвеня 1932 г.[56], згодна з якім навука мела адбывацца ў роднай мове вучняў. Тым часам рэлігію выкладалі прэфекты па-расейску, што было некалі прычынаю інгерэнцыі з боку асветных улад, або кіраўнікоў школ. З часам паявіліся таксама прэфекты, якія паддаючыся націскам адміністрацыі, перад усім старастаў, пачалі вучыць рэлігіі папольску.

І адно, і другое выклікала пратэсты з боку беларускай прэсы, якая, паклікаючыся на распараджэнне куратарыі, дамагалася выконвання яго ў практыцы. Прэсавая кампанія прымусіла архіепіскапа Фядосія акрэсліць сваё становішча ў гэтай справе. Выдаў ён 17 кастрычніка 1935 г. цыркуляр з наступным зместам: Z korespondencji dotyczącej kwestii nauki religii widzę, że niektórzy księża prefekci w parafiach z ludnością białoruską nie wykładają religii w miejscowej ojczystej mowie tzn. białoruskiej, na skutek czego powstaje niezadowolenie wśród władz szkolnych i pewnej części ludności, co powoduje korespondencję szkodliwą dla sprawy i dla samych prefektów. Polecam duchowieństwu dokładnie wykonywać nakaz dotyczący wykładów religii w szkole w mowie ojczystej, a więc w parafiach z ludnością białoruską wykłady winne odbywać się w języku białoruskim.[57]

Цыркуляр гэты не меў большага значэння, паколькі быў ён выданы запозна. Няцэлыя два гады пазней арх. Фядосій змушаны быў выдаць распараджэнне зусім іншага зместу. Дайшло да гэтага ў акалічнасцях, пра якія начальнік грамадска-палітычнага аддзела Ваяводскай управы ў Вільні — Ясінскі на канферэнцыі ў МВіПА 14 лютага 1939 г. сказаў наступнае: Zwalczając białorutenizację i rusyfikację cerkwi, władze administracyjne uzyskały we wrześniu 1937 r. wydanie przez miejscowego arcybiskupa zarządzenia o prowadzeniu wykładów religii prawosławnej w szkołach polskich w języku polskim. Zarządzenie to, rzecz oczywista, nie spotkało się z entuzjazmem całego bez wyjątku kleru prawosławnego, lecz drogą wywierania bezpośredniego wpływu na opornych, zarówno przez przedstawicieli administracji, jak i poszczególnych członków konsystorza prawosławnego, opór ten został częściowo przełamany. (...) Również w Gimnazjum Białoruskim w Wilnie wykłady religii prawosławnej są prowadzone w języku polskim.[58]

Дзяржаўныя ўлады ўсё больш катэгарычна патрабавалі таксама ўвядзення польскай мовы ў багаслужбы. Дзеля гэтага выкарыстоўвалася не толькі святы дзяржаўныя, асабліва 11 лістапада, але таксама імяніны маршала Пілсудскага, а пасля яго смерці ў 1935 г. кожную гадавіну смерці.

Першыя багаслужбы на польскай мове адбыліся 11 лістапада 1935 г. у катэдральным саборы ў Беластоку і ў гарнізоннай царкве ў Гродне. У іх заканчэнне заспявана польскія патрыятычныя песні.[59] Знамянальнае, што ўлады з увагаю ды зада-

вальненнем аднатоўвалі кожную найдрабнейшую нават праяву вымушанай канцы канцоў і тады яшчэ чыста вонкавай паланізацыі. Вернікі ў час спарадычных польскамоўных пропаведзяў выходзілі проста з царкваў.

Паспешліва скліканы надзвычайны Сінод зацвердзіў 17 верасня 1936 г. пераклады літургічных тэкстаў на польскую мову і дазволіў весці багаслужбы на польскай мове.[60]

Услед за пастановаю Сіноду шэф вайсковага праваслаўнага душпастырства, капэлян Фэдороньсько, выдаў цыркуляр з загадам весці багаслужбы і гаварыць пропаведзі ў арміі па-польску.[61]

Сярод славянскіх нацыянальных меншасцяў у Польшчы пастанова Сіноду выклікала вялікі рух. Бачылася ў ёй першы крок у напрамку паланізацыі праваслаўя з мэтай выкарыстання яго пасля як прыклады паланізацыі. Праз усе т.зв. крэсы правалілася хваля пратэстацыйных сходаў. Шмат месца пастанове адвяла меншасная прэса, якая згодна яе асудзіла. Востра пры тым атакавала паставу мітрапаліта, дакараючы яго за прыніжаючы сервілізм, ды епіскапаў за кар'ерызм і выслужванне ўраду.

У пачатку снежня 1936 г. мітрапаліт Дыянізы прыняў дэлегацыю віленскіх беларусаў. Дэлегацыя ў складзе: Паўловіч, др Грынкевіч і Дварэцкі склала мемарыял у справе беларускай мовы ў царкоўным жыцці.[62] Візіт тым разам не быў дарэмны. Дамаганні беларусаў сустрэліся з пэўным зразуменнем так з боку самага мітрапаліта, як і яго найбліжэйшых супрацоўнікаў.

У сакавіку наступнага года ў час чарговага візіту ў Варшаве вядомых дзеячоў хадэцыі: кс. Станкевіча, інж. Клімовіча і Паўловіча прынята канчаткова пастанову пра выдаванне часопісу для дзяцей і моладзі на беларускай мове.[63] Першы яго нумар паявіўся ў маі 1937 года. Быў гэта штомесячны дадатак да тыднёвіка „Слово", выдаванага мітраполіяй па-расейску. Часопіс меў загаловак „Снапок", а яго рэдактарам стаў Паўловіч.[64]

Часопіс хутка на сябе сцягнуў увагу. Міністэрства ўнутраных спраў. Ужо 12 чэрвеня 1937 г. начальнік аддзела па справах нацыянальных — Савіцкі ў пісьме Дэпартаменту веравызнанняў МВіПА сцвердзіў, што часопіс з'яўляецца рэакцыяй супраць спробам паланізавання царкоўнага жыцця, дадаючы, што гэтае міністэрства з палітычных прычын стаўляецца адмоўна да гэтай выдавецкай ініцыятывы і просіць прыняць адпаведныя меры дзеля ўстрымання фінансавай падтрымкі часопіса з боку мітраполіі.[65]

Менш чым праз два тыдні пасля МУС шле чарговае пісьмо ў МВіПА, у якім паведамляе, што miesięcznik „Snapok" stopniowo ma być przekształcony na takie wydawnictwo, które mogłoby być wykorzystywane przy nauczaniu domowym dziatwy białoruskiej i niwelowało skutki katechizacji tejże dziatwy w języku polskim.[66]



Дэпартамент веравызнанняў МВіПА інтэрвеньяваў у мітрапаліта і атрымаў ад яго сакратара Рошчыцкага запэўненне, што часопіс перастане выходзіць. „Снапок" аднак далей выходзіў дзякуючы таму, што проста не далучалі яго да экземпляраў прызначаных для міністэрства. Не трывала гэта аднак доўга, бо ўжо ў пачатку лютага 1938 года Ваяводская ўправа ў Вільні паведаміла міністэрства пра выхад беларускамоўнага дадатку для дзяцей.[67]

Дэпартамент веравызнанняў паўторна і катэгарычна запатрабаваў спыніць выдаванне часопіса.[68] Адначасова паразумеўся з МУС, якое 28 лютага выдала сакрэтны загад — канфіскаваць нумар.[69]

Мітрапаліт Дыянізы спрабаваў яшчэ інтэрвенцыі ў міністра Сьвентаслаўскага, але без ніякіх рэзультатаў.[70]

Каб запачаткаваць паланізацыю праваслаўя з нутры, дзяржаўная адміністрацыя дадумалася арганізаваць г.зв. Аб'яднанне праваслаўных палякаў. Першы гурток ці камітэт узнік у Беластоку ўжо ў першай палове 1935 г.[71]

Арганізатарам камітэта быў сам ваявода. Запрасіў ён на спецыяльны сход усіх тых праваслаўных, што працавалі на т.зв. дзяржаўных пасадах. Непадпісанне членскай дэкларацыі трактавалася адназначна са звальненнем з работы.[72]

Неўзабаве ўзнікла падобным чынам такое самае аб'яднанне ў Гродне.

Звяртае ўвагу незвычайнасць патронаў абодвух камітэтаў. У Беластоку маршала Пілсудскага, а ў Гродне — вядомага „пратэктара" праваслаўся — караля Стэфана Баторага.

У тым жа Гродне, з ініцыятывы вайсковых колаў, узнік т.зв. Праваслаўны навукова-выдавецкі інстытут. Хоць ініцыятарам паклікання інстытута была армія, то неўзабаве ініцыятыву пераняло МВіПА, якое ўзяло на сябе галоўны цяжар утрымання яго. Інстытут вёў выдавецкую дзейнасць выключна на польскай мове. Пачынаючы з кастрычніка 1938 г. выдаваў месячнік Przegląd Prawosławny а з траўня 1938 папулярны ў сваім намеры Dwutygodnik Prawosławny Першы яго нумар не спадабаўся аднак у міністэрстве і ў віленскай Ваяводскай управе. Запатрабавана перарэдагавання некаторых артыкулаў і каб мець пэўнасць запатрабавана таксама by na przyszłość materiały przygotowane do druku, były przedkładane tutejszemu Urzędowi do wglądu co najmniej trzy dni przed przystąpieniem do prac drukarskich.[73]

Становішча юрыдычнай часовасці царквы ў Польшчы знайшло сваё канчатковае вырашэнне ў дэкрэце прэзідэнта з 18 лістапада 1938 г.[74] Быў гэта даўно чаканы акт, хаця аб'яўленне яго не выклікала энтузіязму сярод праваслаўных. Працы над дакументам цягнуліся з перапынкамі амаль ад часу аб'яўлення „Часовых правіл". Ад 1935 г. працу над падрыхтаннем дакументу, пад пратэкстам як бы юрыдычнай ігнаранцыі царкоўнікаў, узялі на сябе цалкам міністэрыяльныя ўраднікі. Такім чынам уплыў царкоўных улад на канчатковую форму юрыдычнага акта, які адносіўся да царквы, быў зведзены проста да нуля.

Улады імкнуліся перш за ўсё праўна санкцыянаваць поўнае падпарадкаванне царквы дзяржаве, якое ўжо раней сталася фактам. Дэкрэт амаль цалкам паралізаваў свабоду дзеяння царквы, паколькі не было такой дзялянкі царкоўнага жыцця, якую ўлады схіляліся б прызнаць як унутраную справу самой царквы. Прыкладна ўсе намінацыі на царкоўныя пасады, за выключэннем толькі царкоўнага стоража, залежылі ад раней-шай згоды ўлад. У параўнанні з іншымі, падобнымі актамі, вылучаецца ён надзвычай падрабязнасцю.[75] Змяшчае ў сабе цэлы рад „забеспячэнняў", дзякуючы якім магчымая інгерэнцыя ўлад ва ўсе дзялянкі царкоўнага жыцця.

Дэкрэт уводзіў пэўныя новыя элементы, элементы, саборнага ладу. Справа была ў тым, што папярэдні сінадальна-кансісторскі ўнутраны лад абапіраўся на ўзорах расейскай царквы, а дакладней кажучы — царскай. Быў ён паўсюдна прызнаны за лад акампраметаваны, называлі яго пагардліва цэзарапапізмам. Вялікай аднак папулярнасцю сярод веруючых цешыўся саборны лад. Прызнаны зрэшты Маскоўскім Саборам гадоў 1917-18 за адзіны.

У практыцы т.зв. саборны момант зведзены быў толькі да фасады. Уладам залежыла толькі на тым, каб прапагандова дыскрэдытаваць усю справу.[76]

Побач з літараю права, як вядома, існуе і яго дух. Менавіта „духу" дэкрэта прэзідэнта прысвечана была сакрэтная інструкцыя, якая датычыць рэлігійнай палітыкі са спецыяльным улікам праваслаўнага пытання[77], падпісаная міністрам Сьвентаслаўскім ды разасланая да ведамасці крэсавых ваяводаў у снежні 1938 г. Змяшчала яна апрача агульных дырэктываў рэлігійнай палітыкі таксама дадатак, у якім дакладна разгледжана найболей істотныя з пункту гледжання ўлад артыкулы дэкрэта разам з паясненнямі адносна іх інтэрпрэтацыі.

Генеральна справа заключалася ў тым, наколькі і якім чынам належыла б выкарыстаць паасобныя веравызнанні як інструмент паланізацыі ў рамках разгортванай тады з усё большым размахам акцыі umacniania polskości na kresach.



Палітыка гэта ставіла сабе за задачу, у першую чаргу, умоцніць палітычную мяжу, значыць рыск кардон, шляхам стварэння выразнай культурнай мяжы. Было б гэта магчыма толькі ў выніку паланізацыі беларусаў і ўкраінцаў.

Агульную ўнутраную сітуацыю ў Савецкім Саюзе палічана як карысную, паколькі можа яна прычыніцца да зблізэння інтарэсаў паасобных веравызнанняў з інтарэсамі дзяржавы. У сувязі з чым ад тэрытарыяльных улад патрабавалася, каб яны клалі належны націск на антыкамуністычную акцыю.

W ślad za tą akcją antykomunistyczną, (...) winno — jako jej logiczna konsekwencja — podążać uświadomienie i realizowanie postulatów, dotyczących asymilacji państwowej oraz godziwej akcji na rzecz asymilacji narodowościowej polskiej.

У інструкцыі выяснена таксама ролю каталіцкага касцёла, які пры цесным супрацоўніцтве з дзяржаўнымі ўладамі, павінен узяць на сябе місійную дзейнасць сярод праваслаўных. З тым, што władze państwowe nie powinny jawnie występować jako główni inicjatorzy, a tym bardziej kierownicy akcji nawracania na katolicyzm. W przeciwnym bowiem razie zostałaby utrudniona akcja Państwa na rzecz reformy prawosławia od wewnątrz i jego polonizacji.

Ваяводскія ўлады былі абавязаныя дасылаць справаздачы, якія ў сваю чаргу паслужылі як зыходны пункт дзеля склікання канферэнцыі грамадска-палітычных аддзелаў ваяводскіх упраў. Адбылася яна 14 лютага 1939 г. і была цесна звязана з дэкрэтам прэзідэнта.

У ходзе канферэнцыі аказалася, што адміністрацыя шляхам загадаў рэпрэсій у хуткім часе дабілася значнага прагрэсу паланізацыі, асабліва навучання рэлігіі ў школах і то не зважаючы на тое, што святары наогул слаба валодалі польскай мовай. І так для прыкладу ў Навагрудскім ваяводстве, як сцвердзіў начальнік Рунгэ, około 70% duchowieństwa prawosławnego wykłada naukę religii w szkołach publicznych w języku polskim. Sukces ten w zasadzie udało mi się osiągnąć przy pomocy i współpracy inspektorów szkolnych i nauczycielstwa.[78]

Аднак начальнік з Брэсця заявіў наступнае: Stan asymilacji państwowej i narodowościowej polskiej prawosławia na terenie województwa poleskiego wyraża się w chwili obecnej następującymi osiągnięciami: nauka religii prawosławnej we wszystkich szkołach odbywa się w języku polskim: kazania z okazji obchodów państwowych wygłaszane są z reguły po polsku z odśpiewaniem hymnu „Boże coś Polskę", również do kazań zwyczajnych niedzielnych w szeregu cerkwi poszczególni proboszczowie wprowadzili język polski, tam natomiast, gdzie duchowny, zwłaszcza starszy, językiem

polskim nie włada, dopuszczalna jest gwara miejscowa, w większych ośrodkach i język rosyjski z bezwarunkowym natomiast wykluczeniem języków ukraińskiego i białoruskiego.[79]

З праграмнай прамовай выступіў дырэктар Дэпартаменту веравызнанняў Дунін-Баркоўскі. Яго выступленне не пакідала ніякіх сумненняў. Сказаў ён м. інш.: Polityka wobec kościoła prawosławnego zmierza do pełnej asymilacji państwowej ludności prawosławnej oraz do zwiększenia wszędzie gdzie to tylko możliwe, ekspansji kultury polskiej. Możemy jasno sobie powiedzieć, iż w stosunku do terenów objętych granicami województw wileńskiego, poleskiego, białostockiego, lubelskiego i trzech powiatów północnych województwa wołyńskiego stawiamy sobie za cel polonizację. Cel ten jest do osiągnięcia i nie podlega dyskusji, natomiast należy poddać dyskusji metody, które będziemy stosować. Specjalny nacisk położony być musi na rejon Grodno—Białystok—Polesie, Nowogródek, jako najbardziej podatny.[80]

На характар адносін паміж часткаю святароў а тэрытарыяльнай адміністрацыяй шмат святла кідае наступнае пацвярджэнне дырэктара: o ile udzielanie oparcia lojalnym duchownym jest rzeczą słuszną i konieczną, to niezdrową atmosferę wytwarza zwyczaj zbyt powszechny i rzucający się w oczy czynienia z duchownych konfidentów policji. Дарэчы сам дырэктар не быў зусім супраць, пры ўмове абмежавання аднак гэтай практыкі ды лепшага маскавання.

У навучальным годзе 1938/39 праведзена чыстку ў Студыі праваслаўнай тэалогіі Варшаўскага універсітэта (выкінута м. інш. з пасады праф. Мікалая Арэнева, вучонага з міжнародным аўтарытэтам), у абодвух інтэрнатах, ды ў свежа адчыненым Праваслаўным тэалагічным ліцэі. Чыстку праведзена з мэтай „узмацнення польскасці". На месца выкінутых стаўлялася кар'ерыстаў, т.зв. праваслаўных палякаў, пераважна былых вайсковых капэлянаў.

У пачатку мая 1939 г. праведзена таксама чыстку ў канцылярыі мітрапаліта, м. інш. аддаляючы з пасады дырэктара яго блізкага і адданага супрацоўніка Юрыя Рошчыцкага. На яго месца ўлады назначылі свежа высвечанага епіскапа Цімафея (Шрэттэра), былога капэляна з Любліна. Быў ён адным з двух епіскапаў, звязаных з польскай культурай, якіх пад націскам міністэрства паспешна высвечана. Другім быў Мацвей (Семашка).[81]

Усё большую ролю ў паланізацыі царквы спаўнялі чыноўнікі ніжэйшай адміністрацыі, менавіта старасты і рэферэнты бяспекі. Старасты пасоўваліся некалі да выдавання распараджэнняў, у пісьмовым відзе, забавязваючых святароў гаварыць пропаведзі па-польску.[82] У 1939 г. адміністрацыя энергічна ўзялася ствараць новыя гурткі Аб'яднання праваслаўных палякаў. Неўзабаве ўзніклі павятовыя праўленні ў Нясвіжы, Валожыне, Навагрудку, Слоніме, Стоўбцах, Баранавічах.[83] Прынятыя метады не маглі даць хуткіх і пажаданых, з боку гледжання адміністрацыі, рэзультатаў. Запрашэнні на арганізацыйныя сходы рассылалі павятовыя рэферэнты бяспекі, przy czym organizatorzy wyraźnie oświadczyli, że wykaz nieobecnych na zebraniu, a zaproszonych, będzie przekazany do Starostwa.[84]

З незвычайнай брутальнасцю вялася паланізацыя ў Люблінскім ваяводстве, асабліва пасля 1938 г., калі летам было збураных 127 цэркваў і капліцаў. Начальнік Камінскі з Ваяводскай управы ў Любліне ў час канферэнцыі ў МВіПА назваў гэтае варварства планам перамяшчэння. Выглядае на тое, што асноўнай прычынай праведзенай пацыфікацыі была, з аднаго боку, малая падатлівасць на місіянерскую дзейнасць рыма-каталіцкага касцёла, з другога ж, усё больш выразнае нацыянальна-ўкраінскае аблічча мясцовага праваслаўя.

Хапанне ўлад па так вострыя срэдствы змагання з праваслаўем, як разбурэнне цэркваў і прымушанне да пераходу ў каталіцызм абазначала папраўдзе прызнанне тых жа ўлад да таго, што rozbudzenie ofensywy kościoła katolickiego w celu rewindykacji dusz i złączonej z tym stopniowej polonizacji ludności rusińskiej[86] не прыносіла пажаданых рэзультатаў.

Трэба памятаць, што Беластоцкае ваяводства, падобна як Люблінскае, знаходзілася на першай лініі паланізацыйнай экспансіі на „крэсы". Цяжка сягоння ўстанавіць, ці на Беласточчыне праваслаўе пазбегла таго лёсу, які спаткаў яго на Холмшчыне, толькі дзякуючы таму, што не прыйшла яго ячшэ пара, бо звычайна не хапіла часу, ці проста сталася гэтак таму, што не мела яно характару нацыянальна-беларускага.

* ✲ *

Замест падсумавання — пару агульных заўваг да спраў, якія ў храналагічнай канструкцыі фактаў, мабыць не знайшлі належнага адлюстравання. На пачатак трэба адзначыць, што пастуляты беларусізацыі царкоўнага жыцця былі даволі памяркоўныя. Ніколі не патрабавалася беларусізацыі літургіі, калі для прыкладу ўкраінцы ад самага пачатку ўводзілі ўкраінскую мову таксама і ў літургію. Беларускія дзеячы дамагаліся перад усім навучання дзяцей рэлігіі па-беларуску і беларускіх пропаведзяў.

Не ёсць праўдай тое, што адзінай як бы альтэрнатывай утрымання юрыдычнай залежнасці царквы ў Польшчы ад маскоўскага патрыярха была т.зв. аўтакефалія. Погляд такога роду даволі пашыраны таму, што нават прафесіянальныя поль-

скія гісторыкі, а яны найбольш у гэтай справе напісалі, часта не паглыбляючыся ў сутнасць справы, бяруць проста тое, што якраз зверху, значыць прапагандысцкую ману за рэчаіснасць. Аднак іншай — найбольш пажаданай і натуральнай, калі справа ідзе пра інтарэсы веруючых — альтэрнатывай быў зварот царквы да дэмакратычных, значыць саборных традыцый. Цячэнні такога роду ў самой царкве былі даволі моцныя, асабліва пасля дэмакратызацыі царскага рэжыму ў 1906 г. Маскоўскі Сабор, скліканы пасля лютаўскай рэвалюцыі ў 1917 г. сваімі пастановамі зафіксаваў саборны лад, згодна з якім найвышэйшай уладай царквы з'яўляецца сабор так духоўных, як і свецкіх прадстаўнікоў веруючых. Саборны ўнутраны лад прадбачваў шырокі ўдзел свецкіх у вырашэнні царкоўных спраў. Прадбачваў м.інш. выбар ерархаў. Трэба адзначыць, што цешыўся ён шырокай папулярнасцю сярод верных таксама і ў даваенны час. Асабліва беларускія і ўкраінскія дзеячы вязалі з ім вялікія спадзяванні.

Польскія дзяржаўныя ўлады ад самага пачатку рашуча супрацьдзейнічалі здзяйсненню саборнага ладу. Бадай, што ў 1919 г., у згодзе з духам і пастановамі Маскоўскага Сабору, развязана ў Вільні кансісторыю, паклікаючы на яе месца епархіяльную раду, якую ў сваю чаргу разагналі польскія ўлады. „Часовыя правілы" канчаткова зафіксавалі сінадальна-кансісторскі ўнутраны лад царквы ў Польшчы. Трэба адзначыць, што ў выпадку здзяйснення саборнага ладу юрыдычная падлегласць маскоўскаму патрыярхату сталася аўтаматычна беспрадметнай. Справа была тут аднак не ў незалежнасці, а іменна ў залежнасці, толькі што якраз ад Варшавы.

Сама аўтакефалія не была нават найважнейшай, а напэўна не была мэтай. Куды важнейшай справай, з боку гледжання дзяржаўных улад, быў іменна ўнутраны лад, які адкрываў бы дарогу для падпарадкавання царквы ўладам. Мэтай аднак было ператварэнне царквы з часам у інструмент дзяржаўнай палітыкі, канкрэтна ў прыладу паланізацыі беларусаў і ўкраінцаў. Быў гэта жыўцом перанесены царскі мадэль адносін паміж дзяржаваю а царквою. Асабліва эндэкі былі ім проста заварожаныя, а і пілсудчыкі поўнасцю дацэньвалі прыдатнасць яго для сваіх патрэб. Знамянальнае, што праводжаная імі штораз больш беспардонная паланізацыя не была аднародная, калі ідзе пра метады і сілы націску. Націскалася перад усім там, дзе супрацьстаўленне было найслабейшае. А найслабейшым было яно якраз на абшарах этнічна беларускіх. Зусім інакш выглядала справа на Валыні, дзе нацыянальная свядомасць тамтэйшых украінцаў была даволі моцная, украінізацыя царкоўнага жыцця ў многіх ваколіцах зрабіла значныя крокі і тым самым паланізацыя не мела магчымасці разгарнуцца шырэй, а яе здабыткі былі мізэрныя. Затое на беларускіх абшарах улады аднатоўвалі хуткія і значныя крокі паланізацыі.



## ЗНОСКІ

Усе архіўныя матэрыялы паходзяць з Архіву Новых Актаў у Варшаве.

[1] Фонд амбасады Польскай Рэчыпаспалітай у Лондане 881, с. 3—6. Пісьмо Цывільнай Управы Усходніх Земляў Міністэрству Замежных Спраў.

[2] Józef Pacuk, Polityka państwa polskiego wobec ludności białoruskiej w latach 1919—1926, Warszawa 1980 Mnic

[3] Фонд Міністэрства Веравызнанняў І Публічнай Асветы (далей: МВіПА) 1027, с. 235. Пісьмо патрыярха Ціхана старшыні Рады Міністраў БНР, 14.11.1922, № 135, пераклад з расейскай, мпіс, копія; Пар. Запісы 17.

[4] Pacuk, op. cit.

[5] МВіПА 386, с. 68—69. Niektóre wytyczne polityki MWRiOP wobec obcych wyznań i narodowości, 5.11.1924, Mnic

[6] Krzysztof Krasowski, Związki wyznaniowe w II Rzeczypospolitej, Warszawa—Poznań 1988, s. 119 пар. Mirosława Papierzyńska-Turek, Sprawa ukraińska w Drugiej Rzeczypospolitej, 1922—26, Kraków 1979, s. 104

[7] МВіПА 999, с. 115—153. З'ездавыя дакументы.

[8] МВіПА 975, с. 7. Мітрапаліт Юры ў МВіПА, 7.Х.1922. Сінод Епіскапаў на пасяджэнні 14 снежня 1922 г. пашырыў пастанову ад 16 чэрвеня адносна беларускай і польскай мовы. Яшчэ раз вярнуўся ён да тае справы 7 верасня 1924 г.

[9] Там жа МВіПА мітрапаліту, 19.IX.1922

[10] Там жа. Мітрапаліт Юры ў МВіПА, 7.Х.1922

[11] Там жа. МВіПА мітрапаліту, 19.Х.1922

[12] Там жа. Мітрапаліт Юры ў МВіПА, 14.XI.1922

[13] Там жа. Рэскрыпт МВіПА, 6.XII.1922

[14] Там жа. Беластоцкі ваявода ў МВіПА, 19.V.1923

[15] МВіПА 1260. МВіПА ў МУС і МВС, 25.VIII.1923

[16] МВіПА 975. Пратакол нарады, 26.IX.1923

[17] МВіПА 960. Пратакол канферэнцыі, 6—7.XI.1924

[18] Там жа

[19] МВіПА 314. Пратакол канферэнцыі, 3.XII.1924

[20] Там жа. Справаздача Бароўскага са службовага падарожжа ў Беласток і Гродна, 9.XII.1924

[21] МВіПА 1027. Нататка далучаная да перакладу пісьма патрыярха Ціхана старшыні Рады Міністраў БНР (глядзі зноску [3])

[22] МВіПА 1022. Дэлегат Урада ў Вільні міністру веравызнанняў, 10.VI.1924. Пар. Ваяводская Управа ў Вільні ў МВіПА, 14.III.1926 (там жа)

[23] Там жа. Міністр веравызнанняў Дэлегату Урада, 14.VII.1924

[24] МВіПА 1019. Гродзенскі стараста да беластоцкага ваяводы, 28.V.1923

[25] МВіПА 1022. Міністр веравызнання дэлегату, 20.X.1923

[26] МВіПА 1247—1252, у тым: МВіПА 1250. Пісьмо МВіПА ў МУС, 25.XI.1925

[27] МВіПА 1064. Дэлегат міністру веравызнанняў, 8.V.1924

[28] МВіПА 1240—1246. Персанальныя акты духоўных

[29] МВіПА 314. Справаздача Бароўскага... (зноска [20])

[30] „Праваслаўны Беларус" № 1—22, 1.II.—25.XII.1925. Рэдактарам і выдаўцом быў Іван Пачопка

[31] МВіПА 960, Дарадчык Бароўскі міністру веравызнанняў, 30.I.1926

[32] Там жа. Міністр веравызнанняў у Прэзідыум Рады Міністраў, 12.I.1925

[33] МВіПА 1062. Арх. Фядосій у МВіПА, 20.XI.1928

[34] Там жа

[35] Там жа. Ваявода Рачкевіч у МВіПА, 24.XII.1928

[36] Там жа

[37] Там жа. Віленская Ваяводская Управа ў МВіПА, 7.III.1929

[38] МВіПА 989. Мемарыял групы беларускіх дзеячоў міністру веравызнанняў, 13.XII.1929

[39] Там жа. Ваявода Рачкевіч міністру веравызнанняў, 4.I.1930

[40] Там жа. Дырэктар Дэпартаменту Веравызнанняў МВіПА віленскаму ваяводу, без даты, чарнавік

[41] „За свабоду" № 20, 1930

[42] МВіПА 989. Віленская Ваяводская Управа, Аддзел Бяспекі ў Палітычны Дэпартамент МУС, 18.III.1930

[43] Там жа

[44] Рэзалюцыя з'езда, „Светач Беларусі" № 1, 18.IV.1930

[45] МВіПА 989. Адміністрацыйны Аддзел Віленскай Ваяводскай Управы ў МУС, 20.VIII.1930

[46] Там жа

[47] „Светач Беларусі" № 2/5, кастрычнік 1931

[48] „Царква і Народ" № 1/2, 15.II.1933

[49] Виленский, из белорусского церковного движения, „Воскресное чтение" № 8, 21.II.1932

[50] Гэта толькі гіпатэз, сфармуляваны д-р Юрым Туронкам у размове з аўтарам, вясною 1987 г.

[51] Andrzej Chojnowski, Koncepcje polityki narodowościowej rządów polskich w latach 1921—1939. Wrocław 1979

[52] Фонд Прэзідыум Рады Міністраў 148-3 (далей: ПРМ), Тэзісы, без даты

[53] МВіПА 1168, 68, Zasady dotyczące przeniesienia do Warszawy seminariów duchownych w Wilnie i Krzemieńcu... 11.03.1935, tajne

[54] МВіПА 1156

[55] МВіПА 1153. Справаздача дырэктара інтэрната за навучальны год (другое паўгоддзе) 1935/36



[56] МВіПА 1240. Школьны інспектар у Стоўбцах павятоваму старасту 21.VII.1933

[57] Фонд Міністэрства Унутраных Спраў 963 (далей: МВіПА) Sprawozdanie Wydziału Narodowościowego MSW z życia mniejszości narodowych za I kwartał 1935, druk

[58] МВіПА 368. Рэферат зачытаны начальнікам грамадска-палітычнага аддзела Ваяводскай Управы ў Вільні Ясінскім на канферэнцыі ў МВіПА 14 лютага 1939 г.

[59] МВіПА 975. Ваяводская Управа ў Беластоку ў МВіПА, 14.XI.1935

[60] Фонд Міністэрства Замежных Спраў 2871. Пастанова Сіноду з 17.X.1936

[61] МВіПА 975. Цыркуляр шэфа Галоўнай Вайсковай Управы Праваслаўнага Душпастырства, старшага капэляна Фэдоронько, 21.X.1936

[62] МУС 963. Sprawozdanie Wydziału Narodowościowego MSW z życia mniejszości narodowych za 4 kwartał 1936

[63] МВіПА 1261. МУС у Дэп. Вер МВіПА, 12.VI.1937

[64] Паўловіч быў аўтарам канфіскаванага 29 мая 1937 г. беларускага буквара „Засеў" (там жа)

[65] Там жа

[66] Там жа. МУС у Дэп. Вер МВіПА, 25.VI.1937

[67] Там жа. Грамадска-палітычны аддзел Ваяводскай Управы ў Вільні ў Дэп. Вер. МВіПА, 3.II.1938

[68] Там жа. Не падпісаная нататка, 20.IV.1938

[69] Там жа. МУС у Камісарыят Ураду на сталічны горад Варшаву, 28.II.1938

[70] Там жа. Мітрапаліт Міністру веравызнанняў, 24.III.1938

[71] МВіПА 1234. Беластоцкі ваявода Паслаўскі дырэктару Дэп. Вер. МВіПА, 21.V.1935

[72] Кастусь Сідаровіч. Камітэт Праваслаўных Палякаў у Беластоку „Ніва" № 15, 10.IV.1988

[73] МВіПА 1253. Грамадска-палітычны аддзел Ваяводскай Управы ў Вільні дырэктару Дэп. Вер. МВіПА, 3.VI.1939

[74] Dziennik Ustaw Rz P, Nr 88, poz. 597

[75] Serafin Kiryłowicz, Z dziejów prawosławia w Drugiej Rzeczypospolitej na tle polityki wyznaniowej państwa, 1918—1939, Warszawa 1985, s. 47

[76] МВіПА 386. Дадатак да сакрэтнай інструкцыі з 21 снежня 1938 г.

[77] Там жа. Справаздача начальніка Рунгэ з Навагрудка, 19.I.1939

[78] Там жа. Сакрэтная інструкцыя міністра Сьвентаслаўскага, 21.XII.1939

[79] Там жа. Справаздача з палітычна-веравызнаўчага становішча ў Палескім ваяводстве (дадатак да пратаколу канферэнцыі)

[80] Там жа. Выступленне дырэктара Дэп. Вер. МВіПА Дунін-Баркоўскага

 

[81] Александр Свитич, Православная церковь в Польше и её автокефалия, Буэнос Айрэс 1959

[82] МВіПА 975. Стараста Веляноўскі (праваслаўным святарам) Тамашаў Любэльскі 17 XII.1938

[83] МВіПА 385. Сітуацыйная справаздача наваградскага ваяводы за месяц студзень 1939, 9.II.1939

[84] ПРМ 148—263. Занатоўка пасла Генадзя Шыманоўскага перасланая ў бюро Нацыянальнай Палітыкі, 5.VII.1939

[85] МВіПА 386. Справаздача з палітычна-веравызнаўчага становішча ў Люблінскім ваяводстве (дадатак да пратаколу канферэнцыі ў МВіПА 14 лютага)

[86] Там жа.

**КАСТУСЬ СІДАРОВІЧ**

*Маладому пакаленню гэта як рукапіс пажаўцелы, знойдзены на гарышчы... Пачатак стагоддзя, канец царскай імперыі, першая сусветная, бежанства, урэшце вяртанне на Радзіму — ужо не тую, хаця ранейшая, бачаная вачамі дзіцяці, міжваенны Беласток, „Грамада“, ІБГіК, Таварыства Беларускай Школы... І гэта яшчэ далёка не ўсё з жыццёвых пуцявін Кастуся Сідаровіча, цэлай доўгай, складанай і часта цяжкой дарогі яго пакалення. Кастусю Сідаровічу цяпер за восемдзесят, але яму не сядзіцца на месцы. Сустрэнем яго ўсюды там, дзе нешта адбываецца ў беларускім асяроддзі. Яму ёсць што сказаць і падказаць старэйшым і моладзі. Прапануем увазе чытачоў яго ўспаміны, дзе падзеі сталі гісторыяй.*

# ПА ЖЫЦЦЁВЫХ СЦЕЖКАХ... УСПАМІНЫ

## 1.

Нарадзіўся я ў Беластоку 14 верасня 1906 г. Бацькі мае былі выхадцамі з малазямельных сялян. Вымушаны былі пакінуць вёску і пераехаць у горад, прыстасавацца да новых абставін. Бацька мой быў стопрацэнтным анальфабэтам, вывучанай прафесіі ніякай не меў. Пачаў працаваць у ваўнянай прамысловасці памочнікам пры паровым катле, качагарам. Маці была хатняй гаспадыняй, чытаць магла толькі латынку, пісаць не ўмела. У сувязі з цяжкімі матэрыяльнымі ўмовамі, маці вымушана была браць мыць чужую бялізну, каб падмацаваць дамашні бюджэт. Так выглядала жыццё да цара-бацюшкі...

Бацька мой быў вельмі рэлігійным чалавекам, што нядзелю і ў святы ішоў у царкву, а пры тым валок мяне — чатырохгадовага хлапчука. Не абмінаў царкоўных фэстаў, службу і парадак царкоўны ведаў амаль што на памяць. А я падрастаў так бестурботна... Праводзіў час на гульнях з дзецьмі, гуляючы ў адбіўны мяч, бегаў з ля-



 

таўцам, на розных іншых гульнях. У непагадзь збіраліся хлопцы ў нейкім хлеўчыку і вялі размовы на розныя нас цікавячыя тэмы.

Так праходзіў дзень за днём на абсервацыі акружаючай рэчаіснасці. Найстрашней было прыглядацца, як па вуліцы Марыянпольскай (сёння Бэма) пад аховай жандараў вялі скутых ланцугамі за ногі вязняў з беластоцкага астрогу на судовую справу. Людзі па вуліцы між сабою вялі гаворку, што гэта за палітыку іх судзяць. Хаця мы нашым дзіцячым меркаваннем не разумелі поўнасцю слова палітыка, цешыліся тым, што гэта людзі з чыстай душой і сэрцам, а не нейкія там зладзеі і бандзюгі...

Часта прыходзілася прыглядацца вайсковым парадам, якія былі звязаны з дзяржаўнымі ўрачыстасцямі ў Беластоку. У горадзе размяшчаліся тры палкі царскай арміі і полк літоўскай кавалерыі, марыянпольскі полк кавалерыі і пяхотны полк разам з артылерыяй. У 1913 годзе Беласток быў прыведзены да парадку і чысціні. Дамы і інстытуты ўдэкаравана дзяржаўнымі флагамі, а цэнтр горада быў аплецены дратамі і завешаны разнакаляровымі лямпачкамі. Адбыліся вайсковыя парады ў гонар юбілею трысталецця царствавання дома Раманавых, юбілейныя богаслужбы ў цэрквах і г.д...

Калі мне скончылася шэсць гадоў, бацькамі быў уладкаваны на вучобу ў пачатковую школу — прыхадское начальнае вучылішча з аплатай 1 рубл. у месяц за навуку і кніжкі. Навука тая давалася мне нялёгка, у хаце бацькі не мелі магчымасцей мне памагаць і нейкія незразумелыя мне пытанні прыходзілася вырашаць самому. У школьным годзе 1914/15, распачынаючы ў другім класе вучобу, крыху падрыхтаваўся да будучых заняткаў. Нягледзячы, што выбухла вайна паміж царскай Расеяй, а Нямеччынай, заняткі адбываліся згодна з графікам. 1914 год не меў ніякіх перашкод на заняткі ў школах з боку ваенных дзеянняў, а год 1915 стаў годам трывожным для месяца сакавіка. Пачаліся начныя палёты цэпелінаў, пачалася бамбёжка стратэгічных аб'ектаў. У другой палове сакавіка т.г. паявіліся самалёты, распачынаючы бамбёжку горада сярод белага дня — без разбору. Пры такіх абставінах, навука ў школе далей не магла адбывацца, распусцілі ўсіх вучняў дадому, аж да адклікання.

Да самалётаў стралялі з гарматаў і вінтовак без ніякага выніку, таму што ваенная тэхніка не была адпаведна абсталяванай супраць варожых самалётаў і цэпелінаў.

Быў выданы загад ад ваенных улад, каб жыхары Беластока на працягу 48 гадзін былі падрыхтаваны да выезду ў глыб царскай імперыі. Таварныя вагоны былі падстаўлены для загрузкі на Палескай станцыі (сёння Фабрычная).

## 2.

## (Бежанства 1915—1922)

На месца жыхарства на Украіну, у Екацерынаслаўскую губерню былі дастаўлены пасля трох тыдняў падарожжа. Са станцыі Пяціхатка фурамі завезлі нас у сяло Саксагонь. Пачалі ўладкоўвацца ў прыдзеленай нам хаце.

Мне пайшоў тады 9-ты год і маці запісала мяне ў сельскую школу ў другі клас, дзе спаткаўся я з такою ж моладдзю як сам, але ніяк не мог уцяміць, на якой гаворцы да мяне звяртаюцца. Але ж па пэўным часе даволі спраўна апанаваў іхнюю мову, што аблегчыла мне зносіны з моладдзю ў школе. З навукай у школе я спраўляўся, даволі бегла чытаў па-расейску. Настаўнік адстаючым вучням ставіў мяне — „паляка" за прыклад. Я задаў настаўніку пытанне, чаму ён лічыць мяне палякам, калі я з'яўляюся рускім. Настаўнік выясніў, што цяпер часова пражываем мы сярод украінскага насельніцтва, дзе народ амаль паўсюдна карыстаецца ўкраінскай мовай, а мы — палякі, бо пасля падпісання уніі Вялікае княства Літоўскае было поўнасцю падпарадкавана кароне і таму бежанцаў завуць палякамі. Адказ настаўніка супярэчыў маім меркаванням. Нам — вучням у Беластоку настаўнікі штодня ўбівалі ў галаву, што мы грамадзяне рускай імперыі, прыналежым рускай праваслаўнай веры і з'яўляемся „істінно рускім народом!" У нашых маладых мазгаўнях гэтыя супярэчлівыя погляды настаўнікаў выклікалі недавер. Хто з іх праўду гаворыць, а хто махлюе! Па нейкім часе з сяла Саксагонь бацькі пераехалі ў горад Екацерынаслаўль. Бацька атрымаў пасаду стаража і наглядчыка дзяржаўнай маёмасці пры будове чыгуначнага маста. Пражылі мы там пяць год да моманту, калі было паведамленне, што бежанцы могуць вяртацца на Радзіму. Навуку я закончыў у трэцім класе, бо падчас грамадзянскай вайны снарад трапіў у школу і далей вучыцца не было дзе.

Прыйшоў тэрмін выезду, нагрузіліся ў таварныя вагоны на станцыі Ніжне-Дняпроўск і вырушылі ў напрамку Польшчы. Ехалі да савецка-польскай граніцы дзесяць дзён і ўрэшце на пагранічнай станцыі, назвы якой цяпер не памятаю, састаў вагонаў з бежанцамі затрымаўся і меў прастаяць да раніцы. З ядой было вельмі дрэнна, бацькі і яшчэ некалькі асоб, адправіліся ў бліжэйшыя вёскі на

паграніччы, каб зрабіць замену рэчаў на прадукты. Замен адбыўся даволі спраўна, атрымалі муку, сала, хлеб...

Але калі вярнуліся, на станцыі свайго саставу з бежанцамі не знайшлі, былі адпраўлены ў Польшчу, у напрамку Здалбунава. Не маючы іншага спосабу з'яднацца з роднымі, пастанавілі ўсю ноч да Здалбунова ісці пяшком. Цэлую ноч марасіў дождж. Пры пераходзе граніцы савецкія пагранічнікі затрымалі нас і запрасілі ў сваю зямлянку, праверылі нашу „ношу", рэквіруючы апошні хлеб і сала, загадалі зняць з рукі сярэбраны пярсцёнак і аддаць нож. Потым пусцілі нас у далейшую дарогу, перасцерагаючы перад польскай пагранічнай заставай. Прайшлі ўсю далейшую дарогу і польскую граніцу нікім не заўважаныя. Але ў Здалбунове саставу з бежанцамі не засталі, ад'ехаў у Роўна. Трэба было прадаць муку, каб купіць білеты на цягнік да Роўна. Там з'явіліся ў камісарыяце паліцыі, з просьбай дапамагчы нам спаткацца з сям'ёй. Родных сустрэлі ў Дарагуцку ў каранцінным лагеры. Пасля карантыны, дэзінфекцыі вопраткі, купання ў лазні, уколаў трэба было пагружацца ў таварныя вагоны і адпраўляцца на месца сталага жыхарства. Я ўжо перад Брэстам адчуваў сябе дрэнна, а ў Беластоку адразу з перона забрала мяне санітарная карэтка ў шпіталь. У Беласток даехалі ў красавіку 1922 года. Дадому вярнуўся толькі пасля месяца лячэння цудам перасіліўшы ссыпны тыф. Праз нейкі час ізноў захварэў на ліхарадку, якая мучыла мяне дванаццаць тыдняў. Але як гаворыць прыказка „калі на жыццё, то памогуць і лекі".

Выязджаў 9-гадовым хлапчуком, вярнуўся 16-гадовым падросткам. Калі ачуняў ад хвароб, трэба было пачынаць вывучаць польскую мову, вучыцца пісаць і чытаць. Навуку беглага чытання здабываў саматужніцтвам на сеансах кіно, сам сабе настаўнік і кантралёр. Сталай працы нідзе не было, вольнага часу ўдастатак, то карыстаўся ім дзеля вывучэння грамадскага жыцця тагачаснай Польшчы, бо гэта ўсё на вонкі выглядала па-новаму і адменна... Бяздзейнічаў, валачыўся па вуліцах горада з калегамі, прыглядаючыся да розных мітынгаў, што адбываліся на пляцах горада, прыслухоўваючыся да прамоў, з якіх большую частку не разумеў.

У 1923 годзе ў Акруговым судзе адбываўся працэс супраць 45-ці асоб. Мне з калегамі ўдалося падчас перапынку ў расправе зайсці, незаўважанымі ў залу суда. Седзячы як мышы пад мятлою пачалі прыслухоўвацца да абвінавачанняў пракурора. Падсудным закідалася прыналежнасць да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і дзейнасць, пагражаючую польскай дзяржаўнасці — быццам бы яны падрыхтоўвалі паўстанне з мэтай прылучэння да БССР Беласточчыны, Навагрудчыны, Палесся і Віленшчыны. Што адбывалася далей, нам не прыйшлося бачыць, „няпрошаных гасцей" высачылі і мы апынуліся на вуліцы ашаломленыя магутным, як нясоленай пахлёбкі насёрбаўшыся. Было гэта для мяне ці не першае сутыкненне з нацыянальнай праблемай.

## 4.

З першых гадоў існавання незалежнай Польшчы, пачалі арганізоўвацца палітычныя партыі, культурныя арганізацыі ў тым ліку і нацыянальных меншасцей. Тварыліся эканамічныя ўстановы — беларускі банк, пачатковыя школы і гімназіі з беларускай мовай выкладання, музей імя Луцкевіча, кнігарні, выдавецтвы. Беларускі рух першапачаткова шырока і ўсебакова развіваўся хаця не так ужо і гладка ў сувязі з прыхільнымі адносінамі да яго санацыйных польскіх улад. У Беластоку таксама даспела патрэба арганізаванага дзеяння. У гэтай справе адбылася дыскусія, у якой удзельнічалі пражываючыя ў Беластоку Лукашык Базыль, гімназіст Віленскай беларускай гімназіі, Грыцук Мікалай, Лукашык Язэп, Грыгарчук Язэп, Дзешка Уладзімір і я. На нарадзе даручылі Лукашыку Базылю ехаць у Вільню і наладзіць кантакты з ЦК БСР Грамады, даставіць у Беласток дэкларацыі і збіраць членаў партыі, рыхтаваць людзей да з'езда. Усё гэта трэба было выконваць абсалютна тайна, вербуючы ў члены людзей поўнасцю давераных. Адначасова трэба было сабраць тайную міліцыю, каб не дапусціць да правакацыі з боку польскіх шавіністаў і не сарваць з'езда.

## 5.

Такім чынам у 1926 годзе (жнівень або верасень) у Беластоку, у кіно „Русалка" на першым паверсе адбыўся з'езд БСР Грамады. На з'езд прыбыло 220 дэлегатаў. Прысутнічалі на ім паслы польскага Сейму — Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла і Валошын. Вёў з'езд Рак-Міхайлоўскі. выступалі таксама Валошын і Мятла і восем іншых дэлегатаў. Пасля заканчэння дыскусіі, высвятлення мэт і заданняў да далейшай дзейнасці, прыступілі да выбару акруговага камітэта, цераз пакліканне 5-асабовага прэзідыума. На старшыню быў пакліканы Аляксандр Грэсь, на сакратара Віктар Казлоўскі, іншых прозвішчаў членаў прэзідыума не памятаю... Калі пасля галасавання праз аклямацыю, з'езд набліжаўся да заканчэн-

ня, асталося прыняць рэзалюцыю, у залу сілай уварваліся рознай масці баёўкі ППС — (18 стр...) у суполцы з эндэкамі з крыкам „Прэч камуна“ і г.д.

Нягледзячы на іхнія намаганні, з'езд закончыў свае абрады, прыняўшы аднагалосна рэзалюцыі і адспяваўшы гімн „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі, мы знаем, што трэба рабіць“. Дэлегаты ўсе разам выйшлі на Ліповую, насупраць царквы. Гэта была нядзеля. На вуліцы сабраўся вялікі натоўп народу. Конная паліцыя рабіла намаганні, каб разагнаць натоўп і даць магчымасць баёўкам зрабіць авантуру і мець падставы да арыштаў. Але людзі прысутнічалі да той пары, пакуль не разышліся ўсе дэлегаты. Чулася выкрыкі: Прэч прадажныя шкуры! Сорам адміністрацыі за гвалт і правакацыю!

Вынікі гэтай шавіністычнай правакацыі не патрабавалі доўга на сябе чакаць. Да снежня 1926 года было падпісана 943 дэкларацыі. У студзені 1927 года яшчэ каля 200. Але гэта ўжо быў момант ліквідацыі БСР Грамады Заходняй Беларусі!..

Арганізацыйная дзейнасць даволі інтэнсіўна развівалася і крэпла, займаючы штораз то шырэйшыя кругі беларускага насельніцтва Беластока і акругі. У асабовым складзе членаў Беластока пераважалі работнікі розных спецыяльнасцей (62 прац.), сяляне з ваколіц (33 прац.) і часткова інтэлігенцыя (5 прац.). Развіццё Грамады было не ў смак палітычным дзеячам тагачаснай Польшчы. У выніку чаго пачалася нагонка на яе дзеячоў у польскіх часопісах тыпу „Кур'ер віленскі“ ці „Слова“. (...)

У 1928 годзе ў Віленскім акруговым судзе пачалася судовая расправа над пасламі Польскага Сойму Ракам-Міхайлоўскім, Пятром Мятлой, Паўлам Валошыным, Браніславам Тарашкевічам і шэрагам іншых грамадоўцаў. Былі засуджаны на доўгія гады астрожнага зняволення. Быў гэта доказ вялікага нахабства і гістарычнага гвалту над беларускім народам і палітычным яго рухам з боку санацыйнай Польшчы.

За нядоўга такі сам лёс сустрэў членаў пасольскага клуба „Змаганне“ — паслядоўніка і прадаўжальніка праграмы і ідэі БСР Грамады, старшынёй якога з'яўляўся пасол Гаўрылюк.

Пасольскі клуб „Змаганне“ закончыў дагавор на найм памяшкання ў Варэнгольца на вул. Ліповай у Беластоку, дзеля адкрыцця кнігарні беларускіх выдавецтваў. Звезена было шмат літаратуры і навуковых кніг. Кааператыў „Сяўба“ быў зарэгістраваны ў Акруговым судзе ў Беластоку. Але выдачы дазволу на працягу двух гадоў так і не дачакаўся. Яго маёмасць была канфіскавана, кааператыву былі пастаўлены закід, што яго дзейнасць пагражае дзяржаве...



### 6.

З-за паліцэйскага тэрору і масавых арыштаў, адміністрацыйных перашкод пасля разгрому Грамады і „Змагання“ не было магчымасцяў на дзейнасць у шырэйшых кругах насельніцтва. Паўстала пустка, нейкі параліч... Людзі, якім дарагія былі свае нацыянальныя справы пачалі аб'ядноўвацца ў культурна-асветніцкіх арганізацыях. Першапачатковая была спроба паклікаць Інстытут беларускай культуры і гаспадаркі. Арганізатарам быў кс. Рэшаць — дэкан і выкладчык у Настаўніцкай семінарыі ў Беластоку. У гэтай семінарыі пры ўваходзе на другі паверх вісела табліца з фрагментамі са статута Вялікага княства Літоўскага на старабеларускай мове.

Першапачаткова кс. Рэшаць прачытаў некалькі рэфератаў на тэму беларускай гісторыі, літаратуры, этнаграфіі, гістарычнай геаграфіі Беларусі. Карысталіся яны вялікай папулярнасцю сярод слухачоў. Пашырыць сваю дзейнасць сярод мас ЗБКіТ аднак не ўдалося ці не праз свой ліберальны падыход да акружаючых спраў. ЗБКіТ самаліквідаваўся ў пачатку 1926 года.

Што рабіць далей? Узнікла прапанова паклікання ў 1927 годзе (верасень) гуртка Таварыства беларускай школы ў Беластоку. Першы сход адбыўся ў прыватным памяшканні сябра Язэпа Грыгарчука, дэкларацыі аб прыналежнасці да таварыства падпісала тады 23 асобы. На першым арганізацыйным сходзе паклікана прэзідыум гуртка, якога старшынёй стаў Федарчук, сакратаром Язэп Конкаль. Часова сядзіба гуртка памяшчалася на прыватнай кватэры ў Лукашыка Язэпа. Мне прыйшлося шукаць памяшкання, якое неўзабаве знайшлося. Гэта было пустуючае памяшканне па ф-най канцылярыі і магазінах шарсцяных матэрыялаў фабрыканта Абрама Сланімскага. Хутка знайшліся перашкоды. Улады не маглі сцярпець упорыстай жывучасці Таварыства Б.Ш. Калі не памаглі іншага роду перашкоды, наслалі санэпід, пажарную ахову, прадстаўнікоў адміністрацыі. Па агледзінах камісіі вынеслі пастанову, што памяшканне не адпавядае вымогам бяспечнага прабывання. Таму забараняецца з яго карыстацца. Але заняткі хору і драматычнага гуртка вяліся надалей, нягледзячы на забарону.

Падчас адной з рэпетыцый увайшло двое сышчыкаў польскай „дэфы“, калі пачулі прапанову ад сабраных ветліва закрыць за сабой дзве-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ры, загадалі мне, як аднаму з „нагаворшчыкаў“, ставіцца ў „дэфе“ на вул. Варшаўскай 6 назаўтра раніцай.

Калі так скляліся абставіны, трэба было сабрацца прэзідыуму і рашыць, што ж рабіць далей. Пастанавілі звярнуцца да гаспадара, каб адступіў нам на нашыя патрэбы цэлы будынак. Пасля рамонту, на працягу трох месяцаў трэба было таварыству плаціць 200 злотых у месяц за карыстанне з памяшкання. Грошы знайшліся неспадзявана хутка пасля квэставога збору ў Беластоку і ваколіцах, на што атрымалі дазвол ад гарадскога і павятовага старасства.

У новым будынку пачалі дзейнічаць драматычная секцыя, харавая, рэцытатарская і мастацкай літаратуры. Праз нейкі час пачалі ставіць беларускія п'есы — ва ўласным памяшканні ў суботы, нядзелі і святы, у Беластоку і цэлай акрузе Беластоцкага ваяводства. Беларускае насельніцтва выдатна падтрымала ініцыятыву таварыства.

Першым рэжысёрам быў Аляксандр Андрэйчук, памагаў яму Лявон Богуш, хорам кіраваў Антон Кавальчук. За сем гадоў дзейнасці таварыства было пастаўлена сто шэсцьдзесят сем спектакляў і беларускіх сцэнічных твораў, удзельнічаў таксама хор. Драматычная секцыя налічвала 13 пастаянных акцёраў-аматараў, харавы калектыў налічваў 38 харыстаў. Беластоцкі гурток абслугоўваў у асноўным Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі, Гайнаўскі і Сямяціцкі паветы. Уся дзейнасць давалася нялёгка, вымагала і настойлівасці і ахвярнай самаадданасці, сілы волі і адвагі.

За сямігадовы час існавання Таварыства Б.Ш. былі скліканы два з'езды Акруговай управы. На першым, які адбыўся вясной 1926 года прысутнічалі сябры Галоўнай Управы Таварыства з Вільні Рыгор Шырма і сенатар польскага сенату Аляксандр Уласаў. Старшынёю гуртка быў Сымон Кузьмін, скарбнікам Язэп Грыгарчук, мне прыйшлося быць сакратаром. Дзейнасць таварыства не агранічвалася да пастановак п'ес, таварыства дамагалася і садзейнічала адкрыванню беларускіх школ, брала актыўны ўдзел у выбарах у сейм і сенат выстаўляючы кандыдатаў ва ўсе тагачасныя рады.

Дзейнасць ТБШ паміма матэрыяльных клопатаў, усялякага роду адміністрацыйных перашкод працягвалася інтэнсіўна да 1932 года. Да моманту прыезду з Масквы былога супрацоўніка Камінтэрну тав. Зялінскага, ці як там яго праўдзіва звалі, які адразу прылучыўся да дзейнасці таварыства, пачынаючы муціць чыстую ваду, накіроўваць дзейнасць у палітычным напрамку. З яго дзейнасцю большасць сяброў не згаджалася, матывуючы сваю негацыю тым, што гэта можа быць падставай для ўлад да абмежавання нават культурна-асветніцкай дзейнасці сярод беларускага насельніцтва. Напаміны і заўвагі ў старану Зялінскага не памаглі і ў другой палове 1932 года я злажыў рэзігнацыю з сяброўства ў ТБШ.

Далейшая дзейнасць ТБШ пачала траціць падставы быту, бракавала матэрыяльнай падпоры, гарадское стараства дазваляла толькі на шэсць спектакляў у год. Павятовыя ўлады адмовілі прыдзелу памяшкання на выступы. ТБШ стала даўжніком гаспадару і трэба было апусціць памяшканне і перанесціся на прыватную кватэру. Такое становішча трывала да 1935 года і ўрэшце пастановаю Гарадскога старасства дзейнасць таварыства была забаронена, а дакументы канфіскаваны.

## 7.

Пасля ліквідацыі ТБШ не атрымаліся спробы рэактываваць дзейнасць ЗБТіК, не атрымалі дазволу. У 1937 годзе беластоцкія беларусы спрабавалі заласкыць Аб'яднанне працаўнікоў беларускага тэатру „Полымя“. Да арганізацыі кааператыва забралася 12 асоб: Бакуновіч Ігнат, Андрэйчук Аляксандр, Богуш Лявон, Крывец Сяргей, Кавальчук Антон, Сідаровіч Кастусь, Лукашык Базыль, Дзямідовіч Пётр, Абуховіч Анна, Маеўскі Уладзімір, Гургэнбэнаў Іван. Усё было абгрунтавана на маёўцы ў Юраўцах. Быў падрыхтаваны статут, ішлі пробы арганізацыі хору, драмгуртка і аркестра народных інструментаў, быў падрыхтаваны спектакль на адкрыццё дзейнасці: сядзіба кааператыва мела мясціца па вуліцы Надрэчнай 9. Пры спробе легалізацыі кааператыва гарадское старасства запатрабавала канцэсіі на права пастановак беларускага рэпертуару. Просьбу да ваяводы аб выдачы канцэсіі дəручылі ў лютым 1938 года.

Станоўчага адказу не атрымалі да канца года. Некалькі разоў інтэрвеньявалі, збывалі абяцанкамі. А гарадское старасства ў сакавіку 1939 года зрабіла налёт на сядзібу аб'яднання, канфіскуючы ўсе дакументы і пратаколы „Полымя“, не паведамляючы нават зацікаўленых. Так выглядала дзейнасць адміністрацыі санацыйнай Польшчы, дзе абавязвала права, а хутчэй бяспраўе сільнейшага...

**Апрацавала і даканала выбару
Марыля Базылюк**

**KRYSTYNA GOMÓŁKA**
**(Gdańsk)**

# Stanowisko polskich ugrupowań politycznych wobec ruchu białoruskiego w latach 1918—1922

Białoruski ruch narodowy wstąpił na arenę polityczną w pierwszych latach XX wieku. Od początku swego istnienia natrafiał w swym rozwoju na liczne przeszkody. Wynikały one ze stosunkowo małego indywidualizowania języka białoruskiego, słabej świadomości narodowej co związane było z brakiem poczucia odrębności narodowej mas ludowych. Pod tym względem odbiegała od nich mała tj. nieliczna stosunkowo dobrze wykształcona, nie posiadająca łączności, a co za tym idzie poparcia dla swych planów w społeczeństwie białoruskim. Dodatkowym minusem rozwijającego się ruchu białoruskiego był brak pomocy z zewnątrz. Nie mogli na nią liczyć Białorusini ze strony Rosji, która nie uznawała ich za naród. Nie otrzymali również odpowiedniego poparcia ze strony Polaków. PPS oceniła ten ruch przez pryzmat realizacji własnych celów. Mimo oficjalnych zaprzeczeń czołowi działacze PPS np. Witold Jodko czy Leon Wasilewski niechętnie odnosili się do kwestii odrodzenia białoruskiego, pozostawiając tę sprawę do załatwienia po ewentualnym obaleniu caratu i powstaniu państwa polskiego.[1]

W sposób instrumentalny traktował problem białoruski sam Piłsudski. O Białorusinach pisał w artykule pt. „Nasze stanowisko na Litwie" w następujący sposób: „Czynnik ten pod batem moskiewskim jest bardzo słabym" i dalej „...o Białorusinach jako narodowości dotąd prawie nie ma mowy".[2] W złożonym w 1904 r. japońskiemu MSZ memoriale Piłsudski podkreślając niejednolitość narodową Rosji, dokonał podziału na narody historyczne i niehistoryczne. Białorusinów zaliczył do grupy drugiej wraz z Litwinami i Łotyszami. Narody te, zdaniem Piłsudskiego, nie posiadały tradycji historycznej i nie mogły w przyszłości powołać do życia własnego państwa. Mogły natomiast znaleźć się w sferze wpływów polskich bądź rosyjskich.

Naczelnym celem Piłsudskiego było dążenie do rozbicia Rosji. Środkami do tego celu miało być budzenie niezadowolenia mas z obecnych rządów carskich przez agitację, budzenie dążeń separatystycznych wśród narodów podbitych, wreszcie wspieranie ruchu rewolucyjnego w Rosji. Za główną siłę rozkładową imperium rosyjskiego Piłsudski uznawał Polaków. Wspomagać im mieli Białorusini, zwłaszcza Białorusini katolicy, następnie Litwini, Łotysze i inne narodowości.

W początkowej fazie ruch białoruski popierali ziemianie kresowi np. Jerzy Osmołowski i Roman Skirmunt wspierali finansowo pismo białoruskie „Nasza Niwa". Jednak obawa przed radykalizmem społecznym i politycznym spowodowała, że hasła Białoruskiej Socjalistycznej Hromady nie mogły się cieszyć poparciem skrajnych zachowawców (w programie Hromady znalazły się między innymi następujące żądania: autonomia dla ziem białoruskich, powołanie odrębnego sejmu w Wilnie, prawa społeczno-kulturalne dla mniejszości narodowych oraz hasło przeprowadzenia reformy rolnej).

Nie uznawali ruchu białoruskiego i jego roszczeń endecy ani chadecy. Ich zdaniem ludność białoruska nie prezentowała żadnych dążeń politycznych i narodowych, nie dążyła nawet do zachowania swej odrębności etnicznej. Białorusinom radzono, by zamiast tracić czas na tworzenie własnej kultury czerpali korzyści „...Jakie są do nabycia pod dobrowolnym wpływem starej, a ukształconej kultury, niezależnie od tego, choćby nią będzie polska bądź rosyjska"[3]. Twierdzono również, iż dla części ziem białoruskich znajdzie się miejsce w ramach państwa polskiego. Jednakże przed wybuchem I wojny światowej nie precyzowano zasięgu terytorialnego przyszłego państwa.

Ruch ludowy w początkowej fazie swego istnienia był słaby i pomijał problem wyzwolenia narodowego ziem polskich, nie wspominając nawet o problemie białoruskim. W tej sytuacji Białorusinom pozostali krajowcy. Stanowisko ich ujawniło się równolegle w dwóch środowiskach: konserwatywnej szlachty i postępowej inteligencji. Krajowcy podkreślali swą polską narodowość jednocześnie czując się obywatelami tzw. Kraju, pod którą to nazwą rozumieli ziemie b. W. Ks. Litewskiego. Obszar ten występował w ich mentalności jako spójna całość ekonomiczna, kulturalna o specyficznej strukturze ludności i własnych tradycjach historycznych. Założone w 1907 r. Stronnictwo Krajowe Litwy i Białorusi w swym programie mówiło o konieczności współżycia wszystkich zamieszkujących kraj narodowości i wspólnej pracy dla podźwignięcia go. W ramach tego programu czołowa przedstawicielka nurtu krajowego — Konstancja Skirmunt w latach 1905—1906 przy współ-

— Так, пане следчы, у прыгожай жанчыны можна папрасіць дазволу пацалаваць яе руку або выказаць сваё ашаламленне пекнатою...

— Сціхні-і-іце! — заікліва вывіснуў следчы. Ён ухапіўся на ногі і грымнуў кулаком па стале. — Сці-і-і-це!!! Вам што здаецца: на дурня напалі!? На ідыёта? Кпіць вам захацелася! Насмешак-пасмешак... — хацеў крычаць далей, але астыў. Яму ж нельга крычаць.

Пахадзіў па кутах.

Андрэя ўзяла злосць. З'явілася яна ад нейкага скрыжавання здзіўлення са страхам.

Са злосці і страху бярэцца нянавісць.

Следчаму нібы не выпадала зноў выпытваць пра знаёмую Андрэя, ды і ён сам выбавіў яго ад гэтага клопату.

— Я не скажу вам ні яе імя, ні прозвішча! Дамовіліся?

— Не скажаце? — следчы ажывіўся.

— Не-а.

— Пашкадуеце таго.

— Магчыма.

— Ваша справа.

— Так, гэта сапраўды мая.

— І без вас даведаемся, — следчы закурыў.

Андрэй запрыкмеціў, што ўся размова адбылася надта хутка, машынальна — быццам пачатак шашачнай гульні. У ёй, па праўдзе, не было пытанняў і адказаў. Былі толькі сцверджанні.

Усхвалявана зазваніў тэлефон.

Следчы, нездаволена, падняў трубку:

— Ну, я. Слухаю, — паслухаў. — Буду. Ужо іду.

Згроб паперы са стала. Пакінуў Андрэя аднаго, у нялоўкасці. Абразіўся на яго, ці што?

Зайшоў міліцыянер і сказаў Андрэю:

— Пачакайце, грамадзянін, во тут, у калідоры, — і вывеў яго за сабою.

У калідоры Андрэй сеў у старое крэсла, што стаяла пад сцяною. Падумаў: „Сказаў, аднак, каб мяне вывелі". Мацней атуліўся палітом. Аднекуль увалаклі п'янага і, трымаючы пад пахі, увапхнулі ў дзяжурню, дзе накрычалі на яго і штосьці запісалі. Неўзабаве вывелі яго зноў, а дзяжурны, ідучы за сваімі памагатымі, наказваў: „У выцверазільню яго, сабаку паганага!"

Стала ціха.

Андрэй адчуваў сябе, нібы вучань, якому не хочацца ў школу.

Урэшце падумаў: ім чагосьці трэба ад яго.

Патрэбна нешта няважнае, да таго няважнае, што аж дзіўна, чаму ён яшчэ задумваецца над гэтым! Адрас жанчыны, якая адвяла б ад яго, Андрэя, усе тыя падазрэнні, што прыбіліся, чорт адзін ведае, адкуль. Прадыктаваныя следчаму яе імя, прозвішча, нумар дома, у якім жыве, назва вуліцы, ля якой стаіць гэты дом, закончыла б камедыю арышту і следства. Пасля вочнай стаўкі супольна выйшлі б яны на вуліцу, заселі б у „Асторыі".. Заказаў бы абед і да абеду... Потым... „Што было б потым: назаўтра, праз тыдзень, праз месяц і год?" — Андрэй няясна прадчуваў, што ў іх узаемных адносінах, аднак, адбыўся б нейкі паварот, нейкі зусім мала відавочны, хіба што ў выпадковым жарце або змаўчанні, такі падводны паваротак, бачны ў выглядзе малюпасенькай вірынкі, усяго толькі. Але адно другому ўжо не маглі б верыць да канца, у чымсьці самым галоўным, як шанаванне чалавека чалавекам.

„Што яны мне зробяць? Я ж нічога не ўкраў!" — Андрэй усведамляў сваё становішча. Яно пачало яму падабацца: будзе дадатковы вопыт жыцця. Тым болей, што дасца ён нібы бясплатна яму: арыштавалі яго з суботы на нядзелю, без падстаў, на законныя сорак восем гадзін, да ночы з панядзелка на аўторак, (на рабоце — выкруціцца махлярствам аб хваробе, прастудзе...). Абыдзецца без сенсацыі.

„З камісарыята могуць пазваніць дырэктару!" — асмаліла Андрэя нечаканае меркаванне. Могуць! Што ім гэта значыць? Падыме такі трубку тэлефона, набярэ нумар... Лепш не думаць!

Гэта так.

Час ад часу добра чалавеку пажыць без думак, без пачуццяў. Без сэнсу, бо нават адчуванне радасці абавязвае да чагосьці, падсоўвае мэту. От, сядзець бы сабе ў складзе, калі нідзе нікога, адны нямыя прадметы навокал, уладжаныя, у радах... Або ляжаць у гумне, высока на саломе, на сене, на канюшыне. Або — над рэчкаю: штось ці плыве па ёй, жывое, не мёртвае. Жывое, ах, усё роўна! На другім беразе — ходзіць, не ходзіць, на высокіх нагах, чырвоных, не чырвоных, з дзюбаю, хіба з дзюбаю, мабыць, так... Няважна. Ах няважна тое, што няважна.

Пыл на сцяне. Колькі таго пылу...

Следчы вярнуўся.

Андрэй памкнуўся ісці за ім, але ён прыпыніў яго:

— Паклічу вас.

— Добра, — ветліва адступіў.

Дзверы.

Ноч.

— Прашу, — пачуў над сабою. Андрэй падняў галаву, выпраставаўся і ўстаў з крэсла. Ногі здранцвелі.

На гэты раз яны сустрэліся ўжо іншымі, паіншэлымі.

— Вы знаходзіліся на тратуары...

— Так, я быў тады на тратуары, са знаёмай... — адказаў Андрэй.

— Нічога падазронага не прыкмецілі, будучы са знаёмай? У наваколлі, значыць... — следчы меў на ўвазе толькі наваколле. Ён не патрабаваў звестак пра знаёмую, усё роўна ведаючы, чым гэта закончылася б.

— Не, нічога. — Андрэй злёгку пачырванеў. Яму зажадалася хоць у чым-небудзь дапамагчы гэтаму чалавеку, які, урэшце рэшт, бароніць жа не свайго! — Я, усё-такі, не вельмі разумею, што вы маеце на ўвазе пытаючы, ці не кінулася мне ў вочы нешта падазронае... Зрэшты — між намі мужчынамі, кажучы, — не вельмі што і ўгледзіш, калі поруч з табою знаходзіцца прыгожая жанчына...

— Вы нічагуські, значыць, не прыкмецілі? — не даў яму дакончыць следчы. У ім, як здалося Андрэю, ізноў заімглілася злосць, калі не гнеў!

— Так, нічога.

— Тады вось што я вам скажу, каханенькі-родненькі, — насупіўся. — У мяне няма часу бавіцца тут у коціка ды мышку: пасядзіце ў нас, пагасцюеце, памаленьку даспееце да сур'ёзнай размовы. Ясна!

— Я ж... — Андрэй спатыкнуўся. — Я ж аб нічым не ведаю! Нават у чым справа!?

— Так, так, не ведаеце... — следчы ўжо не слухаў, ішоў да дзвярэй, каб выклікаць дзяжурнага, які выведзе Андрэя ў арыштанцкую.

— Мне — на работу, у панядзелак! — выкрыкнуў. — Як доўга будзеце трымаць?..

— Гэта залежыць толькі ад вас.

Вывелі яго.

Адабралі дзягу, шнуркі, ножык. „Каб вы не павесіліся або не падрэзалі сабе жылы“, — вытлумачыў сяржант. Ён падкепліваў.

Ну і ці ж не смешна? Прыехалі, забралі, падпрагаюць да нейкай зладзейскай справы. Здзіўляюцца тым, што гэта яго здзіўляе... Занадта!

У Андрэя з'явіўся яшчэ і сорам. Ад той далёкай каляднай выпіўкі, калі ён смяяўся са сваёй суседкі, якую судзілі за зладзейства. Яе муж, бабнік, выкарыстаў зручны выпадак і пачаў дабівацца разводу з ёю, як з асобай ненармальнай, што крала маёмасць з дзіцячага садзіка. У мужа былі сувязі ў бальніцы для псіхічна хворых. Усе гідзіліся ёю, а мужу і ніхто дрэннага слоўца не сказаў: зладзейцы, што абкрадала дзяцей, так і трэба!

Суседку выпусцілі з турмы штосьці праз год, няцэлы год. Выявілася, што гэта не яна крала, але бухгалтар. У такіх выпадках — кажуць — асобы, несправядліва асуджаныя, атрымоўваюць вялікія грошы, кампенсацыю... І яна, магчыма, атрымала прыстойную суму...

Андрэй заўзята думаў пра суседку, убачыў у ёй такое, чаго раней не прыкмячаў. Чаго і ў здагадках ягоных не бывала. Ён вырашыў зайсці да яе неадкладна, як толькі выпусцяць яго з гэтай халернай нары, дазволяць ісці дамоў. Зойдзе да суседкі з букетам кветак і шампанскім. Не, так нельга. Так усё будзе выглядаць глупствам. Трэба звычайна, без нічога, з добрым сэрцам і ціхім словам. Да чалавека, які адпакутваў, не прыходзяць з шырокай усмешкай. Так. Праўдападобна, увогуле не прыходзяць.

Ён убачыў у ёй жанчыну з сапраўдным пачуццём годнасці, самым чыстым, якое дае расчараванне людзьмі. Вырашыў, што калі адчуе з яе боку хоць крышачку сімпатыі да яго, да Андрэя, будзе на каленях прасіць яе, каб стала яго жонкаю!

З гэтакай пераконанасцю і заснуў, хоць было цвёрда.

...Пазванілі зверху, каб быў на нарадзе ў кабінеце дырэктара.

— Добра, — адказаў, усё роўна быццам хто пытаў Андрэя, ці згодны ён.

Прыйшоў крыху са спазненнем, не больш, чым на дзве-тры хвіліны. Так трэба. „Расселіся, бы сытыя гусі ля карыта з цестам“, — падумаў аб усіх без зласлівасці, задаволены, што не памыляецца.

Расхіліў губы.

Сказаў:

— Добры дзень, — паўза. — Прашу прабачэння, — гэта наконт спазнення. — Вінаваты, — паказаў, што ўсіх шануе. — Мне прышчаміў хвост начэплівы наведвальнік, — гэта дзеля гумару: „Во, не пануры я, хаця і сур'ёзны“.

Усеўся.

На Андрэя паглядзеў па-быдлячаму адзін такі працавіты, але наіўны, які, здаецца, так і гаварыў, так і гаварыў сваімі вачамі: „Што гэта? Бачце, што гэта такое! Спазніўся, а яшчэ ўсміхаецца, нават вітаецца, гаворыць, жартуе. Ідзе крокам, не дрыжыць у яго лыдка, падыходзіць, падыходзіць да крэсла, да крэсла, што наперадзе ўсіх, дзе не квапяцца красавацца перад начальствам, і таму там незанятыя крэслы, адно ля другога, тры ці чатыры, чатыры! Спыняецца, во, ля крайняга з іх, сядае, усё роўна як перад пачаткам кінасеанса, выгладжвае валасы на патыліцы, апіраецца аб спінку, слухае важных слоў, слухае іх так, што можна падумаць: гэта яго словы! Або мож-

на падумаць: не яго яны датычаць! Сабака, якім важным зрабіўся!!“

На нарадзе гаварылі слушна і непаспешліва, маючы рацыю, і з першых месц. Словы, што будуць выказаны з задніх месц, калі яны акажуцца непадобнымі да тых, з першых, застануцца без рацыі.

Нягледзячы на ўсё гэта хтосьці пачаў размножваць словы, бадай, ці не з апошняга месца. I якраз мала падобныя... Дурань!

Словы:

— Мы чулі тут, што ў нашай рабоце выявіліся, так сказаць, пэўныя недахопы... Некаторыя! Некаторыя? Хачу сказаць — безнадзейныя!! Так, сябры. Час ужо глянуць праўдзе ў вочы...

Словы тыя перапынілі:

— Выступленне калегі сведчыць, што справы, узнятыя на сённяшняй нашай сустрэчы, даспелі да вырашэння. Яны, вядома, не выглядаюць аж так дрэнна, як ахарактарызаваў іх нам шаноўны калега, — гучаў цёплы, бацькоўскі голас. — Градусы ягоных перажыванняў павінны нам, аднак, даць уяўленне аб тэмпературы, у якой давядзецца дзейнічаць, — з вобразнай, памяркоўна вобразнай ды сяброўскай кпінай. — Шчырасць у выказваннях, гэта наша багацце, наш капітал, сябры! Дзякуючы ёй мы грунтоўна выявім усе мелі, што затаіліся на нашым нялёгкім шляху, — сур'ёзны, добры, а вочы: „Скруціш шыю, халера!“ — Дружна возьмемся за работу, бо справа тут не толькі ў перамаганні перашкод, з якімі заўжды даем сабе раду. Справа перш за ўсё ў дружнасці нас усіх, — акторскі ўзмах рукі.

Бурныя воплескі.

Пад воплескамі:

— Цяжкасці — гэта натуральныя знакі нашага росту ды развіцця. Без хады наперад няма цяжкасцяў. Легкавая машына псуецца тады, калі ездзяць ёю...

Смех ад яснасці.

— Мы — тыя механікі, што даглядаюць машыну. I мы ўсё можам сцвердзіць: даглядаем нядрэнна, сябры! Спрачаемся, як лепей рабіць гэта. Так зразумеў я выступленне калегі...

„Таксама, і ў словах сваіх чалавек, які ёсць“, — Андрэй гарача пляскаў у далоні.

Рацыя настолькі пагусцела, што пасля нарады ўсе адклейваліся ад крэслаў з відавочнай натугай. Кожны рух — нібы абмазаны мёдам. Вывалакліся ў калідор. Разыходзіліся абсыхаць, прыпарадкавацца, дыхнуць...

Андрэй прачнуўся ад духаты, вільготнай, халаднаватай. За акенцам днела.

Мацней расплюшчыў вочы.



Улёгся больш выгодна.

Па калідоры нехта прайшоўся. Потым зноў і зноў.

Пакой, у якім зрабілі арыштанцкую, можна было б перааб-сталяваць у нядрэнную кватэру. Падлога зусім добрая, і атынкоўка. Патрэбны толькі ложак, чатыры крэслы, адзін англійскі фатэль, стол, плітка, і — Тася з Цюйміч. Яе пакаціў бы ў мяккія падушкі. Яна гарэзліва баранілася б ад яго, ад пацалункаў у шыю і вушка. А ён тым часам расшпіліў бы на ёй блузку з карункамі і, трымаючы адной рукою яе абедзьве ручкі, сцягнуў бы кароцюленькую спаднічку, сарваў бы кашульку... Распрог бы Тасю з усяго іншага, сам выпрагся б і, ціхенька іржучы, глядзеў бы на яе сарамлівасць, на тое, як спрабуе яна пакурынаму закопвацца ў пасцель, уся ў агні. Выграбаў бы яе назад, на паверхню, паварочваў бы на плечы, каб зазірнуць ёй у вочы, па-дзіцячаму паспешліва дакрануўся б да яе грудзей. Хапаў бы Тасю на рукі і круціўся б з ёю пакуль, прытуліўшыся, не папрасіла б спыніцца, з боязі, каб не ўпаў... Доўта цалаваў бы яе ў вусны, у вушка, у шчочкі, шыю, цалаваў бы па руках, грудзях. Тася патанала б у пацалунках. I тады адбылося б самае важнае, ад чаго свет валіцца ў прорву.

Яна заплакала б ад болю, а ён, Андрэй, супакойваў бы яе, ашаломлены тым, што здарылася. I першы раз спалохаўся б жанчыны!

„Трэба падрамаць“, — хруснуў ён пальцамі. Перад вачыма паўставалі хмары дзяўчат, імёны якіх ён даўно забыў. Вытрашчыўся, каб высушыць сны, прывіды і мары.

Не клікалі.

...Калі бабулька Параска памірала, дзед Максім запальваў грамнічную свечку. Яна часта памірала і дзеду няшмат засталося той грамніцы. Ён знецярпліваўся: „Ты, Параска, або туды, або сюды...“

Была ўжо, бадай, дзесятая гадзіна, калі Андрэю зажадалася ўстаць. Пахадзіў па кутах. Абдумваў становішча, у якім так нечакана апынуўся. Па праўдзе, не вельмі было аб чым думаць: неабходна атакаваць і прарваць усю гэту бязглуздзіцу! „Нашто мне танец на дрыгве?“ — злаваўся ён. Трэба ўчыніць наступнае: цвёрда запатрабаваць у следчага, каб той адказаў яму, у чым ён, Андрэй Антошка, западозраны! „Інакш я перастану рэагаваць на вашы пытанні!“ — ён ведаў, што гэтым нікога не спалохае, але затое сам адчуе сябе лепш, больш ганарова.

Па меры таго, як праходзіў час, а яго ўсё не клікалі, ён неяк набіраўся ўпэўненасці ў сябе. Усё галасней пасвістваў, а нават і падспеўваў. Андрэю ўяўлялася, што там, за дзвярыма арыштанцкага пакоя, бегаюць міліцыянеры, бегае следчы, і нічым ін-

шым не займаюцца яны, як толькі думаннем аб тым, якім гэта чынам выпусціць адсюль яго, Андрэя! Ды мала таго — як выпусціць? Яшчэ — як, якімі словамі, з якой інтанацыяй голасу папрасіць у яго прабачэння... Ого, ён дасць ім зразумець, што думае аб іх. Не будзе бавіцца ў далікатнасць: пальне праўдай па слепняках!

У дзвярах скрыгатнуў ключ — і яны расчыніліся, адсланяючы сяржанта.

Андрэй выйшаў той нецярплівай хадою, якая характэрна для пакрыўджаных або тых, што пачуваюцца справядлівымі.

Чакаў яго іншы следчы — сухарлявы, у акулярах.

— Расказвайце ўсё, як было, — сказаў ён прыкрым голасам.

— Што менавіта?

— Перастаньце клеіць з сябе дурня! — сурова, суха. — Калі ласка, слухаю вас.

Андрэй сеў хаця сесці яго не прасілі. Паглядзеў у нікеляваныя вочы новага і падумаў, міжвольна падумаў, трапна, дзіўна трапна: „Нервуецца, бо застаецца ім штораз меней часу, на працягу якога могуць мяне трымаць тут“.

— Скажыце, у чым справа? Інакай я перастану рэагаваць на вашы пытанні!

— Вы не будзеце ставіць мне пытанняў!

— Вы, пане следчы... — Андрэя пранізала раптоўнае абурэнне. Той зірнуў з-пад броваў на Андрэя і ўтаропіўся ў паперы. Соп і маўчаў.

Адпачывалі.

— Будзеце адказваць ці не? — спакойна да Андрэя.

— Не.

— Злодзея ўтойваеце! — знянацку грымнуў кулаком аб стол. — Круціце!!

— Прашу канкрэтна! — Андрэй: „Якая свіння“!

— Канкрэтна? Добра! Калі ласка, імя, прозвішча і адрас жанчыны, з якой вы былі паміж дваццаць першай і дваццаць другой гадзінамі...

— Досыць! — крыкнуў Андрэй.

— Што?! Ды ці разумееце вы сваё становішча? Ці ведаеце вы, што абавязак кожнага — гаварыць усё, што трэба міліцыі для выяўлення праўды?!

— Ведаю — і не скажу.

— Вы адкажаце за гэтыя словы!

— Не адкажу, бо пратакола з гэтымі словамі я не падпішу.

— Такі з вас цваны госць!

— Такі.

— Далейшы допыт буду праводзіць у прысутнасці сведкі...

— Тады я ўвогуле не буду з вамі шчыры.



— А гэта яшчэ пабачым.

— Вядома.

Следчы падняў трубку тэлефона і сказаў у яе:

— Гэта я. Увядзіце.

„У іх ёсць штатныя сведкі, ці што?“ — не здагадаўся Андрэй. З'явіўся старэйшы мужчына, паголены, чысты і святочны.

— Прыгледзьцеся, калі ласка, ці гэты? — следчы паказаў на Андрэя.

Ветлівы, засаромлены твар незнаёмага. І чамусьці запацелы лоб. Мужчына нічым асаблівым не вылучаўся, і Андрэй, пэўна, ніколі не пазнае яго ў натоўпе вуліцы.

— Той меў, здаецца, іншы выгляд, інакшы, — сказалі пра Андрэя ўважлівыя вочы і памяць незнаёмага. — Было тады, праўда, цёмна... Галава не такая, большая... Куды большая! Ды і наогул...

— Вы не спяшайцеся, — упарціўся следчы. — Прыгледзьцеся дакладна, каб не памыліцца.

— Здаецца, не той...

— Здаецца вам, ці напэўна гэта не той, якога шукаем? — знецярпліўся следчы.

— Напэўна! — уважлівыя вочы адступіліся. — Так, гэта не той.

— Дзякую, вы свабодны, — следчы падаў яму руку. — Мы будзем вас яшчэ турбаваць.

— Калі трэба... — нерашуча сказаў незнаёмец. Ён пайшоў.

Следчы прысеў на край стала. Насупраць Андрэя.

— Курыце? — прапанаваў яму „Спорты“.

— Дзякую. Вы — нашто мяне ўзялі?

— Былі, відаць, падставы...

— Хто напляузгаў на мяне?

— Гэта наша справа.

— Як доўга вы працуеце ў міліцыі?

— Ого, нашто вам гэта? — следчы ўсміхнуўся. — Хочаце пісаць скаргу? Калі ласка. Камендант прымае ў кожны панядзелак ад дзесятай да дванаццатай. Усіх жадаючых. Зайдзіце.

Андрэй наважыўся пазласліўіць, дапячы. Не, агрызнуцца!

— Вы не ўмееце арганізоўваць вочную стаўку.

— Адкуль вы гэта ведаеце? — загаварыў следчы, — як да малога дзіцяці.

— Нават у кінафільмах паказваюць, як трэба.

— У кінафільмах, відаць, маюць час на тое. А ў нас яго няма. Няма. Разумееце? — следчы зайшоў за стол, сеў. — Ну — пагаварылі. Хопіць, — памаўчаў. — Адрас тае жанчыны вам давядзецца ўсё-такі падаць, шаноўны пане Антошка.

— Вы не пераканалі мяне ў неабходнасці таго. Не магу ўявіць яе на маім месцы.

— Гэта не аргумент.

— Мне — так.

Следчы больш не слухаў, пазваніў дзяжурнаму. Сказаў, каб прапусцілі Андрэя.

— Выпускаеце мяне? Не баіцеся, што я папярэджу тую жанчыну, якая такі цікавіць вас?

— Гэта ўжо не будзе мець значэння. Мы яшчэ сустрэнемся... Напрашуся да вас у госці. Да пабачэння.

— Да пабачэння, пан капітан! — адкуль узялося гэтае „пан капітан". Праўда, следчы не пярэчыў. — Заходзьце, буду рады бачыць вас, жартаўліва.

Выпусцілі.

На зімовых тратуарах Ліповай — пуста. Дзесьці ігралі на цымбалах. Андрэй накіраваўся ў бок Сасновай. Яму смактала ў грудзях ад голаду: ён ішоў на гару Магдаліны, на якой — старажытная цэркаўка ў высозных дрэвах, голых. Там каталіся на санках дзеці, яны гналіся са страмізны і даязджалі да Адэскай. Некаторыя — ажно да Цыганскай. Снегу не было многа. З зямлі тырчэлі сцяблінкі леташняй травы. Прымарожвала.

Парк. Гара. Цэркаўка.

Нечакана для самога сябе ён усведаміў, што круціцца тут дзеля супакаення. І, каб з вялікай развагай пагартаць падзеі свайго жыцця. Перагортваючы справу аб арышце, ён сам псаваўся, быццам будзільнік. Але ад усяго таго ўмацоўваліся ў памяці адны падрабязнасці. „Неверагоднае: ад мяне дамагаліся, па сутнасці, слоў і нічога больш апрача слоў! Усяго дзевяць! — Хацелі-іх? Не, гэта, мабыць, не так. Напэўна, не так! Падумаць страшна: калі слова важнейшае ад пачуццяў, якія яно ўсяго толькі называе, тады дзе ж сам чалавек?.."

## ЗАЙКА, ТУПНІ НОЖКАЙ

**Апрацаваў Ян Мордань**

П'еса на аснове казкі Уладзіміра Ягоўдзіка.

Выступаюць:
ВАВЁРКА.
ВОЖЫК.
БАРСУК.
ЗАЙКА.
ЛІСА.

### Сцэна І.

*(Лес. Збоку дзве хаткі: меншая — Вожыка і большая — Барсука. Выходзіць спяваючы Вавёрка.)*

ВАВЁРКА: Свяці, свяці сонейка,
Каб было нам цёпленька.
Добры дзень, мае сябры,
Як прыгожа тут ў бары.

*(пачынае гаварыць)* Нездарма кажуць: з песняй жыць весялей. Хочацца яшчэ і пагуляць, але няма з кім. *(звяртаецца да публікі)* Дзеці, а вы не бачылі тут маіх лясных сяброў? *(з публікі адказваюць — „Не-э")*. Сонейка высока, а яны пэўна яшчэ спяць. І як не сорамна гэтым соням! Як ім не сорамна! Спяць і спяць бессаромнікі, нават пагуляць няма з кім. Думаю, што і вам цікава будзе іх пабачыць, што не? *(з публікі адказваюць — „Та-ак!")*. Добра, я зараз іх пабуджу. Не дазволю, каб бакі адлежвалі. *(падбягае да Вожыкавай хаткі, стукае ў дзверы)* Во-о-жык!... Уставай, калючка! Хопіць табе гультайнічаць... Дзеці чакаюць.

*(Дзверы раптам адчыніліся і выйшаў Вожык. Злосна тупнуў нагою).*

ВОЖЫК: Ты чаго раскрычалася, як сарока-белабока, на ўвесь лес? Рабіць не маеш чаго?

ВАВЁРКА: Прабач, братка Вожык... Я думала, што ты яшчэ ў ложку свае калючыя сны глядзіш...

ВОЖЫК: *(пакрыўджана)* Калючыя... калючыя... А што мае сны горшыя, чым твае?

ВАВЁРКА: Ну, не злуй на мяне, братка Вожык! Прабач, калі ласка! Хочаш, я з табой пагуляю? Так цікава-цікава, вясёла-вясёла!

ВОЖЫК: А ты часам не падманваеш мяне? Напраўду пагуляеш?

ВАВЁРКА: З вялікай радасцю!

ВОЖЫК: І не будзеш баяцца маіх калючак?

ВАВЁРКА: Я іх зусім не баюся. *(гладзіць па калючках Вожыка)* Яны не калючыя, калі датыкацца да іх з дабрынёю.

ВОЖЫК: Ой, як цудоўна! Мяне з-за калючак ніколі не бралі ў гульню. Дзякую табе, сястрычка Вавёрка. Кажы хутчэй у што будзем гуляць? Мо ў „Ката і мышку“?

ВАВЁРКА: У „Ката і мышку“ ўдваіх гуляць нецікава.

ВОЖЫК: Бо і праўда нецікава. Што не, дзеці? *(уздыхнуў).* Будзем толькі бегаць адно за другім. А можа збудзім майго суседа Барсука?

ВАВЁРКА: Давай, збудзім!

*(Вожык з Вавёркаю ідуць да хаты Барсука, стукаюць у дзверы).*

ВОЖЫК: Прачніся, суседзе Барсук!

ВАВЁРКА: Маем да цябе вельмі цікавую справу. Хутчэй адчыняй!

*(Вожык і Вавёрка прыслухоўваюцца. За дзвярыма чуваць храпанне).*

ВАВЁРКА: Вось гэта соня. Пэўна мы яго да самага вечара не збудзім.

ВОЖЫК: Ён прытварака вялікі. А да таго скнара. Баіцца, каб мы ў яго не папрасілі чаго.

ВАВЁРКА: Што нам рабіць? Мусіць сёння мы не пагуляем...

ВОЖЫК: Не бядуй, даражэнькая! Я ведаю, як яго выцягнем з хаты. *(падміргнуў да дзяцей і пачаў крычаць)* Гэй, падзівіцеся ўсе, які тут жыве дзікаваты Барсук! Мы прыйшлі, каб вады прынесці яму, дроў нарубаць, а ён не хоча. Ха-ха-ха! Няхай тады сам усё робіць! Мы пойдзем да другога Барсука, разумнейшага, які ўжо чакае нас!

*(Вожык і Вавёрка быццам адыходзяць, але не паспелі выйсці, як адчыніліся дзверы і выйшаў з хаты Барсук).*

БАРСУК: Пачакайце, пачакайце! А праўда тое, што хтосьці крычаў, ці мне здалося? Гэта вы хацелі ў мяне працаваць? Тады, добра, у мяне работы хопіць.

ВОЖЫК: Так, мы, шаноўны Барсук, стукалі ў твае дзверы.

БАРСУК: Выбачайце, што адразу не адчыніў вам. Глухі стаў, не дачуваю... Ты, Вожык, адразу бяжы па ваду. А ты, Вавёрка, у палацы маім прыбяры. Навошта вам шукаць другога Барсука, калі ў мяне рабіць можна да цямна: вады прынесці — раз, ложак пасланць — два, падлогу памыць — тры...



ВАВЁРКА: Усё зробім, шаноўны. Працаваць мы любім і гатовы парабіць у вас парадкі, але...

БАРСУК: Ну, што вы прыдумалі? Чаго хочаце?

ВОЖЫК: Пагуляй з намі спачатку ў вясёлую гульню.

БАРСУК: Каб я з табою, калючка, гуляў?! Нізавошта! Яшчэ футра сваё аб іголкі твае падзяру.

ВАВЁРКА: Вось які ты! Мы гатовы ўсё табе зрабіць, а ты з намі нават пагуляць не хочаш.

ВОЖЫК: Глядзіце, які вялікі пан! Ха-ха-ха! Не прасі яго, сястрычка. Мы самі пагуляем, а ён няхай: вады прынясе — раз, ложак пасцеле — два, падлогу памые — тры, дроў нарубае — чатыры... Цэлы дзень няхай мучыцца. Хоць мазалі на руках намуляе. Пойдзем, Вавёрка, адсюль.

*(Вожык з Вавёркай узяліся за рукі і адыходзяць вясёла спяваючы).*

ВОЖЫК і ВАВЁРКА:

Раз, два, тры, чатыры, пяць...
Пойдзем мы сабе гуляць.
Мазалі на двух руках
Будуць ў пана Барсука.

БАРСУК: *(застаўшыся, смутна гаворыць)* Вады прынесці — раз, ложак пасланць — два, падлогу памыць — тры, дроў нарубаць — чатыры... *(у след за Вожыкам і Вавёркай крычыць)* Гэй, пачакайце! Я перадумаў! *(пабег за імі. Неўзабаве ўсе вяртаюцца).* Я згодны з вамі пагуляць гадзінку, дзве...

ВОЖЫК: *(смеючыся)* Так бы адразу сказаў. Цяпер відаць, які ён працавіты!

ВАВЁРКА: Ой, як добра. Пагуляем цяпер у „Ката і мышку“. Давайце, я лічу! *(вылічвае па адным складзе на асобу, пачынаючы ад Барсука):*

Раз, два, тры, ча-ты-ры, пяць...
Бу-дзем мы ця-пер гу-ляць.
Я ска-ка-ла, ты ска-каў,
Са-бе но-жань-ку зла-маў!

*(Выходзіць на Барсука. Вавёрка з Вожыкам адскакваюць ад яго і дражняцца спяваючы).*

ВАВЁРКА і ВОЖЫК:

Гляньце, вы, на Барсука
Замяніўся ён у „Ката“.
А ён мусіць іх злапаць.
Мышкі будуць уцякаць,

*(Барсук кідаецца іх лапаць, але Вожык з Вавёркай уцякаюць*

*на публіку. Бегаюць сярод дзяцей. Барсук не можа нікога злапаць і праз нейкі час вяртаецца стомлены на сцэну. Сядае і дыхае цяжка).*

БАРСУК: Ой, не магу я... ужо больш бегаць за тымі жэўжыкамі. Я ледзьве дыхаю...

*(Уваходзіць спяваючы Зайка).*

ЗАЙКА:

Раз, два, тры, чатыры, пяць...
Выйшаў зайчык пагуляць.
Не баюся я ваўка
І смяюся з Барсука. Ха-ха-ха!

БАРСУК: Добра, шэры, што ты з'явіўся. Будзеш за мяне „Катом".

ЗАЙКА: А што гэта сталася з нашым Барсуком?

ВАВЁРКА: *(прыбегла на сцэну)* Добры дзень, Заяц Зайцовіч! Мы рады цябе бачыць! *(услед за ёю прыбег і Вожык).*

ЗАЙКА: Прывітанне, прывітанне, аблезлы хвост!

ВОЖЫК: Скажы, калі ласка, куды ты спяшаешся?

ЗАЙКА: Напэўна не да цябе, калючка! Хіба, ты мне раўня? Паглядзі, якія ў мяне вялікія і прыгожыя вушы. Такія толькі ў мяне ёсць! А ў цябе?.. ха-ха-ха! Глядзець няма на што!

ВАВЁРКА: Паважаны Заяц Зайцовіч. Будзь так добры і пагуляй з намі.

ЗАЙКА: З вамі... гуляць..? Ха-ха-ха! Ой, памру ад смеху! Ха-ха-ха!

ВАВЁРКА: Не хочаш гуляць — не трэба. А мы як пагуляем, снедаць будзем. Братка Вожык, колькі ты сёння морквы нарваў у сваім агародзе?

ВОЖЫК: Нямнога. Толькі адзін кошык.

ЗАЙКА: *(здзіўлена)* Аж цэлы кошык?

ВАВЁРКА: *(да Вожыка)* І што яшчэ маеш?

ВОЖЫК: Свежую капусту...

ЗАЙКА: *(усклікнуў)* Свежую капусту?! *(падбег да Вожыка і ласкава)* Прабач мне Вожычак! Я толькі жартаваў.

ВАВЁРКА: Не. Мы не будзем цябе затрымліваць, Зайка. Не хочам, каб спазніўся ты ў тое месца, дзе ідзеш.

ЗАЙКА: Што вы! Што вы! У мяне вельмі хуткія ногі. Я ўсюды, куды трэба паспею. Вазьміце мяне пагуляць з сабою. Мне так цікава.

ВОЖЫК: Што ж, заставайся. У чацвярых цікавей будзе гуляць.

БАРСУК: *(падняўшыся)* Толькі не ў „Ката і мышку". Я не хачу... Можа ў нешта іншае?

ВОЖЫК: То ў якую гульню будзем гуляць?

ЗАЙКА: У „Заіньку" — давайце. Гэта найлепшая гульня ў свеце. Я буду лічыць. Вылічанка таксама нашая, зайцава, найцікавейшая! *(скокнуў Зайка на пень і вылічвае па адным складзе, пачынаючы па-суседску ад Вавёркі, Вожыка, Барсука, — канчаючы на сабе).*

Раз, два, тры, ча-ты-ры, пяць...
Вый-шаў зай-чык па-гу-ляць.
Хто з у-сіх най-леп-шы друг,
Той і-дзе гу-ляць у круг.

Значыць я! А вы ставайце ў круг, спявайце маю любімую песеньку.

БАРСУК: Гуляць, дык гуляць.

*(Усе бяруцца за рукі ўкруг. Зайка танцуе пасярэдзіне. Водзяць карагод і спяваюць. Зайка — найгаласней).*

УСЕ: *(спяваюць)*

Заінька наш, маладзец,
Заінька наш маладзец.
Ён не можа пасядзець,
Ён не можа пасядзець
Шэрая ў яго сарочка,
шэрая ў яго сарочка.
Зайка, Зайка, тупні ножкай!
Зайка, Зайка, тупні ножкай!
А цяпер замену дай.
А цяпер замену дай,
З нас кагосьці выбірай!
З нас кагосьці выбірай!

*(Усе затрымаліся. Зайка вакруг усіх абышоў і ўздыхаючы:)*

ЗАЙКА: Хочаце — крыўдуйце, хочаце — не, але нікога з вас выбіраць не хочацца мне.

УСЕ: Чаму?

ЗАЙКА: А таму, што ніхто не затанцуе так як я. Найлепшы танцор у лесе — гэта я! Гуляем яшчэ раз, а потым пабяжым да Вожыка ў гасціну. *(Зноў водзяць такі самы карагод і спяваюць:)*

УСЕ:
Заінька наш, паскачы,
Заінька наш, паскачы.

*(У тым часе прыходзіць Ліса і прыглядаецца як танцуюць).*

Бо не ўспееш уцячы,
Бо не ўспееш уцячы.

ЛІСА: Ах, якая прыгожая і цікавая гульня! А хто прыдумаў яе?

ЗАЙКА: Вядома — што я. Няхай усе ведаюць, які я разумны!

ЛІСА: Ай, ты Зайка, які ты малайчына! Я так і думала, што ты найлепшы танцор. Як ён вушкамі трасе, а як грудзі выпінае. Здаецца, глядзела б і глядзела на яго. *(да публікі, каб Зайка не прыкмеціў)* Аж слінка ў мяне цячэ.

ЗАЙКА: А што, не казаў я вам, што найлепш за ўсіх танцую. *(да Лісы)* А яны хацелі б, каб я кагосьці з іх у круг выбіраў.

ЛІСА: Можа, ты, даражэнькі, загуляеш у маю гульню таксама?

ЗАЙКА: Пэўна, што загуляю!

ВОЖЫК: А якая гэта гульня?

ЛІСА: Яна вельмі простая і цікавая, а называецца „Лісчын хвост". Мо чулі?

ЗАЙКА: Вядома, што толькі я пра гэту гульню ведаю.

ВАВЁРКА: Скажы нам, Ліса, пра яе.

ЛІСА: О-о, з прыемнасцю. Слухайце, калі я скажу: раз, два, тры, — тады кожны моцна заплюшчвае вочы і як найгаласней спявае. Той выйграе, хто заспявае найгаласней: — Зразумелі?

ВОЖЫК: Ой, якая дзіўная гульня... Ніхто нікога не пачуе...

ЗАЙКА: Вядома, што цябе, калючка, ніхто не пачуе. Ха-ха-ха! Куды табе раўняцца са мной, і ў танцы, і ў спеве.

ЛІСА: І я так думаю, Зайка, што ў цябе найпрыгажэйшы голас. Зараз усе пераканаюцца. Ставайце ў радок перад дзяцьмі і падрыхтуйцеся. Памятайце, калі скажу: тры — кожны моцна заплюшчвае вочы і голасна спявае.

БАРСУК: А што спяваць?

ЛІСА: Хто, што хоча. Увага — пачынаем: раз, два, тры!

*(Усе стаяць перад публікай, заплюшчыўшы вочы і спяваюць голасна:)*

УСЕ: Ля-ля-ля-ля!... *(у тым часе Ліса схапіла Зайку і пацягнула ў лес. Іншыя звяры далей спяваюць).*

ЗАЙКА: *(найгаласней)* ...ля-ля-яй-ааяй-аяй! Ратуйце мяне!

*(Праз нейкі час Вожык расплюшчыў вочы, разгледзеўся і штурхае Вавёрку і Барсука).*

ВОЖЫК: Сястрычка, Барсук, Зайкі няма і Ліса прапала.

ВАВЁРКА: Ой, бяда сталася. Гэтая зладзейка яго схапіла і панясла.

БАРСУК: Бо ён найгаласней спяваў. Што не — дзеці?

ВОЖЫК: Трэба хутка ратаваць Зайку. Бяжымо за Лісой! *(кінуўся бегчы, за ім Вавёрка).*

БАРСУК: *(застаўшыся)* Я ўжо сёння набегаўся. Мая хата з краю, я нікога не чапаю. Пайду адпачну ў сваёй хаце. *(Ідзе ў сваю хату).*

*(Неўзабаве Вожык з Вавёркай прыводзяць Зайку, які ледзь дыхае).*

ВАВЁРКА: Бедны наш Зайка — выхваляка. Яго трэба ў пасцельку пакласці...

ЗАЙКА: І свежай капусты даць, бо Ліса мяне зусім пакусала.



ВАВЁРКА: У хату Барсука завядзем.

ВОЖЫК: *(стукае да Барсука)* Суседзе Барсук, трэба Зайку палечыць.

БАРСУК: *(з-за дзвярэй)* Я ж не доктар.

ВАВЁРКА: Упусці, трэба Зайку палажыць на ложак.

БАРСУК: Прабачце... але... але ў маёй хаціне будзе кепска Зайцу. Не прыбрана і холадна...

ВОЖЫК: Не бядуй, Барсук, мы ў пакоі падмяцём і печ напалім.

БАРСУК: Дроў няма...

ВОЖЫК: Я сваіх вам прынясу.

ВАВЁРКА: А можа, братка, да цябе Зайку паложым?

ВОЖЫК: Добра. Мая хатка хоць і маленька, але неяк памесцімся. Можа Зайка не паколецца аб мае калючкі.

ЗАЙКА: Не, Вожычак, не пакалечуся. Цяпер я ведаю, што вы мае найлепшыя сябры. Дзякую за тое, што ад смерці выратавалі. Я ўжо больш не буду задавацца і хваліцца.

*(Вожык з Вавёркай уводзяць Зайку ў хату Вожыка).*

ЗАСЛОНА.

## ТАПАГРАФІЯ ДАРОГ, УРОЧЫШЧ І ГІДРАГРАФІЧНАЙ СЕТКІ

Для нас, беларускага насельніцтва Беласточчыны, вельмі важна захаваць нашы назвы дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі. Вельмі многа падзеяў дзеецца на дарогах.

Сэрца маё разрываецца ад жалю, калі бачу, як землеўпарадчыкі па-зверску зніштажаюць старыя грунтовыя дарогі, а з імі шмат нашай гісторыі. Меліяратары перарабляюць прыроду ды геамарфалогію рачных краявідаў. А родная мясціна дарагая кожнаму чалавеку. Частка нашых суайчыннікаў сёння жыве за мяжой Беласточчыны. Нейкія — вельмі далёка, за Акіянам. Як ім добра глянуць на сваю радзіму, дзе ўвекавечана назву тэрыторыі ягонай маладосці!.. У імя гэтага, ды гістарычнай бытнасці нашай, выканана навуковую працу: тапаграфія дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі.

1. Раенская грунтавая дарога, з Гацькоў да Райска. За ўрочышчам Крынічка, ідзе на круты пад'ём. Пылападобны сугліінак. Парадкам зрадзіравана. Суцэльныя калдобіны, прамоіны ды ямы. На абочынах няма кюветаў. Прыблізна на паўдарогі з Гацькоў да Райска ляжыць паваленьі каменны крыж 120-гадовай даўнасці. 2. Крынічка. Вадацёк і ўрочышча. Ручай суняты ў трубы. Пераходзіць праз Раенскую дарогу. Мост пабудаваны з бетонных кругоў. 3. Бэтлах. Узгорак з дробназярністага пылаватага пяску. Колер — яснажоўты. Геамарфалагічная назва: Кама, ледавіковай эпохі. Рыс. 4. Гацькі. Вёска. Колішняя назва — Гатькі. Жыхары сяла праваслаўныя, беларусы. Галоўная вуліца накіравана з усходу на захад. Брук з палявых каменняў. У 1987 г. навезена шчэбнем. Пакрыта асфальтовым бетонам. У Гацьках ёсць тры старыя каменныя крыжы. Адзін, з 1865 г. стаіць на вуліцы ў сярэдзіне сяла. (мал. 7). Астатнія знаходзяцца на яго ўскраінах (з усходу і захаду), у гаспадарчых агародах. 5. Будка. Горка. Тапаграфічны аб'ект — Кама, ледавіковай эпохі. Рыс. Дробназярністы пылаваты пясок. Колер яснажоўты. Тут былі шматлікія гнёзды берагавых ластавак. Па-варварску знішчаны раскопкай. Цяпер ластаўкі ў 1988 г. вярнуліся на горку (БР). У 1982 г. аўтар выканаў тапаграфічныя доследы. Аднак жа прызнаць узгорак аб'ектам аховы прыроды кампетэнтныя органы адмовіліся. 6. Забудкі. Лугавыя ўгоддзі. 7. Замак. Гарадзішча з V стагоддзя нашай эры (мал. 5.). Аб'ект



стаіць самастойна ў шырокай даліне — катлавіне. Сляды жыцця ўсходнеславянскіх качэўніцкіх плямён. Гісторыя нашай бытнасці. Горка складаецца з гліны. Плошча ля падножжа 0,5 га. Вышыня 10,3 м, а даўжыня схілу 15 м. На жаль, раскопкі даследчыкаў нішчаць першасную форму гарадзішча. З паўночнага боку пакінуты вялікія ямы. Дэфармаваны схіл. Цяпер з паўднёвага боку раскапана частка схілу. Зямля асыпалася. Выкап нагадвае паглыбленую эрозіяй дарогу. Гэта трэба ўлічваць. У будучыні, такая форма можа быць памылкова прынята як першабытны шлях на горку. У рэчаіснасці ўваход ёсць ад усходу. Выгляд — сцежкі. У цэнтры гарадзішча знойдзены абломкі керамічнай пасуды. Былі і косці жывёлы па ахвярапрынашэннях. Усё пад гліністым грунтам. Выпраўлялі тут упрыгожанні з бронзы ў каменных формах. У VI стагоддзі н.эры ўсё на горцы згарэла. Жыхары адышлі. Вярнуліся ў XI-XII ст.ст. Вярхоўе „Замка" папраўілі, падсыпалі грунтам. Гарадзішча зарасло travяністай раслiннасцю. З паўночнага боку, на адхоне, растуць купінай маладыя бярозы, вярба. Вельмі цікава, што коні на горцы не пасвяцца. Уцякаюць, нават днём. Чагосьці баяцца. Штосьці іх страшыць. На горцы „Бэтлах", што стаіць побач, коні нармальна пасвяцца. 8. Паўлюковая Гара. Серпападобны ўзгорак, што аблямоўвае „Замак" з поўдня і захаду. Парослы сасной і бярозай. 9. Сінякоўскае. Узвышша з пералескам. Большая частка тэрыторыі — поле. 10. Дубна. За лугам, пры даліне. Тут былі калісьці дубы-волаты. Па-варварску знішчаны ненасытным чалавекам. 11 Міжгор'е. Непрыдатная эрадзіраваная зямля. Дробназярністы пылаваты пясок, яснажоўтага колеру. Шматлікія ямы па бульбе. 12. Міжгорная Грунтавая Дарога. Непрафіляваная — кюветы адсутнічаюць. Глыбока эрадзіраваная, да 2-3 м ніжэй навакольнага грунту. Складаецца з пылаватага дробназярністага пяску жаўтаватага колеру. Праезная частка — пыліца. Глыбокі слой рыхлай масы перашкаджае ў руху транспартных сродкаў. Дарога вядзе ў напрамку на гарадзішча. Аднак жа, да яго не даходзіць. Паварочвае на поўдзень. Па ёй можна даехаць да кургана, у лес і на поле. 13. Заміжгор'е. Поле. 14. Рудкова. Геамарфалагічна — цырк ледавіковага перыяду. Рыс. Трэцяе альпійскае абледзяненне Еўропы. Назва гэта паходзіць ад ракі Рыс, прытоку Дуная. Упадзіна глыбокая — да 10 м. Сцены круглыя, дно плоскае. Схілы параслі густым лесам з перавагай бярозы, сасны. Расце тут бяроза, асіна, вярба. На дне — чорная вольха з хмызняком. Стварае непраходную нетру. Уваход у цырк з паўднёва-ўсходняга боку. Сляды старадаўняй грунтавой дарогі, якая ідзе пры ўсходняй сценцы цырка. Вонкі стаяў насыпаны ўзгорак, па якім асталіся толькі сляды. Служыў ён за месца назіранняў і быў гэта так зв. вар-



таўнічы форт. У сцяне цырка выплаўлялі ліманітаву руду. Выраблялі зброю, сродкі прымітыўнага земляробства і прылады хатняга ўжытку. Ад таго і паходзіць назва ўпадзіны — Руднкова. 15. Шчэлапак. Поле. 16. Падгасцінец. Поле. 17. Пніска. Поле. 18. Вілкі Поле. 19. Баравая. Лес сасновы, бярозавы. 20. Баравая. Грунтавая дарога. Прымітыўная, без кюветаў. Шлях да лесу Сянкоўшчына і на поле. 21. Курганная Дарога. Самая простая. Вядзе да кургана, які насыпаны ў V стагоддзі н. э. стэпавымі качэўнікамі — ўсходнімі плямёнамі. 22. Чэрнякова Гара. Кама. Складаецца з пылаватага дробназярністага пяску, жаўтаватага колеру. Дзесяць гадоў таму назад, тут масава гнездавалі берагавыя ластаўкі. Горку раскапалі ў 1979-1981 г.г. Знішчана іх экалагічнае асяроддзе. 23. Вадаток. Пачатак у даліне, парослай вольхай, за „Чэрняковай Гарою". Цячэ цераз шасейную дарогу Бельск-Падляшскі — Беласток. Вадацёк не перасыхае. Рэчышча знаходзіцца з паўднёвага боку ад „Горкі Лісіцы". Ручай упадае ў р. Белую, каля Грыневіч Вялікіх. 24. Смуга. Поле і пашавыя ўгоддзі. 25. Сянкоўшчына. Лес. 26. Каліч Магілка. Поле на ўзвышшы. 27. Вярбінка. Поле з купінай дрэў. Нейкая ўпадзіна. 28. Арэхвіцкая Грунтавая Дарога. Прафіляваная, з кюветамі па баках. Палепшаная, шчэбнева-гравійная (жвіроўка). 29. Ракітнае. Зараснік з вербалозам. 30. Смужка. Даліна. Пашавыя ўгоддзі. 31. Арэхвічы. Сяло з беларускім насельніцтвам. Праваслаўныя. 32. Рудкавалёвая Даліна. Тут калісьці стаяла прыдарожная кузня. 33. Паграбы. Месца, дзе на зіму ў ямах захоўвалі бульбу. Сёння — поле. Выраўнана ды ўзарана. 34. Глінныя Ямы. Мясціна, дзе дабывалі гліну да будовы печаў ды абмазвання ў сярэдзіне жылых дамоў. 35. Рэпіска. Даліна з іржавай вадою ў паніжаных мясцінах. Лугавое ўгоддзе. 36. Верхалес. Поле. 37. Азарысак. Луг. 38. Праневічы. Сяло. Беларускае насельніцтва, праваслаўнае. 39. Заклунне. Грунтавая дарога за клунямі ды агароды. 40. Княжа Горка. Кама з пылаватага дробназярністага пяску. 41. Крынічка. Урочышча ды пачатак вадатоку ў даліне на ўсход ад Праневіч. Меліярацыйны канал Б-2, там жа. У прытоку канала ёсць крынічка, абсталяваная бетонным кругам. Гэта грамабойнае месца. Каля крыніцы стаяў драўляны крыж ды расла старая вярба. Гром разбіў крыж і вярбу. Мясцовыя людзі часта назіраюць, як бліскавіца зігзагам уваходзіць у зямлю з аглушальным гулам. Паблізу гэтага месца маланка забіла Уладзіміра Ясюка, жыхара Праневіч. Загінула тут шмат жывёлы. 42. Ліскоўшчына. Агароды ў Праневічах. 43 Голае Балота. Балота і луг. 44. Азерца. Тут калісьці было заглыбленне з вадою. Меліярацыйныя канавы асушылі гэткі мікравадаём. 45. Масаўчына. Луг у акружэнні лесу. 46. Тэткаўчына. Луг у акружэнні лесу. 47. Скалы ўзгорак. Раскапаны. Цяпер тут вадаём.



Вада чыстая з пастаянным узроўнем люстра. У бок грунтовай дарогі — знак тапаграфічны. 48. Хутар Праневічы. 49. Рэвіч балота. Луг. 50. Касая Сцежка. Поле. Калісьці тут была сцежка. 51. Вырубы. Поле на месцы высечанага лесу. 52. Стары Гасцінец. Ішоў каля могільніка да нараўскай шасейнай дарогі. Знішчаны подлай рукою землеўпарадчыкаў. Гасцінец мае багатую гісторыю. Існаваў ад часу заснавання сяла Праневічы. Тут, у вельмі глыбокаснежную зіму ў сярэдзіне XIX стагоддзя амаль не замерзла нявеста. Ехалі яны ў царкву ў Бельск-Падляшскі, да шлюбу. Коні тапіліся ў снезе. Не мелі сілы выцягнуць саней. Снег адгарталі лапатамі. Калі заехалі ў Бельск П., нявеста ўжо была непрытомная. Да жыцця яе вярнулі, расціраючы снегам. 53. Арапкова Вялікае. Поле. 54. Плавучае. Поле. 55. Рудплавіска. Плавілі тут ліманітавую руду на жалеза ў кузні. Сёння — луг. 56. Варапкова. Луг. Сенажаць. 57. Беластоцкая шасейная дарога. 58. Беластоцкая Чыгунка. Збудавана ў 1873 г. 59. Хутар Аўгустова (Ягуштова). 60. Строкава. Луг і поле. 61. Арэхвіцкая Шасейная Дарога. Мадэрнізаваная ў 1973-1975 г.г. 62. Рака Белая. У вусці ракі сляды стаянкі каменнага веку. 63. Нараўская шасейная дарога. 64. Бельск Падляшскі. Горад. Сёння налічвае 27 тыс. жыхароў. Паводле летапісу, вялікі рускі князь Яраслаў II, Мудрый, у 1038 г. залажыў пасяленне, якое стала горадам — Бельск-Падляшскі.

## ЭЎРЫСТЫКА АСЯРОДДЗЯ БЫТУ.

— Прыемна пісаць аб сялянскай сялібе. Там захоўваецца беларуская мова, культура, звычай і ўся этнаграфія.

— Кукарэ-кку!.. Голас пеўня ўжо сведчыць, што мы ў сяле. А гусі?!. Маюць сваю мову. Я люблю гусей. Яны сваім крыкам замяняюць сабаку. Гусакі-сапернікі, часта заводзяць бойку паміж сабой (мал. 1).

1. Вада мусіць быць чыстая. Калодзеж будаваць на вышэйшым месцы, далей ад хлявоў — з жураўлём. Забетанаваць навокал (мал. 2). Выканаць дашок на калодзеж, каб ваду не забруджвалі птушкі, апаўшае лісце, дарожны пыл.

2. Ад хлявоў павінны выходзіць бетонныя канавы, зверху накрытыя дошкай — да рэзервуара з гнайнікам.

3. Кураняты ды іншы птушыны маладняк да месячнага ўзросту павінен сядзець у агароджы на сонцы. Зямлю прыкрыць пяском або жвірам да 5-7 см. таўшчыні, а зверху — саломай. Кураняты, качаняты, гусяняты ды асабліва індычаняты не могуць грабсціся ў глебе, якая заражана нематодамі. Паілку вады так трэба пабудаваць, каб яе не забруджвалі птушкі сваімі адходамі. Да кармоў дадаваць вітаміны: прарослы ячмень, салату, рыбін тлушч і інш.






4. Індык-самец не павінен выводзіцца са сваёй чарады. Усе індычаняты будуць вельмі слабыя і калекі. Загінуць. Індыка трэба мяняць у далейшага гаспадара.

5. Адкіды свежых рыб не даваць птушкам. Усе загінуць. У рыб ёсць страшэнная зараза — нематоды.

6. Мяса з вепрука даследаваць на трыхіну (мал. 3). Хвароба вельмі жудасная. Трыхіна можа быць у арганізме чалавека — у мышцах, да 50 гадоў. Каб забіць трыхіну, трэба 320 градусаў тэмпературы. Хвароба выяўляецца на 15-18 суткі ад часу заражэння.

7. Каня не перагружай, разагрэтага не паі, а накрывай. Конь — разумная жывёла. Не бі яго, а лашч.

8. Вялікае значэнне мае геамарфалогія сажалак, рэк, упадзін і выкапанак. Асабліва — форма дна рэчышча, берагоў ды каменні. Зімой у вадаёмах вада замярзае. А арганізмы патрабуюць свабоднага кіслароду. На рэчцы, пад Альшэвам, што ў гміне Боцькі. Быў холад і вада замерзла. Праз моцны, празрысты лёд я назіраў за рыбкамі ў вадзе. Заўважыў, што яны ўсе гуртаваліся каля вялікіх камянёў, што тырчэлі аж над лёдам.

Там яны тыцкаліся мордачкамі. Хапалі малыя бурбалкі паветра. Каб забяспечыць вадаём, трэба навазіць каменя і скласці яго ў піраміды, каб верх выступаў над узроўнем вады на 30-50 см (мал. 4). Тады рыба не будзе душыцца пад лёдам. Будзе мець прыстанішча і ахову ад натуральных ворагаў. Бераг абсадзіць нізкарослай вярбой. Лісце патрэбна вадзе для развіцця водарасцей — корму ды вітамінаў для рыбы.

9. Жыццё ёсць вельмі складаным. Няма нічога пэўнага ў паводзінах чалавека. А вось, іншы раз, з дробязнай прычыны, упадзе ў гнеў. Магчыма, што сказаныя словы — безадказныя. А яшчэ горш, калі ў гневе знішчаць нейкія рэчы. Нельга пры гэтым выключыць т.зв. „растлумачэння ўручную". Можа быць пашкоджана цела — аж да смяротнага канца ўключна. Каб разрадзіць напружаную абстаноўку, неабходны ёсць тормаз. Гэткім рэгулятарам паводзін ёсць орган слыху — вуха (мал. 5).

— Зона рэфлекса „А" — мочкі вуха. Масаж памагае пры павышанай зласлівасці. Апрача гэтага, суцішаецца зубная боль. Глаўком, бяссонніца ўступаюць. Добра дзейнічае і пры блізарукасці. Зона „В" — ножка завітка, — пры хваробе сэрца.

10. Рану ўсякую неадкладна змазаць ёдам, спіртам, нават адэкалонам. Не сыпаць зямлі на рану!.. Можам захварэць на СЛУПНЯК.

11. Калі ты ўкалоўся ў палец ды маеш запаленне яго — мачы палец у гарачай вадзе, да 80 градусаў, 3-4 разы ў дзень. Выздаравееш без хірурга.

12. Апёк, калі яшчэ скура цэлая, лячы прыкладаннем гліны.

13. Не кладзіся ў халодны ложак без піжамы. Прастудзішся.

14. Нанач надзявай на ногі наскі. Ногі — залог здароўя.

15. Мый старанна рукі мылам з вадой нанач. Жанчына твая будзе здаровая. У хваробах жанчын — вінаваты мужчыны.

16. Не абмывайся халоднай вадой, а цёплай. Не сядай на вільготную зямлю — схопіш запаленне нерваў крыжа і інш.

17. Не едзь хутка веласіпедам, калі халоднае надвор'е.

18. Не рубай мяса сякерай-цесакам. Рэж косці пілкай для металу.

19. Не кладзіся спаць калі заходзіць сонца. Захварэеш на мігрэнь.

20. Пасля лекцыі — аставайся ў памяшканні 40 мін. У халоднае надвор'е — прастудзіш горла.

21. Будзь асцярожны пры выездзе за мяжу роднага краю. Захварэеш на пакутлівую хваробу — настальгію, ды і больш не вернешся дамоў.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**







## ЗІГЗАГАПАДОБНАЯ ЗМЯЯ

Вельмі страшэннае імя далі для гэтага п а ў з у н а... Чапляюць імя „з м я я" — да найгоршага чалавека... А сапраўды, змяя ёсць лепшая за яго. Трэба ведаць усім праўду, што зігзагападобная змяя — г а д з ю к а, не нападае на нас. Кусае толькі пры самаабароне. Гадзюка любіць каменне. Там, пад імі — яе дом. Не рэкамендуецца раскладваць шацёр ля каменняў. Ноччу змяя ідзе на паляванне і можаш выпадкова наступіць нагой. Тады, у самаахове, магчыма, што ўкусіць. Былі выпадкі, калі пад спячага чалавека, уначы залазіла змяя. Сагнулась сабе ў клубочак і спала. Вельмі прыемна... у цяпле. Аднак жа прыціснуты паўзун не кусае. Чаму?!.. А мо ведае, што сам вінаваты. Каб гадзюка хацела, дык спячага чалавека ўкусіла б. Наша зігзагападобная — не робіць так. Назва паходзіць ад зігзагаватай лініі.

— Сустрэўшы змяю — не бі яе. Дай магчымасць а д ы с ц і. Змяя патрэбна ў прыродзе. У Галадоўскім лесе знішчалі змеяў. Цяпер мышы ды палёўкі зімою абгрызаюць кару з маладых дрэўцаў.



— У лясной нетры будзь асцярожны!.. Глядзі пад ногі, дзе ідзеш, бо можаш наступіць на змяю. Тады — укусіць. Яд адначасна ёсць і лекам. Выратаваны чалавек не хварэе на рэўматызм.

— НЕ НІШЧЫЦЬ ЗМЕЙ!... Яны маюць права да жыцця таксама як і мы...

**21.01.1989 г.**

**Інж. Рудкоўскін Б. Ф.**
**графіка аўтара**

## З ДНА БАБУЛІНАЙ СКРЫНІ

Адыйшлі ў нябыт саламяныя стрэхі... Ну і добра! Брукаваныя, ці нат пясчаныя вулачкі патанулі ў асфальце. Драўляныя хаты-старухі з адмысловымі аканніцамі, нарожнікамі, ганкамі прыгдядаюцца са здзіўленнем бетонавым мураванкам, якіх усё больш.

Ніхто не стаіць на месцы, хуткаплынная цывілізацыя, якой ці патрэбны сантыменты...?

Аднойчы на вяселлі сяброўкі, сустрэла маладую дзяўчыну з Фінляндыі. Паркалёвы з дробным надрукам сарафан, белая



аздобленая белым гафтам кашуля, медзяная брошa, сплеценыя ў касу валасы. І гэта нацыянальны карэльскі ўбор, святочная вопратка маладой фінкі, з якой не расстаецца яна нідзе, нават у Жэневе, дзе часова пражывае з мужам. Яна і яе сябры расказваюць...

Нацыянальны карэльскі ўзор на пачатку стагоддзя амаль загінуў, людзі перасталі ім карыстацца. Вярнула яго з забыцця моладзь. Сантыменты? Не толькі, гэтая частка забытай старыны — спадчыны ад продкаў, не малы акраец душы народа, яго нацыянальнай свядомасці, самабытнасці, аб чым добра ведалі маладыя фіны-адраджэнцы.

Як мала ведаем аб таямніцах захаваных у куфрах нашых бабуль, каштоўнасцях, якія асталіся нам „ад прадзедаў спакон вякоў..." Не затраціла свайго прывабнага хараства саматканая кужэльная кашуля-сарочка, святочны ручнік, што ўпрыгожваў кут з абразамі... І колькі пра нашых продкаў, пра іх густы, светаўспрыйманне можа расказаць нам сціплы, нанесены крыжыкамі ўзор — кветкі, лісточкі, пеўнікі, геаметрычныя ўзоры — навакольная прырода бачаная вачыма народнай умеліцы. Заварожваюць сваёй уладжанасцю, гарманічнасцю, далікатнасцю чырвона-чорныя, чырвона-сіне-чорныя, бела-сінія матывы на каўнерах, лямоўках, манжэтах...

Некалькі арыгінальных, перанесеных са старых жаночых кашуль пералому XIX-XX ст. узораў нашых беларускіх вышывак з Бельшчыны і Гайнаўшчыны мо памогуць дзяўчатам адкрыць і ў сабе таленты нашых бабуль. У нас жа таксама многае ад продкаў.

**М. Базылюк**



## ЗМЕСТ